—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
31
СТУДЗЕНЯ
1992 г.
№ 5 (3623)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:



Васіль БЫКАЎ: «Гарбачоў і кампартыя пачалі перабудову не таму, што пераканаліся ў перавагах капіталістычнай эканомікі, а таму, што наш «сацыялістычны» метад гаспадарання зжыў сябе, і мы сталі банкрутам у спаборніцтве з Захадам. Гэтым жа скончыць кожны новы Франка, Піначэт ці Салазар».

Учора — забава, а сёння!..

Фота Сяргея ГРЫЦА.

# Кола Дзён

**22 СТУДЗЕНЯ**

На мінулым тыдні не адбыліся намечаныя раней важныя сустрэчы ў Мінску — у прыватнасці, міністраў замежных спраў краін СНД. І на гэта, трэба думаць, ёсць сур'ёзныя прычыны.

Праўда, у сталіцу Беларусі прыехалі прадстаўнікі парламентаў незалежных дзяржаў (у рангу намеснікаў старшынь). Яны дамовіліся аб сустрэчы — зноў жа, у Мінску — першых кіраўнікоў заканадаўчых органаў дзяржаў Садружнасці. Але ці адбудзецца яна — ніхто сёння гарантый не дасць.

Некалькі месяцаў таму прэс-сакратар Прэзідэнта Расіі выступіў з заявай аб тым, што расійскае кіраўніцтва пакідае за сабой права ў пэўнай сітуацыі ўзняць пытанне аб межах паміж суверэннымі дзяржавамі, якія ўваходзілі ў СССР. Гэта выклікала скандал, які з цяжкасцю ўдалося патушыць.

**23 СТУДЗЕНЯ**

І вось расійскі парламент прымае заяву, змест якой, калі адкінуць дыпламатычныя фармулёўкі, зводзіцца да прэтэнзій на Крым і ўвесь без выключэння Чарнаморскі флот. Падстава: рашэнне Хрушчова ўключыць паўвостраў у склад тагачаснай УССР было неканстытуцыйным. (Канстытуцыйныя правы крымска-татарскага народа, зразумела, пад увагу не бяруцца.) Што гэта — пачатак падзей паводле югаслаўскага сцэнарыя?

Выпадкова ці не, у той самы дзень латышскі парламент афіцыйна ўзняў пытанне аб вяртанні Латвіі былога Абрэнскага павета (цяпер Пыталаўскі раён Пскоўскай вобласці)...

Падобна на тое, што незалежным дзяржавам лягчэй дамовіцца з краінамі Захаду, ці, напрыклад, з Кітаем, чым паміж сабой.

**24 СТУДЗЕНЯ**

Дамовіўшыся з Пекінам аб пастаўках рысу ў абмен на грузавікі, прэм'ер-міністр Беларусі В. Кебіч завітаў у Манголію, з якой у Беларусі таксама будуць цяпер дыпламатычныя і эканамічныя адносіны. Пра лёс турыстаў, якія разам з прэм'ерам вылецелі самалётам у Кітай, нічога не паведамлялася.

**25 СТУДЗЕНЯ**

Дарэчы, менавіта з Усходу, а не з Захаду (а дакладней, з Казахстана) прыбыў да нас міністр замежных спраў Францыі Р. Дзюма, які знаходзіўся ў паездцы па СНД. У Мінску Дзюма правёў перамовы са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевічам, міністрам замежных спраў рэспублікі П. Краўчанкам, з П. Чавусам, які цяпер выконвае абавязкі міністра абароны Беларусі. Быў падпісаны пратакол аб усталяванні дыпламатычных адносін паміж Францыяй і Беларуссю.

Французскі дыпламат выказаў заклапочанасць Парыжа наконт лёсу ядзернай зброі. І быў запэўнены беларускім кіраўніцтвам: тактычныя ракеты будуць выведзены з рэспублікі яшчэ сёлета, а ў 97-м годзе, калі скончыцца вывад стратэгічнай зброі, Беларусь стане бяз'ядзернай.

**26 СТУДЗЕНЯ**

Адразу ўслед за Р. Дзюма ў Мінск прыбыў міністр замежных спраў Партугаліі Ж. дэ Дэуш Піньейру. Яго прыняў Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі. Дарэчы, місія міністра была звязана з даручэннем краін еўрапейскага Агульнага рынку, а таксама канферэнцыі ў Вашынгтоне па каардынацыі дапамогі краінам СНД. Другі тур канферэнцыі адбудзецца неўзабаве ў Лісабоне.

А ў Беларускай вайсковай акрузе ўпершыню навабранцы прысягалі на вернасць Беларусі.

**27 СТУДЗЕНЯ**

Сенсацыяй стала інтэрв'ю Прэзідэнта Расіі Б. Ельцына, які заявіў, што ядзерныя ракеты стратэгічнага прызначэння на тэрыторыі федэрацыі, нацэленыя на гарады ЗША, з панядзелка ім больш не пагражаюць. Незразумела было, праўда, куды цяпер будуць нацэлены ракеты (у космас ці што?) Але высветліць падрабязнасці журналістам у той дзень не ўдалося.

**28 СТУДЗЕНЯ**

Б. Ельцын прыбыў уначы ў Наварасійск, на ваенна-марскую базу, дзе разам з маршалам Я. Шапашнікавым сустрэўся з камандаваннем Чарнаморскага флоту.

Прэзідэнт Украіны Л. Краўчук тым часам змяніў камандуючых трох вайсковых акруг на тэрыторыі рэспублікі.

**29 СТУДЗЕНЯ**

Расійскі прэзідэнт выступіў па тэлебачанні і радыё з заявай, у якой выкладаецца праграма скарачэння стратэгічнай ядзернай зброі, іншых відаў узбраенняў і выдаткаў на абарону.

Тым часам Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіч адбыў у Швейцарыю на міжнародны форум па праблемах эканомікі. У форуме ўзялі ўдзел і кіраўнікі іншых незалежных дзяржаў.

# МЫ ЗА ЦАНОЙ НЕ ПАСТАІМ?

## З прэс-канферэнцыі ў Савеце Міністраў

У першыя дні новага года новыя цэны выклікалі ў людзей натуральную цікавасць, змешаную з жахам, абурэннем і... надзеяй. Мроілася, што на прылаўках аднекуль з'явяцца самыя розныя тавары.

Цяпер жа, здаецца, інфармацыя аб чарговым павышэнні цэн (цяжка назваць цэнавы «гвалт» лібералізацыяй) успрымаецца большасцю са змрочным адчаем. Складваецца ўражанне, што і ўрад Беларусі з нейкім, так бы мовіць, фаталізмам назірае за развіццём падзей.

На жаль, прэс-канферэнцыя ў рэспубліканскім Саўміне, прысвечаная цэнам і мерам сацыяльнай аховы насельніцтва, далёка не развеяла гэтага ўражання.

У выступленні намесніка старшыні Дзяржэканомплана У. Міхасёва, напрыклад, гучаў наступны тэзіс — сітуацыя ў рэспубліцы цяжкая, але ў суседзяў становішча яшчэ горш. Успомнілася, як зусім нядаўна прыводзіліся статыстычныя звесткі, якія павінны былі сведчыць пра эканамічную стабільнасць БССР у параўнанні з іншымі рэспублікамі Саюза. Потым ганарыліся тым, што тэмпы спаду вытворчасці ў нас усё-такі ніжэй, чым у іншых. Цяпер параўноўваем рост цэн. На Украіне і ў Расіі яны вышэйшыя. Але нам хіба ад гэтага лягчэй?

У. Міхасёў падкрэсліваў, што урад Беларусі не ідзе ўслед за кімсьці, у яго, маўляў, свой падыход да палітыкі цэн, якія адпускаюцца паступова. Але крыху раней ён даводзіў журналістам, што ў рэспубліцы не было выйсця — практычна ўся сыравіна, большая частка збожжа завозяцца з-за межаў Беларусі. А цэны дыктуе вытворца.

Лічылася, што іх сярэдні ўзровень павысіцца ў рэспубліцы ў 2,46 раза. Такі быў прагноз экспертаў-эканамістаў. А ў рэальнасці, як паведаміў на прэс-канферэнцыі першы намеснік старшыні Дзяржкампрацы А. Козел, цэны павысіліся у 5—10 разоў (больш дакладных звестак на сённяшні дзень няма). Таму меры па сацыяльнай ахове насельніцтва, прынятыя нядаўна ўрадам, аказаліся недастатковымі, і ў бліжэйшы час будуць прымацца дадатковыя захады. У прыватнасці, будзе перагледжаны мінімальны ўзровень зарплаты, пенсіі, стыпендыі і іншыя выплаты.

Па словах намесніка міністра фінансаў А. Тарасевіча, сітуацыя аказалася надзвычай цяжкай яшчэ і таму, што новая сістэма падаткаабкладання, прынятая Вярхоўным Саветам, аказалася недасканалай. У выніку паступленні ў бюджэт рэспублікі падаткаў з прадпрыемстваў былі ў студзені прыкладна на трэць меншымі, чым планавалася.

Акрамя таго, аптовыя цэны на паліва і энергію ўзраслі шматкроць, а розрічныя цэны на многія прадукты заставаліся ранейшымі, і гэта прынесла мільённыя страты дзяржаўнай казне, адкуль чэрпаліся і чэрпаюцца грошы на датацыі.

Ці можа ўрад паправіць фінансавую сітуацыю? Мне падалася характэрнай агаворка намесніка міністра, які заявіў, што грашовая эмісія знаходзіцца ў руках... цэнтра. А. Тарасевіч адназначна выказаўся за пераход Беларусі на сваю нацыянальную валюту. Але гэта ў будучым. Пакуль жа дапускаюцца і іншыя варыянты. Як вынікала з адказу намесніка міністра на адно з пытанняў, зараз абмяркоўваецца магчымасць выкарыстання рубля са спецыяльнай адзнакай —«Беларусь». Адказаў на пытанні, што будзе з астатняй масай «неадзначаных» рублёў і які лёс чакае грашовыя ўклады, журналісты, па сутнасці, не атрымалі.

Падводзячы вынікі прэс-канферэнцыі, У. Міхасёў згадзіўся з тым, што меры кантролю за цэнамі пры пераходзе да рынку (устанаўленне ўзроўню рэнтабельнасці, спагнанне штрафаў з прадпрыемстваў-манапалістаў, якія будуць парушаць устаноўленыя правілы і г.д.) мала што дадуць без рэальнай дэманапалізацыі вытворчасці і шырокай прыватызацыі. Але тут патрэбна заканадаўчая база. А гэта ўжо справа Вярхоўнага Савета.

Пакуль жа нас чакае павышэнне цэнаў на мяса. Кілаграм ялавічыны будзе каштаваць у сярэднім каля 53 рублёў, свініны — да 57. Магчыма, калі гэты нумар «ЛіМа» выйдзе ў свет, рашэнне ўрада ўжо будзе прынята. **Віталь ТАРАС.**

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# АФІЦЭРСКІ СХОД: АДЧАЙ І РАЗГУБЛЕНАСЦЬ

17 студзеня адбыўся Усеармейскі афіцэрскі сход у Крамлёўскім Палацы з'ездаў, удзельнікам якога быў і аўтар гэтых радкоў у складзе невялічкай дэлегацыі з трох чалавек ад Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ). Праблемы, якія ўздымаліся на сходзе, яго вынікі ўжо вядомы мільёнам тэлегледачоў, але хочацца падзяліцца асабістымі ўражаннямі.

Яшчэ на падыходзе да Крамля ўдзельнікаў сходу сустракаў стракаты натоўп са сцягамі не існуючых ужо савецкіх сацыялістычных рэспублік, плакатамі, што заклікалі абараніць краіну сацыялізму, адзінства Узброеных Сіл. Духавы аркестр іграў «Варшавянку». Добра апранутыя грамадзяне — у большасці жанчыны — спынялі ці не кожнага афіцэра і лямантавалі: «Спаси Родину», «Защити нас от предателей» і да т.п. Усё нагадвала нейкі тэатр абсурду.

У Палацы з'ездаў удзельнікам сходу нейкія людзі бясплатна раздавалі газеты «Наша Россия», «Русский вестник», «Казачьи ведомости», розныя лістоўкі. Афіцэры бралі гэтую друкаваную прадукцыю, але нешта не было відаць, каб нехта кідаўся адразу яе чытаць. Адпаведны інтарэс выклікалі і экзатычна апранутыя ў форму данскіх і кубанскіх казакаў ці то дэлегаты, ці то статысты, якія гучна расказвалі пра гісторыю і традыцыі казакаў. Невялікія групкі збіраліся вакол нядаўна ваяўнічых, а зараз нейкіх абмяклых і панылых «чорных палкоўнікаў» Алксніса і Петрушэнкі.

Пачатак сходу многія ўдзельнікі сустрэлі абструкцыяй: плясканнем у далоні, крыкамі і нават свістам, патрабуючы прамой тэлетрансляцыі, неадкладнага прыбыцця на сход кіраўнікоў усіх суверэнных дзяржаў супольнасці. Нехта з жартам прапанаваў: «Заодно и Буша». Не абышлося і без інцыдэнтаў. Старшыню скандальна вядомага саюза «Щит» Уражцава прымусілі пакінуць сход ледзь не сілай.

Бальшавіку апошняй хвалі Анпілаву з заклікамі: «Спасти социалистическое Отечество» таксама прамову скончыць не далі, выключыўшы мікрафон.

Пасля абеду ў буфеце (некалькі сасісак і чай коштам 20 рублёў) вочы нашых афіцэраў зусім пасумнелі. Ды і як было не пасумнець, калі з шаноўных прэзідэнтаў краін СНД на сход прыехалі толькі Ельцын ды Назарбаеў, ды і тыя хутка недзе зніклі. Кіраўніцтва Узброеных Сіл нічога прапанаваць не змагло. Так і засталіся афіцэры сам-насам са сваімі праблемамі, нікому не патрэбныя. Некаторыя дэлегаты, не маючы надзеі на нейкае вырашэнне праблем, пачалі пакідаць залу.

Становіцца ўсё больш відавочным, што некіруемы распад Узброеных Сіл былога СССР працягваецца. Таму нашаму беларускаму ўраду трэба хутчэй браць пад сваю апеку ўсе войскі на тэрыторыі рэспублікі, ствараць беларускае войска і думаць аб тых тысячах вайскоўцаў-беларусаў, якія праўдамі і няпраўдамі ужо пачалі ўцякаць на Бацькаўшчыну з іншых былых саюзных рэспублік.

**Алесь ЛАБАТЫ,**
**падпалкоўнік, член**
**Каардынацыйнай рады БЗВ.**

# ШАБАШ КРУМКАЧОЎ

**Цяжкае ўражанне пакінуў у душы гэтак званы агульнавайсковы сход афіцэраў, што адбыўся ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў 17 студзеня. Я глядзеў гэты «спектакль» па тэлевізары. Неаднойчы хацеў выключыць сваю «скрыню», але стрымаўся, перамог сябе, працягваў сузіраць гэты шабаш крумкачоў. Часам здавалася, што гэта прывід, што гэта я сню. Але — не. На жаль, гэта адбывалася сапраўды. Колькі глупстваў давялося пачуць, колькі непавагі да ўсіх нас. З якім нахабствам удзельнікі сходу патрабавалі выклікаць да сябе кіраўнікоў незалежных дзяржаў. Хто даў ім на гэта права?**

**Дарэчы, мяне вельмі здзівіла тое, што два прэзідэнты, Б. Ельцын і Н. Назарбаеў, не паставілі гэтых нахабнікаў на месца. Трэба было гэта зрабіць абавязкова! Паказаць ім, давесці, што войска існуе для народа, для дзяржавы, а не наадварот. І калі яны не хочуць служыць народу, прапанаваць ім скончыць гэты шабаш, разысціся.**

**Можна было дараваць адно таму маёру «Советской Армии Советского Союза», што блазнаваў на сцэне пры заканчэнні сходу. Што возьмеш з хворага на розум? Але ж там былі і «выступалі» сівыя генералы і палкоўнікі — ахоўнікі памерлага Саюза, патрабавалі захаваць агульнае адзінае саюзнае войска. Што гэта? Войска дзеля войска? Каму яно будзе служыць? Няўжо ж яны яшчэ не зразумелі, што былыя савецкія народы навучыліся думаць, набываюць нацыянальную годнасць...**

**Калі скончылася трансляцыя, мне было сорамна. Сорамна таму, што я таксама афіцэр, бо выступаючыя казалі быццам бы ад імя ўсіх вайскоўцаў, у тым ліку, і ад майго імя. Але гэта не так! Не!**

**Як усе былыя грамадзяне СССР, так і вайскоўцы даўно ўжо не аднадушныя, маюць свае пункты гледжання на падзеі, маюць розны светапогляд. Так, сапраўды, пакуль яшчэ значная частка афіцэраў, асабліва расейцаў, прытрымліваецца вялікадзяржаўных, шавіністычных, прабальшавіцкіх поглядаў. Яны, на жаль, складалі большасць паміж удзельнікаў гэтага сходу. Але ва Узброеных Сілах былога СССР ёсць не менш за іх сумленных афіцэраў, што сэрцам сваім падтрымліваюць натуральныя дэмакратычныя імкненні народаў да волі, нацыянальнае незалежнасці. Тых, хто разумее, што ж урэшце адбылося, хто цвяроза глядзіць на жыццё. Будучыня за імі.**

**Ігар ПАЎЛОЎСКІ,**
**палкоўнік запасу.**

г. Масква.

# СТВАРЫЛІ АСАЦЫЯЦЫЮ

Працэс нацыянальнага адраджэння на Беларусі не мог, зразумела, не закрануць і народы, прадстаўнікі якіх складаюць меншасць у рэспубліцы.

За апошні час узнікла нямала нацыянальна-культурных аб'яднанняў і суполак. Нядаўна некалькі з іх вырашылі стварыць Асацыяцыю грамадскіх нацыянальных арганізацый Рэспублікі Беларусь. У каардынацыйны савет асацыяцыі ўвайшлі кіраўнікі Саюза палякаў, Асацыяцыі яўрэйскіх арганізацый і аб'яднанняў. Аб'яднання татар-мусульман «Аль-кітаб», Цэнтра нямецкай культуры, Мінскага культурнага цэнтра «Русь», грамадска-культурнага аб'яднання «Полісьсе».

Ужо сам пералік членаў новай асацыяцыі выклікае пытанні. Каб адказаць на магчымыя пытанні, яе арганізатары правялі днямі прэс-канферэнцыю. Журналістам раздалі дэкларацыю, у якой гаворыцца, што мэта стварэння асацыяцыі — каардынацыя дзеянняў і ўзаемадапамога яе арганізацый-удзельнікаў у імя дасягнення нацыянальнай згоды і раўнапраўя ўсіх народаў Беларусі.

Па словах старшыні Асацыяцыі яўрэйскіх арганізацый Беларусі Л. Левіна, ідэя аб'яднання ўзнікла яшчэ некалькі месяцаў назад, калі прадстаўнікі розных арганізацый сустрэліся ў Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па міжнацыянальных адносінах. Праўда, у асацыяцыю не ўвайшлі пакуль украінцы, літоўцы, армяне, прадстаўнікі іншых народаў, у якіх таксама ёсць свае суполкі і зямляцтвы на Беларусі. На прэс-канферэнцыю не прыйшлі, трэба заўважыць, кіраўнікі цэнтра «Русь» і аб'яднання «Аль-кітаб».

Культура ўсіх народаў без выключэння апынулася ў катастрафічным стане, падкрэсліў Л. Левін. Таму сёння нельга не быць разам. Хоць пры гэтым у кожнай нацыянальнай арганізацыі ёсць свае спецыфічныя інтарэсы.

Усе ўдзельнікі прэс-канферэнцыі гаварылі пра тое, што асацыяцыя — не палітычнае аб'яднанне, што палітычныя праблемы яны не абмяркоўваюць.

Але як ацэньваць такі пункт дэкларацыі, падпісанай усімі членамі каардынацыйнага савета: «...признание **государственными** (падкрэслена ў тэксце.—**В. Т.**) наряду с белорусским западнополесского, русского и польского языков». Гэта, аказваецца, адна з першапачатковых задач асацыяцыі. Няўжо аўтары дэкларацыі не разумеюць палітычнага рэзанансу падобных заяў?

А выступленне старшыні «Полісься» М. Шаляговіча, які пацвердзіў сваю пазіцыю наконт правоў «западнополесского этноса» (не выключаючы і права на тэрытарыяльнае вызначэнне), выклікае сумненні, што словы наконт «нацыянальнай згоды» не застануцца толькі дэкларацыяй.

Зрэшты, крытэрыем ісціны, як вядома, з'яўляецца практыка. Рэпутацыя наваствoранай асацыяцыі будзе залежыць ад пазіцый і дзеянняў усіх яе арганізатараў.

**В. Т.**

## Як прысягалі Беларусі

Салдаты-навабранцы, якія служаць пры Мінскім суворaўскім вучылішчы, прысягнулі на вернасць Беларусі і яе народу. Ва ўрачыстай абстаноўцы, са сцягам і аркестрам, кожны распісаўся на бланку з «Пагоняй» і тэкстам воінскай прысягі. З вымаўленнем яе таксама ніякіх праблем не было. Па словах старшага прапаршчыка, камандзіра ўзвода М. Чэрніка —«як рэпу грызлі».

Праўда, даводзілася чуць, што новы тэкст прысягі ні салдатам, ні афіцэрам не падабаецца: ён казённы і груваcткі. Магчыма, яно і так. Затое няма ў ім, як раней, ваяўнічай «победы над врагами» і пагрозлівай «суровой кары»...

Па звестках, у дывізіі імя Вярхоўнага Савета Беларусі (Уручча) прыняцце прысягі навабранцамі прайшло менш святочна. Быў разнабой у мове, а галоўнае — прыгнечаны настрой панаваў сярод афіцэраў. Не да свята, мабыць, перад маючым адбыцца скарачэннем войска. Карацей кажучы, адны — як рэпу грызлі, а ў другіх насы павіслі...

**НАШ КАР.**

**РЭПЛІКА**

## ПАДСТАВА ДЛЯ РАДАСЦІ?

Рэспубліканскія газеты дружна апублікавалі распаўсюджаную агенцтвам «БелаПАН» інфармацыю «Конус», спец па парабалах». Усе проста-такі ў захапленні ад шчодрасці кіраўніцтва калгаса «Зальвянка» Зэльвенскага раёна. Падумаць толькі, у той час, калі паўсюдна не хапае грашовых сродкаў, тут не пашкадавалі ажно 130 тысяч рублёў для ўстаноўкі дзвюх парабалічных антэн (пастаралася Лідскае малое прадпрыемства «Конус»), накіраваных на спадарожнік «Астра». Яшчэ 60 тысяч рублёў дадалі самі хлебаробы і, калі ласка, можна глядзець па хатніх «тэлікаx» ажно да 16 замежных праграм.

«БелаПАН» ухапілася за кідкую інфармацыю. Ну, а калегі з рэспубліканскіх выданняў? Як зразумець іх радасць? А, можа, было б лепш, калі б той самы калгас адпусціў грошы на развіццё нацыянальнай культуры? Скажам, на набыццё кніг беларускіх пісьменнікаў для біблііятэкі. На выпіску беларускамоўных газет і часопісаў. На арганізацыю выступленняў прафесійных акцёраў і музыкантаў.

Ці не было б гэта лепшай падставай для радасці?

**М. В.**

# Дарога смерці «Трасцянца»

**У доме № 105 па вуліцы Сяліцкага ў Мінску — наваселле. Вось толькі не ведаеш, віншаваць тых, хто атрымаў тут кватэры, ці паспачуваць ім. Бо дом пабудаваны на могілках. Былых лагерных могілках...**

**...Гэтая дарога пачыналася ад Магілёўскай шашы ля павароту на вёску Малы Трасцянец і рэзка абрывалася ля былой «эсэсаўскай» лазні на трасцянецкім полі. Кіламетры два ў даўжыню, не больш. «Дарогай смерці» назвалі адрэзак шляху, абсаджаны таполямі. Вёў жа ён у «Ферніхунгслагер» (лагер знішчэння, калі даслоўна з нямецкай).**

З вясны 1942 года двойчы на тыдзень, па аўторках і пятніцах, прывозілі сюды грамадзян Аўстрыі, Польшчы, Чэхаславакіі, Францыі, Італіі, Германіі. Прыбыўшых выгружалі на пляцоўку, забіралі рэчы і выдавалі квітанцыі. Гэтыя квіткі супакойвалі людзей, надавалі ўпэўненасці, што іх проста перасяляюць на новае месца, у горад Благаў. На самай жа справе з натоўпу прыбыўшых адбіралі спецыялістаў-электрыкаў, слесараў, краўцоў, шаўцоў, словам, тых, з каго можна было яшчэ штосьці «выціснуць». Астатніх грузілі ў душагубкі і адвозілі ва ўрочышча Благаўшчына, што за некалькі кіламетраў ад вёскі Вялікі Трасцянец...



Рэшткі рэліктавых таполяў уздоўж «дарогі смерці».



Наступае на «дарогу смерці» мікрараён Шабаны.

Захаваць бы гэтую унікальную дарогу, па якой прайшлі сыны і дочкі многіх народаў Еўропы. Захаваць бы і «залаты калодзеж». (Кажуць, людзі, зразумеўшы, што прывезлі іх на смерць, кідалі ў гэты калодзеж апошнія свае каштоўныя рэчы. Няма калодзежа. У канцы саракавых «золаташукальнікі» так старанна абшуквалі яго, што давялося засыпаць, каб не заваліла каго-небудзь, не дай Бог). Захаваць бы...

На жаль...

«Дарога смерці» бясследна знікае ў нашы дні. Дрэвы на паўночным яе баку ўжо высеклі ўшчэнт, а ўпоперак узвялі гэты самы дом № 105. Калі будаўнікі знайшлі, капаючы падмурак, брацкае пахаванне, у парушэнне існуючага заканадаўства яны не заспяшаліся ў Заводскі райвыканком, не перазахавалі, а проста выкінулі людскія косці на бруствер. І хто толькі не здзекаваўся над астанкамі...

Не захаваўся ніводны з дзевяці ваенных канцлагераў, якія размяшчаліся вакол Мінска. Бытуе версія, што зроблена гэта з вельмі гуманных памкненняў: каб не наносіць успамінамі боль жывым. Ні Драздоўскага лагера, ні гета на Нямізе, ні лагера на вуліцы Шырокай... Так і з былым канцлагерам «Трасцянец». Устанавілі на пагорку ля вёскі Вялікі Трасцянец, дзе ні лагера, ні поля памяці, ні магіл загінуўшых не было, абеліск і «пахавалі» гісторыю. Цяпер нават жыхары мікрараёна Шабаны, ад якога рукой падаць да поля памяці, у большасці сваёй і не чулі, што пустка паблізу і ёсць тое самае поле. Пра равы-магілы ўрочышча Благаўшчына і казаць не даводзіцца. Без малога пяцьдзесят гадоў, як забыліся пра яго. І толькі марадзёры выкопваюць шматметровыя «норы» ў пошуках спажывы.

«Людзі! Схіліце галовы! Тут, у буйнейшым у СССР лагеры смерці, нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны 1941—1944 гг., было замучана, расстраляна, павешана, спалена звыш 206 тысяч савецкіх грамадзян...» Напісаны гэтыя словы на бляшанай шыльдзе перад сціплым помнікам на месцы былых крэмацыйных ям. А вакол — горы смецця і бур'ян.

Схіліце ж галовы! Мо гэта паможа ўспомніць: там, дзе прарастае трава забыцця, гісторыя паўтараецца...



Сляды «працы» марадзёраў ва ўрочышчы Благаўшчына.

Фота А. ТАЛОЧКІ. (БЕЛТА).

**В. КУФЦЕРЫН.**
**(БЕЛТА).**

СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА

# ДЫК ШТО Ж ЗАСТАЕЦЦА?

## Адкрыты ліст да С. У. БУКЧЫНА і яго аднадумцаў

Паважаны Сямён Уладзіміравіч!

Шэраг палажэнняў вашых «пространных заметок» («Иван в косоворотке»,—«Знамя юности», 14 студзеня г. г.) можна абмяркоўваць. Так прынята адносіцца да думкі апанента ў той сферы дзейнасці, якой я займаюся. Нават калі субяседніку не хапае не тое што такту, але і элементарнай выхаванасці, і спрачацца з ім — значыць зневажаць уласную годнасць, дыялог усё роўна патрэбны. Бо ён можа не толькі папярэдзіць канфлікт, што выспявае ў грамадстве, але і, магчыма, стаць адзінай формай гэтага канфлікту. Другой асаблівасцю маёй сферы дзейнасці з'яўляецца імкненне ўсё падвяргаць уласнаму сумненню. Змест Вашых нататак мне таксама падаецца вельмі сумніцельным.

Першае, што кідаецца ў вочы,—гэта спіс дзеячаў рускай культуры, погляды якіх на Беларусь Вы лічыце адназначна прыязнымі. Што датычыцца характару стаўлення Пушкіна, Някрасава, Дастаеўскага, Талстога, то аб ім можна спрачацца. Выклікае здзіўленне тое, што ў гэты спіс трапіў І. Аксакаў. Цытата, якую Вы прыводзіце, даруйце, не што іншае, як «кракадзілавыя слёзы». Менавіта аб такіх добразычліўцах пісаў напярэдадні пакарання Кастусь Каліноўскі: «З усіх бакоў маскалі цяпер талкуюць нам без устанку аб сваём братстве з намі». У тым «братстве» галоўнай была небяспека быць задушаным у сяброўскіх абдымках. І. Аксакаў, канечне, ліберал. Вось, напрыклад, яго стаўленне да арганізацыі асветы на Беларусі: «Необходимо, чтобы он (беларус. — **П. Ц.**) почувствовал себя вполне русским, а для этого он должен прежде всего почувствовать себя белорусом, разом вылепить из него великорусского мужика невозможно, да и нет надобности. Мы полагаем, вследствие этого было бы чрезвычайно полезно: преподавать первоначальные познания и смысл правительственных распоряжений белорусскому крестьянству на белорусском наречии, учить читать и писать сперва по-белорусски, а потом непременно и по-русски». Можна замілавацца і гэтымі словамі, але і яны, даруйце, прыклад вытанчанай двурушнасці. І вось чаму. «Впервые ожил, вздохнул свободно, — лічыў І. Аксакаў, — и предался радостным надеждам белорусский народ только при Муравьеве». Гэта пры тым самым, аб якім яшчэ адзін ліберал славянафіл А. Кошалеў заўважыў: «А Муравьев хват! Вешает да расстреливает! Дай бог ему здоровья!»

Вядома, што і М. Някрасаў прысвяціў М. Мураўёву оду, у якой раіў, між іншым, «виновных не щадить». Кажуць, што потым М. Някрасаў вельмі саромеўся таго верша і напісаў яго толькі дзеля таго, каб захаваць часопіс «Современник». Гэтыя акалічнасці, дарэчы, нядрэнна адлюстроўваюць характар настрояў, што панавалі ў рускім грамадстве, годнасць якога і выратоўваў А. Герцэн. Канечне, оду М. Някрасава можна лічыць вымушанай, а вось як ставіцца да вершаў А. Пушкіна «Клеветникам России», «Бородинская годовщина»! На мой погляд, гэта перш за ўсё вершаванае абгрунтаванне законнасці супакойвання «волнений Литвы», «кичливого ляха», спроба прадставіць крывавае ўдушэнне паўстання 1830 — 1831 гг. як хатнюю сварку. Я разумею, якое абурэнне выклікае гэтая думка. А. Пушкін — асоба недатыкальная, так, як і, напрыклад, дзекабрысты. Нагадаю, што П. Пестэль адмаўляў беларусам у праве лічыцца самастойным народам, як і ўсім астатнім, якія мелі няшчасце трапіць у імперыю, апрача рускага, канечне. Усе яны, на думку П. Пестэля, павінны былі быць злітымі ў адзін, усе мовы і нават назвы народаў—забаронены, дзеля існавання адзінай і непадзельнай Расіі. Да такой ступені цынізму не дайшлі нават архітэктары «росквіту і збліжэння нацый», ім хапіла і «новай гістарычнай супольнасці».

На жаль, для пераважнай большасці рускай інтэлігенцыі ці не самым цяжкім было адмовіцца ад імперскіх стэрэатыпаў мыслення, асабліва ў адносінах да сваіх найбольш «этнічна блізкіх» суседзяў. Дастаткова ўспомніць, як ставіўся да Т. Шаўчэнкі В. Бялінскі, рускія народнікі да сваіх украінскіх і беларускіх аднадумцаў. Вось і зараз шавіністычныя настроі ўсё гучней заяўляюць аб сабе ў рускім грамадстве. Нарэшце прызналіся, што СССР быў працягам той дзяржавы, якую Русь збірала стагоддзямі. І тое добра, а то раней казалі, што ў рускіх не было, маўляў, дзяржаўнасці, бо не было свайго ЦК. Сум па велічы былой імперыі сярод прыхільнікаў таварыства «Память» можна зразумець. Куды цяжэй успрымаць разважанні і патрабаванні перагляду межаў і перадзелу маёмасці былога СССР (зразумела, на карысць Расіі) ад такіх дэмакратаў, як А. Сабчак і Г. Папоў. Хто ж зараз будзе здольны выратаваць годнасць рускага грамадства — Г. Старавойтава, А. Бонар, ці хто яшчэ?..

У гэтай сувязі вельмі сумніцельнымі выглядаюць Вашы намаганні неяк апраўдаць факт перадачы Б. Ельцыным граматы цара Аляксея Міхайлавіча беларускаму парламенту. Нагадаю, што вайна 1654 — 1667 гг. — самая страшная, на мой погляд, у гісторыі Беларусі. У той час было страчана больш за палову насельніцтва: з 2,9 млн. засталося толькі 1,4. Амаль дзвесце год спатрэбілася для таго, каб аднавіць ранейшую колькасць жыхароў. Мне здаецца, нельга апраўдаць учынак Б. Ельцына няведаннем. Дастаткова было каму-небудзь з яго каманды зазірнуць хаця б у «Историю России» С. М. Салаўёва, каб зразумець характар той вайны. Вось, напрыклад, сведчанне відавочцы падзей у той самай Оршы магілёўскага шляхціца Палонскага: «Насмотрелся я над кутеинскими монахами, как Москва почитает духовенство и вещи церковные: в церкви престолы сами обдирали и все украшения церковные в столицу посылали, а самих чернецов в неволю засылали, а что с отцом митрополитом и другими духовными сделали». Нагадаю яшчэ і тое, што вайну Аляксей Міхайлавіч пачынаў, каб адпомсціць за «злое гонение на православную веру». Ці можна ўявіць сабе сітуацыю, калі б прэзідэнт Францыі падараваў бы Вярхоўнаму Савету Расіі ну, напрыклад, копіі загадаў французскага каменданта Масквы ў верасні 1812 г. Пытанне, канечне, рытарычнае. А вось учынак Б. Ельцына — факт, і нават калі ён — вынік няведання, зразумець яго цяжка, бо нельга да такой ступені не ведаць гісторыі краіны, з якой збіраешся супрацоўнічаць, як роўны з роўным.

Таму мяне і вельмі непакоіць пытанне — а ці проста будзе рускім прыйсці да асэнсавання сваёй **роўнасці** з усімі іншымі народамі, ці гатовы рускія, што жывуць за межамі этнічнай Расіі (напрыклад, на Беларусі), зразумець, што яны з'яўляюцца такой жа звычайнай этнічнай групай, як і палякі, татары, яўрэі і г. д. Мне здаецца, што гэта будзе вельмі і вельмі не проста. Бо лёс рускага народа непадобны на лёс усіх астатніх народаў былога СССР. Ніколі ў сваёй гісторыі рускі народ не зведаў, што такое нацыянальны прыгнёт (татара-мангольскае іга мела іншы характар). Таму рускаму чалавеку цяжка зразумець, што гэта такое. Шмат стагоддзяў рускаму народу тлумачылі, што ён—«баганосец», а сталіца Расіі — «трэці Рым»; што ён — «кіруючая нацыя» (І. Сталін); што ён — «вялікі народ» і «сапраўдны інтэрнацыяналіст» (Л. Брэжнеў).

Своеасаблівасць рускага нацыянальнага характару прызнана бадай што ўсімі. Нагадаю думкі М. Бярдзяева, які лічыў, што вызначальная рыса рускай самасвядомасці — гэта супярэчлівасць. Яна выяўлялася ў супярэчнасці паміж тым, што рускі народ — самы «бездзяржаўны» ў свеце, і тым, што ён стварыў найвялікшую ў свеце імперыю; паміж тым, што рускія саромеюцца таго, што яны рускія, што Расія — самая нешавіністычная краіна, і тым, што яна, адначасова, і самая шавіністычная краіна ў свеце, «страна национального бахвальства, страна, в которой национализировано все, вплоть до вселенской церкви Христовой, страна почитающая себя единственной призванной...» Менавіта таму М. Бярдзяеў лічыў рускім з рускіх Дастаеўскага, які «проповедывал всечеловека и призывал к вселенскому духу, проповедывал и самый изуверский национализм, травил поляков и евреев (і, дарэчы, з гэтых пазіцый разглядаў Беларусь. — **П. Ц.**), отрицал за Западом всякие права быть христианским миром».

Можна, вядома, спрачацца і з М. Бярдзяевым, але ж мне падаюцца яго думкі слушнымі. І ўзнікае пытанне — ці істотна змяніўся светапогляд рускіх з часоў Першай сусветнай вайны? Ці зразумелі яны, што ідэя «трэцяга Рыма», самаразбуральная, бо нічога добрага рускаму народу за 500 год існавання не прынесла? Ці гатовы яны заняцца ў рэшце рэшт «обустройством России» (толькі не ў тых межах, якія прапануе А. Салжаніцын)? Прывяду адзін толькі прыклад. Пад час спрэчак аб лёсе Чарнаморскага флоту ўзнік тэзіс аб тым, што флот гэты патрэбны Расіі (менавіта Расіі, а не СНД), каб забяспечыць абсалютна законныя і абгрунтаваныя інтарэсы Расіі ў Міжземнамор'і. Я ўжо не пытаюся аб законнасці і абгрунтаванасці, я проста не разумею, якія могуць быць інтарэсы за тры моры ад уласных межаў у краіны, якая балансуе на мяжы голаду і сацыяльнага выбуху?

Вернемся, аднак, да Беларусі. Я лічу, што распад СССР, суверэнізацыя і беларусізацыя рэспублікі — працэсы аб'ектыўныя і непазбежныя. Я лічу таксама, што працэс адаптацыі рускіх да новых умоў існавання будзе вельмі балючым. Справа не толькі ў адраджэнні беларускай мовы. Зразумела, што гэты працэс — доўгатэрміновы. Куды хутчэй аднаўляецца гістарычная свядомасць. Гісторыя Беларусі ўжо зараз пачынае займаць належнае месца ў навучальным працэсе. Ствараюцца новыя падручнікі, у якіх ужо не знойдзецца месца «вернападданніцкай» хлусні. У гэтых абставінах адносіны да рускіх не могуць не змяніцца. Характар гэтых зменаў будзе залежаць ад абодвух бакоў. Ён будзе залежаць ад гатоўнасці рускай меншасці да зменаў і, у рэшце рэшт, ад усведамлення пэўнай **маральнай** адказнасці перад беларусамі. Нагадаю, што М. Бярдзяеў, напрыклад, быў згодны ўзяць адказнасць за Леніна, таму што быў рускім.

А ці здольны Вы, Сямён Уладзіміравіч, узяць на сябе хаця б частку чыста маральнай адказнасці за ўчынкі Мураўёва? Ці разумееце Вы, што татарская і яўрэйская культурныя традыцыі, напрыклад, укараніліся на Беларусі не горш за рускую? Але вынікі іншыя, таму што ўкараненне рускай традыцыі амаль заўсёды ажыццяўлялася **за кошт** выкаранення беларускай. І справа не ў этнічнай блізкасці, бо, напрыклад, беларуская і ўкраінская мовы яшчэ больш блізкія, але ж вынікі, зноў жа, іншыя. І, дарэчы, непрыстойна ківаць у бок беларусаў, якія цураюцца ўласнай мовы і культуры. Нельга выстаўляць народ унтэр-афіцэрскай удавой, якая сама сябе высцебала.

Ці разумееце Вы маральны абавязак кожнага рускага інтэлігента дапамагчы выжыць беларускай культуры, або хоць бы не перашкаджаць?

На жаль, у Вашых нататках я такога разумення не знайшоў, я ўбачыў толькі жаданне **любымі сродкамі** захаваць звыклыя ўмовы існавання. Я ведаю, што Вашы погляды адлюстроўваюць настроі пэўнай часткі рускамоўнага насельніцтва Беларусі. Больш таго — яшчэ і не самай артадаксальнай. Згодна з дадзенымі сацыялагічнага даследавання ў 1989 г. 44% апытаных рускіх пажадалі, каб у якасці дзяржаўнай мовы на Беларусі была зацверджана толькі адна руская мова. Я не лічу гэтую пазіцыю маральнай. Магчыма, сітуацыя змянілася (звестак, на жаль, у мяне няма). Я быў бы вельмі рады гэтаму.

Развіццё беларусізацыі раней ці пазней прымусіць рускае насельніцтва пэўным чынам вызначыць сваё становішча. Безумоўна, некаторы час можна хавацца за фармулёўку «руская мова — мова міжнацыянальных зносінаў», але ж бясконца заставацца «народам міжнацыянальных зносінаў» руская меншасць не зможа. Пры вызначэнні шляхоў развіцця значную ролю будуць адыгрываць і традыцыі існавання на беларускай зямлі. Папершае, ёсць шматвяковы досвед абшчын стараабрадаў, досвед паглыблення ў сябе, індыферэнтнасці да асяроддзя. Па-другое, досвед рускай інтэлігенцыі часоў беларусізацыі 20-х гг. — прыклад самаахвярнага слугавання беларускай культуры. Нагадаю М. Шчакаціхіна, І. Замоціна, А. Вазнясенскага. Па-трэцяе, ёсць калі не досвед, дык прэцэдэнт культурна-нацыянальнай аўтаноміі ў тыя ж самыя 20-ыя гг. з нацыянальнымі сельсаветамі, школамі, тэатрамі і г.д. Гэта прыклад магчымай формы канструктыўнага стаўлення да працэсаў беларусізацыі. Пачацвёртае, ёсць варыянт чыноўніцка-чарнасоценны, «заходнерускі», з нянавісцю да ўсяго беларускага, польскага, з бухматым антысемітызмам, з пагромамі. Першы варыянт магчымы толькі для адносна невялічкай канфесіянальнай групы, другі — для адзінак, трэці Вамі адхіляецца з абурэннем. Дык што ж застаецца? Ці падумалі Вы аб гэтым, Сямён Уладзіміравіч?

**Павел ЦЕРАШКОВІЧ.**

ДУМКА ЧЫТАЧА

# ХТО ЎБІВАЕ КОЛ?

Чытаючы ў газеце «Знамя юности» (23.10.91 г.) артыкул С. Букчына «Идем в Европу», я некалькі разоў звяртаўся да назвы газеты. Няўжо гэта сапраўды «Знаменка»? Гэты артыкул больш падыходзіць для «Политического собеседника» ці газетак «Памяти», або балтыйскіх інтэрфронтаўскіх выданняў. Толькі там пісалі і пішуць «нацыянал-фашызм» (С. Букчын—«национал-большевизм»).

«Перамываць костачкі» па ўсім артыкуле С. Букчына не буду: вельмі ўжо ён вялікі і злосны. Так і хочацца працытаваць з Галіны Каржанеўскай (што цытуе і С. Букчын): «...асоба з эгаістычным, агрэсіўным светапоглядам... Спадзявацца на спрыянне з іх боку (ці хаця б разуменне) у нашых незалежніцкіх памкненнях было б наіўнасцю». Менавіта так. Спадзявацца на разуменне такіх «велікаросаў», як С. Букчын, не прыходзіцца...

Але звернемся да Расеі. Бог ёй не вызначаў «громадного центрального места посреди евроазиатского материка». Гэтае месца Расея вызначыла сабе сама. З дапамогай штыкоў. Магчыма, спадар Букчын у гэтых штыках бачыць «...объективные законы исторического развития, объединявшие народы вокруг России»?.. Паглядзіце, спадар Букчын, атлас гісторыі СССР (нават на базе «Кароткага курсу»). Адшукайце там Маскоўскае княства. Дзе вы там бачыце «громадное место»? Звычайная сярэдневяковая дзяржава, у іншыя гады па памерах значна меншая за Вялікае княства Літоўскае. Гэтая невялічкая пляма амаль на крайнім усходзе Еўропы, але і не зусім побач з Азіяй. А вось потым пачаліся звычайныя (па тым часе) драпежніцкія, захопніцкія каланіяльныя войны. Ці (па С. Букчыну і «Кароткаму курсу») — вялікая аб'ядноўваючая місія Расеі і пошукі «исконно русских земель» у Балтыі, Літве, на Каўказе, у Сярэдняй Азіі і аж да Чукоткі і Алясні. І вось гэтыя «вызваліцелі» і «аб'ядноўцы» засялілі «громадное место посреди евроазиатского континента», знішчаючы і асімілюючы абарыгенаў.

Дарэчы. ва ўсім свеце ТАКОЕ засяленне называецца не вызваленнем і аб'яднаннем, а — КАЛАНІЗАЦЫЯЙ.

Маскоўскае княства ператварылася ў Расійскую імперыю, турму народаў, а не шматнацыянальную дзяржаву, як сцвярджае С. Букчын. (Ох, і не любяць некаторыя «велікаросы» называць рэчы сваімі іменамі!). Менавіта хаўрус гэтай імперыі з Прускай і Аўстрыйскай імперыямі разарваў на кавалкі (ці, па Букчыну, — вызваліў) Рэч Паспалітую — канстытуцыйную і федэратыўную дзяржаву. І не трэба, спадар Букчын, атаясамліваць яе з Польшчай.

Але імперыя распалася. Распалася менавіта імперыя, толькі ўжо не Расійская, а Савецкая. А каланісты (ці каланізатары), якія ўвесь час адчувалі і выказвалі «презрение к человеку «не своей» крови», да ягонай мовы і звычаяў, зараз, калі народы імкнуцца да сваіх традыцый, культуры і мовы, — гэтыя каланісты-інтэрнацыяналісты лічаць іх «нацыянал-бальшавікамі», «нацыянал-фашыстамі», абвінавачваюць іх у «отсутствии элементарного такта». Тое, што амаль дзвесце гадоў яны навязвалі нам (і не толькі нам) СВАЮ мову, СВАЮ культуру, СВАЮ, скажоную да неверагоднасці, гісторыю, — гэта ўсё ў разлік не прымаецца. (Дарэчы, у іх вельмі цікавае разуменне інтэрнацыяналізму: на іхні погляд, на Зямлі павінна існаваць адна агульная мова — расейская. Пражыўшы тут хто дзесяць, хто пяцьдзесят і болей гадоў, яны не палічылі патрэбным вывучыць мову людзей, ДА якіх прыехалі жыць. (Навошта, калі ёсць «великий русский язык»?).

А цяпер яны лямантуюць на ўвесь белы свет аб дыскрымінацыі «рускамоўнага» насельніцтва з боку «национальных мещан». Гэта ж трэба! Балтыйскія, беларускія, «малороссийские», армянскія, башкірскія і іншыя нацыяналісты патрабуюць, каб яны, велікаросы, ведалі і нарысталіся гэтымі туземнымі мовамі! Які жах!!!

Баюся, што аднадумцы С. Букчына (на жаль. іх не так ужо і мала) спяць і сняць аб беларускім Цхінвале ці Дубасарах. І баюся, што іх не пераканаеш, яны «...на этом пути остаются вбивающими кол недоверия и злобы между белорусами и русскими».

**Л. ЖАЛЕЗНЯКОЎ.**

г. Гомель.

**АД РЭДАКЦЫІ.**

Мы змясцілі гэты ліст без істотнай праўкі, хаця яго стылістыка, бадай, для «ЛіМа» занадта эмацыянальная. Тым не менш, выказванні чытача ў бок С. Букчына яшчэ раз пераконваюць нас у тым, што рэдакцыя ў свой час мела рацыю, пэўна вызначаючы свае адносіны з гэтым аўтарам.

ЛІМАЎСКІЯ ДЫЯЛОГІ

# Dura Lex sed Lex

## З Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь Мікалаем ІГНАТОВІЧАМ гутарыць рэдактар аддзела публіцыстыкі Міхась ЗАМСКІ

**М. ЗАМСКІ: — Упершыню я пачуў пра вас, Мікалай Іванавіч, у 1982 годзе ў сувязі з крымінальнай справай па факце забойства дзвюх службовых асоб у Мазыры. Менавіта тады я атрымаў ад вас маральны ўрок, які, здаецца, засвоіў на ўсё жыццё. Справа ў тым, што і я меў дачыненне да гэтай гісторыі, напісаўшы па матэрыялах Вярхоўнага суда рэспублікі артыкул аб уляўных мазырскіх забойцах. Праз некаторы час сапраўдныя вінаватыя ў гэтым злачынстве былі знойдзены...**

М. ІГНАТОВІЧ: — Вы карысталіся матэрыяламі суда. Ды яшчэ Вярхоўнага. Адкуль вам было ведаць, што да чаго.

**М. З. — Але яшчэ да таго, як адбыўся суд, знаёмы ў пракуратуры рэспублікі расказаў мне, што адзін з членаў следчай групы — Ігнатовіч адкрыта заявіў, што лічыць памылковай прынятую версію аб дачыненні да забойства арыштаваных па гэтай справе пяцёх мазыран. І за гэта быў адхілены ад следства, паніжаны ў пасадзе. Мне б тады над гэтым задумацца...**

М. І. — Аднаго з падследных, які трапіў да мяне на допыт другі раз, я ледзь пазнаў — такі быў у яго апухлы твар. Мільганула здагадка, што яго білі. Спытаў — маўчыць. Адправіў на медыцынскую экспертызу, якая пацвердзіла, што чалавек гэты моцна збіты. Адным словам, мне стала зразумела, што «признательные показания» падазраваемых, — вынік недазволеных прыёмаў следства, а прасцей — фізічнага ўздзеяння на арыштаваных. Маўчаць не стаў, што, вядома, вельмі не спадабалася начальству. Час, ведаеце, быў які.

**М. З. — А я тады быў ва ўладзе аўтарытэту кіраўніка следчай групы Жаўняровіча. Толькі што выйшаў дакументальны фільм пра яго, дзе Жаўняровіча характарызавалі як сышчыка ад Бога, на рахунку якога дзесяткі раскрытых самых цяжкіх злачынстваў. Ды і тытулы яго ўражвалі — старшы следчы па асабліва важных справах пры пракуроры рэспублікі, заслужаны юрыст БССР, палкоўнік юстыцыі і да т. п. І сам ён, як асоба, вабіў да сябе — вельмі дэмакратычны, просты, гэткі самародак з народа. На жаль, я позна зразумеў, што ўсё гэта было толькі маскай, за якой хаваўся вельмі хітры і цынічны чалавек.**

**Чамусьці ён вельмі ўпадабаў мяне, і пры кожнай сустрэчы з мяккай настойлівасцю ўгаворваў напісаць матэрыял аб мазырскім забойстве яшчэ да суда. «У вас жа ўсё ёсць, — гаварыў ён з ласкавай усмешкай, — пратаколы допытаў, паказанні падследных і сведак, заключэнні медэкспертызы, на судзе будзе ўсё тое самае». Аднойчы са шматзначным выразам на твары «прызнаўся», што за працай следчай групы па мазырскай справе пільна сочаць у ЦК КПБ... Спакуса напісаць пра гэту гісторыю да разгляду яе на судзе, апярэдзіць калег з іншых выданняў была вельмі вялікая, але штосьці мяне стрымлівала. Я, помню, цвёрда сказаў Жаўняровічу: «Міхаіл Кузьміч, дзякую за давер, але пісаць буду толькі тады, калі пачую судовы прыгавор».**

**Чым скончылася гэтая «эпапея» вы, Мікалай Іванавіч, ведаеце лепш за мяне. Пасля таго, як былі знойдзены сапраўдныя забойцы, паляцелі са сваіх крэслаў міністр унутраных спраў і некаторыя яго намеснікі, пракурор рэспублікі. Што тычыцць Жаўняровіча, дык яго, калі не памыляюся, выключылі з партыі, знялі з пасады, пазбавілі ганаровага звання, узбудзілі супраць яго крымінальную справу.**

М. І. — Гэта быў фальсіфікатар многіх крымінальных спраў.

**М. З. — І вось сёння вы ў крэсле Генеральнага пракурора рэспублікі Беларусь. Калі цяжэй было працаваць пракуратуры — тады, у застойны час, ці цяпер?**

М. І. — Сёння і лягчэй і цяжэй. Лягчэй таму, што няма ўжо таго ЦК, якое, як вам гаварыў Жаўняровіч, «пільна сочыць за працай следчых», незваротна, спадзяюся, сплыло ў мінулае «тэлефоннае права», якім бессаромна, пагарджаючы ўсімі законамі, карысталася партакратыя. Цяжэй жа таму, што жывём мы ў вельмі складаны час. Поўнае разбалансаванне эканомікі, татальны дэфіцыт спрыяюць росту злачыннасці. Ды не толькі гэта непакоіць. Старая сістэма ўлады, фактычна, скасавана, новая яшчэ не створана, усё гэта вядзе да анархіі, ігнаравання законаў, а то і проста да беззаконня. Невыпадкова сёння стаў папулярны мо і не вельмі пісьменны выраз: «закон не працуе». Гэта значыць, на паперы ён ёсць, а ў жыцці не прымяняецца.

**М. З. — Рост злачыннасці многія тлумачаць тым, што з ёю слаба змагаецца міліцыя і пракуратура...**

М. І. — Сапраўды, калі пра гэта заходзіць гаворка на розных сустрэчах, выступленнях у сродках масавай інфармацыі, у мяне адразу пытаюцца: «Куды «глядзіць» пракуратура?». Але пракуратура, па сутнасці, не з'яўляецца органам барацьбы са злачыннасцю. На яе ўскладзены іншыя функцыі, яна з'яўляецца органам дзяржаўнай улады для нагляду за захаваннем законаў і законнасці, Канстытуцыі краіны.

**М. З. — Але ж у складзе пракуратуры ёсць і следчы апарат, які расследуе самыя небяспечныя злачынствы, напрыклад, забойствы. Шмат гадоў ужо вучоныя-юрысты, журналісты ўзнімаюць пытанне аб пазбаўленні пракуратуры следчых функцый. Аб'ектыўна атрымліваецца, што работнікі пракуратуры самі ажыццяўляюць нагляд над законнасцю сваіх дзеянняў. Ці не адсюль «праколы» і ў мазырскай, і ў віцебскай крымінальных справах? «Шукалі» ж там забойцаў менавіта следчыя пракуратур.**

М. І. — Сапраўды, размовы такія ідуць. Але справы, якія вы назвалі ў якасці ілюстрацыі сваёй думкі, не тыповыя для следчых пракуратуры. З поўнай адказнасцю магу засведчыць, што якасць следчай работы ў нас бывае вышэйшая, чым, скажам, у міліцыі. У многім гэта тлумачыцца тым, што ў пракуратуры пракурорскі нагляд хоць і за «сваімі», але вельмі строгі. Але я згодны — праблемы тут пэўныя існуюць і сістэму ў будучым трэба будзе мяняць. Я, напрыклад, прыхільнік стварэння адзінага следчага камітэта, пад «дахам» якога можна было б сабраць усіх следчых — і пракуратуры, і міліцыі, і КДБ. Кіраўнік гэтага камітэта прызначаўся б Вярхоўным Саветам і быў бы яму падпарадкаваны. Нагляд за працай камітэта ажыццяўляла б пракуратура. Але, разумееце, зараз, у час такога ўсплёску злачыннасці, калі кожны следчы надзвычай загружаны і ледзь паспявае ўкласціся ў вызначаныя тэрміны разгляду спраў, пачынаць рэарганізацыю проста небяспечна, бо кожная рэарганізацыя заўсёды суправаджаецца неразбярыхай, і гэта, па першым часе, можа аслабіць барацьбу са злачыннасцю. Я не кажу ўжо, што на гэтую справу спатрэбяцца немалыя сродкі, якіх у рэспубліцы і так не хапае.

Цяпер на Беларусі распрацоўваецца канцэпцыя судова-прававой рэформы (я таксама прымаю ўдзел у гэтай працы), якая, акрамя ўсяго іншага, паставіць кропкі над «і» ў некаторых спрэчных пытаннях нашай судовай практыкі. Справа ў тым, што некаторыя кіраўнікі судоў, вучоныя-юрысты лічаць, што пракурорскі нагляд над законнасцю прымаемых судом рашэнняў не патрэбны, бо суд з'яўляецца трэцяй незалежнай уладай. Я трымаюся іншай думкі. Вядома, калі б мы пагадзіліся з прадстаўнікамі судовай улады, у нас бы паменела працы. Але ў інтарэсах справы пракурорскі нагляд над судом павінен заставацца. Пры ўсім раздзяленні ўлад трэба, каб існавала сістэма процівагі кожнай з іх. Як, скажам, таму ж прэзідэнту пры прэзідэнцкім праўленні процівагай з'яўляецца парламент, які кантралюе яго дзейнасць.

**М. З. — А хто з'яўляецца процівагай пракуратуры?**

М. І. — Вярхоўны Савет і тыя ж суды.

**М. З. — Нядаўна ў «Известиях» было апублікавана інтэрв'ю з міністрам юстыцыі Расійскай Федэрацыі М. Фёдаравым, дзе ішла гаворка пра новы крымінальны кодэкс Расіі. У ім, так сказаць, «рэабілітаваны» многія злачынствы, за якія раней сурова каралі. Сярод іх так званыя эканамічныя злачынствы, у прыватнасці, прыватна-прадпрымальніцкая дзейнасць, камерцыйнае пасрэдніцтва. Усё гэта, як я разумею, мае мэтай юрыдычна забяспечыць эканамічныя рэформы, якія пачынаюць ажыццяўляцца ў Расійскай федэрацыі. Не ведаю, як сёння, але яшчэ зусім нядаўна прыватна-прадпрымальніцкая дзейнасць у нашай рэспубліцы каралася, здаецца, да 5 гадоў зняволення.**

М. І. — У нас артыкул 150 Крымінальнага кодэксу Беларусі, які прадугледжваў крымінальную адказнасць за прыватна-прадпрымальніцкую дзейнасць, таксама скасаваны.

**М. З. — Калі?**

М. І. — 14 лістапада 1991 года спецыяльнай пастановай Вярхоўнага Савета рэспублікі.

**М. З. — Ці многа людзей было асуджана па гэтым артыкуле?**

М. І. — У мяне пад рукой такіх звестак няма.

**М. З. — Учарашняя партдзяржнаменклатура, якая цяпер займае ключавыя пасты ў эканоміцы рэспублікі, не развіталася з ідэяй сацыялістычнага выбару і робіць усё магчымае, каб не даць развівацца эканоміцы, заснаванай на прыватнай уласнасці. Мне часта даводзіцца сустракацца са старшынёй Беларускай сялянскай партыі Яўгенам Міхайлавічам Лугіным і я ведаю ад яго, што Кодэкс аб зямлі, закон аб фермерскіх гаспадарках на месцах адкрыта сабатуецца мясцовымі органамі ўлады. Нагляд над выкананнем законаў, здаецца, прэрагатыва пракуратуры?**

М. І. — Так. Нядаўна абласным і раённым пракурорам было дадзена заданне праверыць гэта, каб да 10 сакавіка далажыць вынікі праверкі Вярхоўнаму Савету. Пэўная інфармацыя па гэтым пытанні ўжо сабрана, і я 21 студзеня пазнаёміў з ёю членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета.

**М. З. — Прадпрымальнікі адчуваюць сябе ў нашай рэспубліцы досыць няўтульна. На кожным кроку ім імкнуцца падрэзаць крылы. Вось і ў нядаўнім законе аб падатках, прынятым Вярхоўным Саветам, беларускія біржы абкладаюцца падаткам у памеры 90—95 працэнтаў ад прыбытку, што, як сказаў у інтэрв'ю «Народнай газеце» прэзідэнт Беларускай таварнай біржы вытворцаў Мікуліч, падкосіць іх пад корань. Ну, што ж, гэта ў нашых традыцыях рэзаць курыцу, якая нясе залатыя яйкі. Біржа ва ўсім свеце лічыцца барометрам эканомікі...**

М. І. — Гэта пытанне не да мяне. Апратэставаць закон, прыняты Вярхоўным Саветам, я змог бы толькі ў Канстытуцыйным судзе, але яго ў нас пакуль што няма. А ўвогуле я таксама, як і вы, за новую рынтачную эканоміку, але не магу не бачыць таго, што прыватызацыя ў нас часам набывае дзікія, не цывілізаваныя формы, калі невядома, што, па сутнасці, прыватызуецца, кім і дзеля чаго. Бывае, што ў якасці прыватызёраў выступаюць звычайныя аферысты, якія на гэтых здзелках маюць вялікія барышы.

**М. З. — Дзіву даешся, як вольна адчувае сябе ў нас гандлёвая мафія, не без удзелу якой, напрыклад, у камерцыйных магазінчыках з'яўляюцца парфума, каньякі, іншыя дэфіцытныя тавары па цане, якая намнога пераўзыходзіць дзяржаўную. Усё гэта трапляе да «камерсантаў» з гандлёвых баз. Вядома, за вялікі хабар.**

М. І. — Так, гэта праўда. Зараз у рэспубліцы па падобных фактах узбуджана некалькі крымінальных спраў. Арганізаваная злачыннасць зрошчваецца і з мафіяй дзяржаўных чыноўнікаў, якія пачалі браць хабар амаль адкрыта. Лічу, што крымінальную адказнасць за хабарніцтва ў рэспубліцы трэба ўзмацніць.

У рынкачнай эканоміцы не павінны ўладарыць мафіёзныя элементы, якія думаюць толькі аб сваёй кішэні. Нядаўна мы разбіраліся з групай махляроў, якая пад выглядам будаўнічай арганізацыі падманным шляхам брала ў грамадзян грошы быццам бы на будаўніцтва дачных домікаў, а на самай справе пускала іх у абарот для ўласных патрэб.

**М. З. — Як вы, Мікалай Іванавіч, мабыць, помніце, у некалі даволі папулярнага пісьменніка Льва Шэйніна была кніга «Запіскі следчага», якая расказвала пра работу крымінальнага вышуку ў гады нэпа. Мануфактурныя і цукровыя каралі, махляры, бандзершы, бандыты — вось публіка, з якой даводзілася мець справу тагачасным пінкертонам. Але ж паглядзіце, уся гэтая пена не перашкодзіла нэпу накарміць і апрануць разораную грамадзянскай вайной краіну. Нядаўна «Известия» перадрукавалі інфармацыю, якая была змешчана ў гэтай жа газеце ў 1922 годзе. У ёй рэпарцёр маляўніча апісаў адзін з маскоўскіх рынкаў і, дальбог, гэтая карціна дастойна пэндзля Рубенса: на гандлёвых сталах — горы ялавічыны, свініны, гусінага, індычынага, курынага мяса, кілбас, вяндліны, рыбы. А на вуліцы каля дзвярэй магазінаў, што гандлявалі тканінай, пісаў карэспандэнт, стаялі прыказчыкі і прасілі прахожых зайсці і выбраць сабе тавар па густу. Казка!**

М. І. — Тады ўдалося так хутка аднавіць эканоміку краіны таму, што ў людзей яшчэ трывала жыў прыватнаўласніцкі інстынкт, яны яшчэ не ведалі, што такое ўраўнілаўка, якая знішча на корані ўсякую ініцыятыву, іх яшчэ не выхоўвалі роўнасцю беднасці, як наступныя пакаленні. Усё гэта было потым, у эпоху «развітога» сацыялізму. Лад гэты выхаваў чалавека-зайздросніка, які ўсё сваё свядомае жыццё падлічвае, ці не атрымаў ён ад дзяржавы менш, чым ягоны сусед, знаёмы, саслужывец.

**М. З. — Адсюль такое ў натоўпу падазронае насцярожанае стаўленне да тых, хто прысвяціў сябе прыватна-прадпрымальніцкай дзейнасці. Не ведаючы сутнасці справы, ён гатовы ўсіх, без выключэння, залічыць у крымінальныя элементы.**

М. І. — Я ведаю сярод прадпрымальнікаў прыстойных людзей, сярод якіх ёсць і народныя дэпутаты. Што тычыцца адносін да іх, дык гультай, абібок карыстаецца ў абывацельскім асяроддзі куды большай павагай, чым чалавек энергічны, ініцыятыўны, бо яму, ці бачыце, трэба больш чым іншым... Як народны дэпутат СССР я вёў у Мінску прыём грамадзян, і прыйшоў да высновы: 95—98 працэнтаў з іх прыходзяць да дэпутата з патрабаваннем — дайце! Кватэру, пасаду, пуцёўку ў санаторый. І толькі адзінкі прасілі дапамагчы ім рэалізаваць уласную ініцыятыву, задуму. З іх, магчыма, маглі б атрымацца неблагія прадпрымальнікі...

**М. З. — Падазронасць не ў маім характары, але я з некаторай насцярожанасцю адношуся да нечаканага для мяне прытоку ў сферу бізнесу ўчарашніх партыйных наменклатуршчыкаў. Нядаўна прамільгнула ў газетах інфармацыя аб тым, што ўзначаліў прыватную фірму былы першы сакратар былога Мінскага гаркома КПБ Місуна. Чуў ад аднаго народнага дэпутата і такую навіну — стаў прадпрымальнікам і былы першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Яўсеевіч Сакалоў. Я назваў толькі вядомыя ўсім прозвішчы. А наогул, я ведаю, у бізнес кінуліся, на злом галавы, сотні іх учарашніх паплечнікаў па партыі.**

М. І. — Не бачу ў гэтым нічога благога. Нельга адмаўляць таго факта, што сярод партыйных функцыянераў было нямала здольных, адукаваных, ініцыятыўных спецыялістаў, якія прыйшлі ў партыйныя органы з розных галін эканомікі. Лічылася, што тут яны, перабіраючы паперкі, прынясуць большую карысць... І калі цяпер яны вырашылі прымяніць свае здольнасці ў прыватна-прадпрымальніцкай дзейнасці, дык, як кажуць, на здароўе. Толькі, каб пры гэтым не парушаўся закон.

**М. З. — Мне здаецца, што ўсё гэта не так бяскрыўдна. Многія былыя партфункцыянеры, што вырашылі «паспрабаваць» сябе ў сферы бізнесу, выкарыстоўваюць старыя сувязі і знаёмствы, што дае ім магчымасць адхапіць больш ласы кавалак. У Наваполацку, напрыклад, малое прадпрыемства «Перспектыва», заснаванае гаркомам КПБ (узначаліў МП былы загадчык арганізацыйнага аддзела гаркома), намерылася было забраць сабе недабудаваны будынак гасцініцы і адразу атрымала на гэта дазвол старшыні гарвыканкома, хоць былі і іншыя, але не такія ўплывовыя прэтэндэнты на гэтую маёмасць.**

**Ведаеце, Мікалай Іванавіч, усё гэта наводзіць на роздум аб партыйных сродках, якія сёння — тайна за сямю пячаткамі.**

М. І. — Цяпер узбуджана крымінальная справа па факце выкарыстання былым Магілёўскім абкомам КПБ 32-33 мільёнаў у камерцыйных мэтах. Грошы гэтыя былі пералічаны яму ЦК КПБ на іншыя патрэбы. Але ўсё гэта ў стадыі расследавання і нічога больш пэўнага я сказаць не магу.

**М. З. — Цяпер публікуецца шмат дакументаў, звязаных з пералічэннем ЦК КПСС вялікіх сум грошай за мяжу. «Наш» ЦК КПБ таксама ўдзельнічаў у такіх акцыях?**

М. І. — Такіх звестак я не маю. Ды фактаў падобных, відаць, і не было. Кампартыя Беларусі, па сутнасці, была проста філіялам КПСС (не маючым нават свайго статута) і не магла зрабіць і аднаго самастойнага кроку без дазволу маскоўскага ЦК. Калі ЦК КПБ і пераводзіў некуды грошы, дык толькі сваім гаспадарам — цэнтральнаму органу КПСС. Рабіў ён гэта рэгулярна, з году ў год. Як гэта вам ні падасца дзіўным, але ў выніку нацыяналізацыі Расіяй маёмасці КПСС нейкім чынам пацярпела і наша рэспубліка.

**М. З. — Не разумею...**

М. І. — Справа ў тым, што згодна з законам, прынятым Вярхоўным Саветам Беларусі, мелася на ўвазе нацыяналізаваць маёмасць КПБ, дзе б яна ні знаходзілася. Сярод нацыяналізаванай Расіяй партыйнай маёмасці ёсць санаторыі, дамы адпачынку, пансіянаты, іншыя аб'екты, у фінансаванні якіх прымала ўдзел і КПБ. Пакуль што справядлівага рашэння па вяртанні гэтых сродкаў не знойдзена.

**М. З. — Я чуў, што наноўстворанага Партыя камуністаў Беларусі лічыць сябе пераемніцай КПБ.**

М. І. — Хай лічыць. Дарэчы, яна яшчэ не зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі рэспублікі.

**М. З. — Зарэгіструюць.**

М. І. — Калі гэта не будзе пярэчыць закону, дык, вядома, зарэгіструюць.

**М. З. — За некалькі дзён да пачатку з'езда ПКБ мне ў рэдакцыю пазваніў наш чытач з Астраўца і паведаміў, што ў памяшканні райкома партыі, сярод белага дня, прайшоў сход мясцовых камуністаў, на якім былі абраны дэлегаты на той з'езд. Гэта было відавочным парушэннем пастановы Вярхоўнага Савета Беларусі аб прыпыненні дзейнасці КПБ. Я вырашыў тады пазваніць вам, каб расказаць пра гэты выпадак. У адказ вы пералічылі мне па тэлефоне з дзесятак гарадоў рэспублікі, дзе прайшлі несанкцыянаваныя сходы і мітынгі камуністаў. Як зрэагавала на гэта пракуратура?**

(Працяг на стар. 12).

# МУЗА ПАЭЗІІ І МАЛОХ РЫНКУ

## Пасляслоўе да анкеты «ЛіМа»

МАБЫЦЬ, у нечым гэта — падсумаванне лімаўскай анкеты, але хутчэй — роздум пасля літаратурнай дыскусіі, гаркаваты дадатак да салодкіх «тостаў» у гонар элітарнай і масавай літаратуры, якая, на думку нашых паэтаў, празаікаў і крытыкаў, перажыла таталітарную каманднa - адміністрацыйную сістэму, перажыве і «міжчассе» няўхільнага рынку. Здалося мне, што, нягледзячы на крызісы і знявагі, якія мы сёння перажываем, пісьменнікі схіляюцца да аптымізму. А ў дачыненні да перспектыў літаратурнага мастацтва ў нас і ва ўсім свеце гэты спрадвечны славянскі аптымізм часцяком ходзіць поруч з фаталізмам — зноў жа славянскага роду.

«Ну, якая, скажыце, розніца для пісьменніка — насоўваецца рынак, сацыялістычны ўклад жыцця ці камуністычнае заўтра?! Ён піша, адштурхоўваючыся ад рэалій, аналізу і фантазіі. Так ці інакш — яму трэба пісаць. Другая справа — што і як?.. Калі пачаў чалавек з дваццаці гадоў друкаваць бязглуздзіцу, то ёю і скончыць, можа, толькі ў «таўсцейшых» маштабах». Добра пачаў дыскусію паэт Леанід Галубовіч, але зададзены ім тон — занадта безапеляцыйны. І не без багемскай іроніі да сацыяльна-палітычных рэалій і бесталаннасці. Гэтая танальнасць адчуваецца і ў нататках Івана Чароты: «Пісьменнік ва ўсе часы мог і мусіў абапірацца на дараваны яму талент і набытае самім сумленне. А калі бракуе і таго, і другога? Што ж, гэта блага, аднак не дзіўна і не так ужо страшна, бо ўсё роўна ў літаратурным працэсе больш як дзесяць гадоў паўназначна існуе толькі 1 % выдадзеных твораў».

Лідзія Арабей спачатку як быццам аспрэчвае фатальную наканаванасць апазіцыі «талент — бездар». А ў заключэнне схіляецца да надзеі і веры ў цывілізаваны рынак: «Не думаю, што могуць існаваць нейкія спецыфічныя «рыначныя» густы. Увесь цывілізаваны свет жыве пры рыначнай эканоміцы, і жывуць, твораць там пісьменнікі, розныя па поглядах і таленту. І кожны піша ў меры свайго таленту і згодна свайму погляду на жыццё». Сімпатычныя нататкі Галі Тычкі фарсіруюць аптымістычны тон. На яе думку, «баяцца рынку выпадае больш хатнім гаспадыням», а духоўныя арыенціры і творчыя задачы пісьменнікаў «ніколі не залежалі і не будуць залежаць ад рыначнай кан'юнктуры». Нашыя ж фармальныя пошукі «адчыняць такія новыя і недасяжныя далягляды, якія нам і не сніліся».

Маладую саманадзейнасць крыху астудзіў Алег Лойка — самы вопытны «рэцыпіент» анкеты: «Рынак — стыхія цалкам варожая мастацтву. Ва ўсякім разе той рынак, які толькі складваецца, якому няма іншага інтарэсу, апроч свайго». Слушная думка ёсць у развагах Уладзіслава Рубанава наконт таго, як жа нам разумець само паняцце «рынак» у дачыненні да мастацтва — як новую кан'юнктуру ці як творчую свабоду. Алесь Каско зноў-такі бачыць у надыходзе рыначных адносін станоўчы бок, бы рынак, на яго думку, «зліквідоўвае штучныя стымулы і прывілеі», у аднолькавыя ўмовы ставіць усіх творцаў. Дзмітрый Бугаёў таксама спадзяецца на «аптымальны варыянт» развіцця літаратуры ў эпоху абнаўлення. Крытык Яўген Гарадніцкі не паверыў у рыначны рай, але і яго адказы пазначаны паэтычным загалоўкам: «На новы лад, каб жыць нанова...» Гэта з «Новай зямлі» Якуба Коласа. Фінальныя радкі, дабаўленыя паэтам да сваёй паэмы пасля «вялікага» Кастрычніка. На жаль, і ягоны аптымізм не спраўдзіўся.

Нататкі крытыка Нічыпара Пашкевіча дыялектычныя ў добрым сэнсе гэтага слова: аптымізм у аспекце творчым («Бо сёння якраз складваюцца даволі спрыяльныя абставіны для творчага разгарнення...») спалучаюцца з асцярожным скептыцызмам у сацыяльным плане (ва ўмовах «нашага» рынку «пісьменніку пакуль што не свеціць нічога добрага»). Урэшце, паэт Мар'ян Дукса раіць спадзявацца на ўласнае сумленне і хрысціянскія прынцыпы, ён упэўнены, што нашыя цяжкасці — часовыя. Абстрактна кажучы, гэта думка правільная. Бо ўсе мы — таксама часовыя.

Мая іронія наконт славянскага аптымізму і фаталізму не закранае галоўнага ў адказах паважаных калег-літаратараў на пытанні анкеты. Гэта — чэсная і прафесійная гаворка кампетэнтных экспертаў, якія ведаюць літаратуру як спецыялісты, «генератары» літаратурнага працэсу. Радуе тое, што да філасофіі культуры, да рэфлексіі адносна сучаснага стану літаратуры і яе перспектывы на будучыню далучыліся паэты і празаікі, раней не схільныя да крытычнага аналітызму. Шчыры, спавядальны характар выказванняў, іх шматгалоссе зусім не перашкодзілі іх сугучнасці ў асноўным і запаветным — разуменні мастацтва як духоўнай «праекцыі» творчай асобы на гістарычны лёс народа, на ўсечалавецтва і космас. Ідэал творчасці, незалежнай ад зменлівых умоў эмпірычнай рэальнасці, нашага ненадзейнага і супярэчлівага палітычнага быцця — сімпатычны і ўзнёслы, хоць і не бясспрэчны з пункту гледжання сацыяльнай філасофіі.

Вось у полі зроку сацыяльна-палітычнага і эканамічнага становішча мне хацелася б прадоўжыць гаворку. Яна сёння неабходна, бо сучасныя сродкі масавай інфармацыі заблыталі праблему «савецкага крызісу», замоўчваючы грабежніцкі характар нашага «рынку» і фінансавай анархіі. Адным словам: «І тут— гу-гу, і там — гу-гу, а нічога разабраць не магу».

Мне, грамадазнаўцу, а не толькі крытыку, было б недаравальна пазбягаць ацэнкі «бягучага моманту», як калісьці казалі запісныя аратары. Па сутнасці, маю на мэце развіць думку, эскізна пазначаную К. Шэрманам: «Бяда ў тым, што пакуль насоўваецца не рынак, а жахлівая карыкатура на яго... Зноў набірае моц ідэя лібералізацыі цэн (пісалася яшчэ да чарговай «лібералізацыі». — У. К.), але зусім няясна, якім будзе механізм абмежавання прыбыткаў да цывілізаванага ўзроўню...»

МІНУЛА паўгода пасля перамогі апературачнай, цяпер ужо жнівеньскай рэвалюцыі ў Расіі. Паднятая ёю хваля «радыкальнай» эйфарыі пасля чарговай расійскай авантуры пад кодавай назвай «лібералізацыя цэн» і «прыватызацыя» ўпала, здаецца, да нулявой адзнакі. Наступае час одуму, калі можна сказаць самім сабе і ўсяму свету горкую, але гаючую праўду пра вялікую цану «піравай перамогі» нашай дэмакратыі і нацыянальнай свабоды. Час, калі трэба развітацца з наіўнай ілюзіяй, быццам бы «эпоха перабудовы» закончылася толькі паражэннем аднаго боку нашай пакуль што бяскроўнай (ці «малакроўнай») рэвалюцыі — крахам каманднa - бюракратычнай сістэмы, камуністычнай дыктатуры і ваенна - прамысловага комплексу. Бо ўсе гэтыя «монстры», як сёння любяць гаварыць транскантынентальныя прапагандысты, не з неба (і не з пекла) упалі, а сфармаваліся ў нашым грамадстве.

А цяпер паглядзім, што ёсць наш сённяшні рынак, ва ўмовах якога нам прапануюць жыць і тварыць — не толькі пісьменнікам, але і ўсяму іншаму працоўнаму люду. Зусім відавочна, што сёння ўмовы рынку навязаны грамадству і малавопытнай дэмакратычнай уладзе монстрам ценявой эканомікі — ад падпольных бізнесменаў да шматмільённай арміі банальных спекулянтаў. Таму і называецца «ценявой», бо яна — цень каманднa - адміністрацыйнай эканомікі і адпаведнай сацыяльнай сістэмы. З ценевікамі беспаспяхова ваявалі: Ленін і Сталін — жорсткімі рэпрэсіямі, Андропаў і Гарбачоў — выкрывальніцкімі кампаніямі, Ельцын і яго каманда — высокімі падаткамі і «лібералізацыяй» цэн. Але вайна гэтая была і ёсць гратэскавае змаганне з уласным ценем. Лёгка перанеслі баксёры ценявой эканомікі і рэальны «ўдар пад дыхавіцу» — указ Гарбачова-Паўлава пра частковы абмен 50- і 100-рублёвых асігнацый (Рызыкуючы атрымаць ярлык «ідэолага ГКЧП», усё ж скажу: былы прэм'ер Паўлаў — адзін з самых кампетэнтных практычных эканамістаў Расіі. Цяпер там, здаецца, правіць баль эканамічная інфантыльнасць).

Ці чытае сёння хто-небудзь абавязацельства на буйных рублёвых купюрах — «білетах Дзяржаўнага Банка СССР»? Цікавы, між іншым, надпіс: «...Обеспечиваются золотом, драгоценными металлами и прочими активами Государственного банка». Быў час, былі эпохі (сталінская, хрушчоўская і нават брэжнеўская), калі можна было за рэдкія ў кішэнях пакупнікоў рублі купіць золата, серабро, дарагія камені і, урэшце, натуральныя спажывецкія тавары. Але ўжо брэжнеўская каманда апошнія гады жыла паводле басяцкага дэвізу: «Пасля нас хоць патоп». Дарагія металы, камені ды іншыя «актывы» краіны, яе асноўнае багацце — жывая і назапашаная праца людская — перакаваныя былі ў ракеты, атамныя бомбы, іншыя аб'екты ваенна-прамысловага комплексу, праядаліся-прапіваліся шматмільённай арміяй чыноўнікаў, ішлі на дапамогу тым, хто «спачуваў» сацыялістычнаму лагеру. А каб задобрыць працоўны люд, павышаліся заробкі пры адначасовым скарачэнні долі таварнай масы ў нацыянальным «валавым» прадукце. Так двор манетны ператвараўся ў фальшываманетны.

Вынік быў катастрафічны: савецкая валюта пачала «гарэць». Адразу ж актывізаваліся падпольныя «бізнесмены», свае і зарубежныя спекулянты: валодаючы тонкім нюхам на такія «пажары», яны ініцыіравалі «залатую ліхарадку» — скупку валютных і дэфіцытных тавараў. Новыя інстытуты вярхоўнай улады эпохі галоснасці і перабудовы — з'езды народных дэпутатаў і створаны імі Вярхоўны Савет СССР — пачалі не з клопатаў пра стабілізацыю бюджэту і ўмацаванне валюты, а з «адмывання» грошай на бясконцыя сацыяльныя праграмы. Усё рабілася па-басяцку: не шляхам эканамічных рэформаў і не пераводам ваенна-прамысловага комплексу на вытворчасць спажывецкіх тавараў, а бескантрольным друкаваннем папяровых грошай. Вось тады ажыятажны попыт стаў сапраўдным псіхозам: скуплялася ўсё — ад машын і сыравіны да скавародак і начных гаршкоў.

Нядаўна сустрэў свайго земляка, механіка-наладчыка. Ён пахваліўся, што пашэнціла купіць дзесяць вёдраў. «Ты што, — пытаюся, — хіба пажарнікам стаў?» У адказ пачуў: «Ды не, але ж вёдры — гэта ўсё ж бляха, а папяровыя рублі, якія зарабляў я дваццаць гадоў, хутка спатрэбяцца толькі на тое, каб імі вокны абклейваць». Вось і ходзіць былы працавіты люд, выглядвае, дзе б у чарзе пастаяць, рублі, талоны ды купоны «атаварыць».

Былы саюзны, а цяпер расійскі «манетны двор» даўно стаў домам распусты: ягоны фінансавы ананізм фарсіруе няспынную інфляцыю, а гэта ёсць не што іншае, як крыху замаскаваная, даўно знаёмая экспрапрыяцыя — рабаванне «сярэдніх» і бедных слаёў грамадства, а сярод іх найбольш людзей сумленных, хто за працай не меў ні часу, ні нахрапістасці, каб «выкалачваць» тавары, кватэры, іншыя даброты. На першы погляд «альтэрнатыўная» праграма некаторых нашых дэмакратаў на справе ўзята з бальшавіцкіх архіваў. Як паведамляе газета «Навіны Адраджэння» (9 студз. 1992 г.), намеснік старшыні камісіі па навуцы і тэхніцы У. Заблоцкі прапанаваў «канфіскацыйную» валютную рэформу. Яна ігнаруе маральныя крытэрыі ацэнкі прыбыткаў і звышпрыбыткаў, раўняе ценевікоў і працавіты люд, законныя і крымінальныя даходы. Дарэчы, у такім праекце нічога беларускага няма, гэта — проста рэпрадукцыя рэформы нямецкага эканаміста Л. Эрхарда, праведзеная ў пасляваеннай Заходняй Германіі (1947 г.). Яе даўно падсоўваюць нам у якасці ўзору нашыя «дабрадзеі» з расійскай зарубежнай «Свабоды». Але калі ў пасляваеннай Германіі рэформа Эрхарда падарвала ценявую эканоміку і стымулявала працоўную актыўнасць, то ў цяперашнім нашым становішчы вынікі будуць адваротныя: пачне адміраць гаспадарлівасць, беражлівасць, знікнуць апошнія рэшткі даверу да дзяржаўных банкаў, да ўрадаў любых кірункаў і адценняў. Свае «актывы» дзялкі ценявой эканомікі перавялі ў дэфіцытныя тавары і замежную валюту. Яны даўно і з поспехам «прыватызуюць», але не так сродкі вытворчасці (з імі шмат клопату, бо трэба арганізоўваць вытворчасць, а гэтага яны ніколі не ўмелі і не жадалі), колькі гатовую прадукцыю. Апошнім часам мафія ўсё часцей карыстаецца банальным крадзяжом. Вось адно з шматлікіх паведамленняў: «Мінулай ноччу з закрытай тэрыторыі АТЭП-5... невядомымі ўгнаны «КамАЗ» з паўпрычэпам, у якім знаходзіліся 6 кантэйнераў з дзіцячым і мужчынскім абуткам, атрыманым напярэдадні на гродзенскай абутковай фабрыцы «Нёман». Абутак прызначаўся для продажу ў мінскіх прамтаварных магазінах: на жаль, падобна на тое, што нашы бедныя прылаўкі... яго не ўбачаць» («Звязда», 1991, 14 снежня).

Мы, здаецца, яшчэ не ўсвядомілі ні свайго становішча ва ўмовах гэтага крымінальна-басяцкага рынку, ні выхаду з яго да еўрапейскай цывілізацыі. Час пазбавіцца ад папулісцкіх лозунгаў, якія чуюцца то з боку прафсаюзаў («сацыяльныя гарантыі», «павышэнне зарплаты»!), то з трыбуны апазіцыі («ісці ў Еўропу»!). Праўда, якую да гэтага часу замоўчвалі, вось у чым: бескантрольны рост цэн і зарплаты азначае скрытую канфіскацыю (праз банкі і ашчадкасы) уласнасці працавітага і творчага люду, працай якой жыве сучаснае грамадства «масавага спажывання».

А ў Еўропу з пустым багажом нас не пусцяць. Што значыць ісці ў Еўропу, так сказаць, ad hominem (у дачыненні да чалавека)? Нядаўна выдавецтва «Міжнародны біяграфічны цэнтр» (Англія) прапанаваў мне набыць энцыклапедычны том біяграфій пісьменнікаў, вучоных і іншых вядомых людзей (накшталт «Хто ёсць хто?»), у якім змесцяць даведку пра мяне і маю «кар'еру». Кошт — 275 долараў. У рублёвым эквіваленце па сучасным курсе гэта значна больш, чым усе мае заробкі на прафесарскай пасадзе за апошнія дзесяць гадоў. Авіябілет у Парыж сёння, па чутках, каштуе 35000 рублёў. Хто з нашых літаратараў мае такі гадавы ганарар? Палітыкам лепш: можна злятаць на казённы кошт. Але на еўрапейскім рынку ўсе мы — прэзідэнты, прэм'ер-міністры, літаратары — «каштуем» не больш, чым наша валюта.

Трэба ратаваць краіну ад анархіі, казнакрадства, рабавання, масавай спекуляцыі, вымывання грошай і рэсурсаў шматлікімі псеўдакааператывамі і «часовымі калектывамі». А для гэтага спатрэбіцца кааліцыйны ўрад народнага даверу, аўтарытэтны і, на жаль, да пэўнага часу аўтарытарны. Усе прарокі рэфармацый і рэвалюцый ужо праракл і, цяпер царства дэмакратыі і дабрабыту «намаганнем бярэцца» — творчаю працаю і «мячом закона», пра які добра сказаў першы беларускі пісьменнік Ф. Скарына: «И вчинены суть права, или закон, для людей злых, абы боячися казни, усмирили смелость свою и моцы не имели иным ушкодити, и абы добрыи межи злыми в покои жити могли...»

Як справядліва зазначыў Я. Гарадніцкі, рынак — не базар, а пэўны лад жыцця і светапогляд. Больш таго, гутарка ідзе пра самае быццё народа, нацыі, асобы, а яно, як вядома, вызначае свядомасць, мастацтва, літаратуру. Не ў вузка сацыялагічным, «класавым» вымярэнні, як гэта ўяўлялі нашыя марксісты, а ў быційна-экзістэнцыяльным плане, у тым сэнсе, што перш чым ствараць нацыянальную літаратуру, неабходна, каб была і захавалася ва ўмовах рыначнай канкурэнцыі сама нацыя і яе творцы мастацкіх каштоўнасцей. А гэта не самавідавочнасць гістарычнага быцця, а спрадвечная праблема нашага выбару, «штодзённага плебісцыту». Нацыя, якая на сусветным рынку тавараў, паслуг, арэне ідэй, ідэалаў і духоўных каштоўнасцей адмовілася ад свайго ўласнага выбару, паступова траціць і сваё гістарычнае быццё, становіцца аб'ектам выбару для іншых, больш актыўных народаў, нацый, суб'ектаў.

**Уладзімір КОНАН**

Адной з магістральных праблем лімаўскіх публікацый гадоў так званай перабудовы стала незайздроснае становішча роднай мовы ў школах рэспублікі, а калі шырэй—заняпад усёй сістэмы нацыянальнай асветы і адукацыі ў Беларусі. Пра гэта наш штотыднёвік, з дапамогаю чытачоў, вядома, пісаў нястомна і мэтанакіравана з нумара ў нумар і з году ў год. «Вярнуць родную мову ў школу!», «Адрадзіць беларускую нацыянальную школу!», «Хай дзеці нашы растуць свядомымі патрыётамі роднай зямлі, а не манкуртамі!» — так можна вызначыць галоўны змест і пафас гэтых чытацкіх выступленняў.

За апошнія гады ў гэтай справе адбыліся немалыя станоўчыя зрухі. Палітыка суверэнітэту і незалежнасці Рэспублікі Беларусь пачынае прыносіць плён і ў сферы культуры. Ёсць першыя праявы дзейнасці і дзейснасці Закона аб мовах. Зрушыўся, здаецца, з месца працэс беларусізацыі нашай школы.

І тут мы свядома не робім асаблівай розніцы паміж школай ніжэйшай і вышэйшай. Народная адукацыя — працэс адзіны, вертыкальныя ўплывы тут і знізу ўверх і зверху ўніз узаемазалежныя, ніжэйшая школа мае патрэбу ў моцнай падтрымцы вышэйшай, з'яўляючыся, у сваю чаргу, надзейным грунтам для апошняй. І калі мы, каб зірнуць на практычныя крокі беларусізацыі, сабралі за «круглым сталом» кіраўнікоў ВНУ, дык зрабілі гэта свядома. Дзеля пацвярджэння гэтага нагадаем мудрыя словы дзеяча венгерскай асветы Дзьёрдзя Бешэнеі, сказаныя ім яшчэ дзвесце гадоў назад: «Ніколі на зямным шары нацыя не авалодвала мудрасцю, глыбінёй, пакуль не ўцягвала навукі ў родную мову. Любая нацыя становіцца вучонай на сваёй мове і ніколі—на чужой».

Згадаем і іншае. У жніўні мінулага года мы паспрабавалі закрануць праблему роднай мовы ў вышэйшай школе, узяўшы інтэрв'ю ў рэктара Мінскага медінстытута А. Кубаркі. Публікацыя выклікала неадназначную рэакцыю чытачоў. Адзін з галоўных пастулатаў А. Кубаркі «Я катэгарычна супраць штучных захадаў...» (гэтыя словы былі вынесены ў назву інтэрв'ю) выклікаў пярэчанне, напрыклад, прафесара І. Міронычыка. Ён пісаў у рэдакцыю: «Нельга не згадзіцца з Аляксеем Іванавічам, што вывучаць родную мову трэба яшчэ з дзіцячых садкоў. Але ж кольні давядзецца чакаць абітурыентаў з цяперашніх дзіцячых садкоў! За гэты час зменіцца цэлае пакаленне выкладчыкаў. А чаму ж ужо цяпер і рэктару, і прафесарам, і выкладчыкам не ўзяцца дружна за справу і не наладзіць выкладанне на роднай мове?.. Дарэчы, многія прафесары і выкладчыкі з медінстытута, каб паехаць працаваць за мяжу, вывучалі англійскую, французскую, іспанскую мовы літаральна за некалькі месяцаў. І на гэтых зусім чужых мовах чыталі студэнтам лекцыі. Адзін з дацэнтаў нават напісаў на французскай мове дапаможнік па паталагічнай анатоміі для студэнтаў. Зразумела, што трэба складаць і выдаваць медыцынскія слоўнікі на беларускай мове, але адкладваць выкладанне на роднай мове да таго часу, пакуль яны не з'явяцца, не варта».

Гэта — толькі адзін з аспектаў беларусізацыі вышэйшай школы. Але ўжо і ён сведчыць, што праблемы тут узнікаюць складаныя і нават вострыя. Вось чаму мы вырашылі «зірнуць» на іх больш пільна, дзеля чаго і запрасілі за «круглы стол» «ЛіМа» некаторых кіраўнікоў сталічных ВНУ. На нашу просьбу адгукнуліся: рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта, член-карэспандэнт АН Беларусі, доктар хімічных навук **Ф. М. КАПУЦКІ**, рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў, народны мастак Беларусі прафесар **В. П. ШАРАНГОВІЧ**, прарэктар па вучэбнай рабоце Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, доктар фізіка-матэматычных навук прафесар **Д. Ф. ДАМАНЕЎСКІ**, рэктар інстытута замежных моў, доктар філалагічных навук прафесар **У. В. МАКАРАЎ** і прарэктар гэтага інстытута па навуковай рабоце, доктар філалагічных навук прафесар **А. Я. МІХНЕВІЧ**, прарэктар па вучэбнай рабоце Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, доктар гістарычных навук прафесар **Л. М. ЦІХАНАЎ**, прарэктар па навукова-творчай рабоце Мінскага інстытута культуры, кандыдат эканамічных навук **А. К. ЛЯГЧЫЛАЎ**, прарэктар Беларускай музычнай акадэміі, кандыдат філасофскіх навук дацэнт **А. Ф. РАШЧУПКІН**, намеснік міністра адукацыі, доктар фізіка-матэматычных навук прафесар **В. І. СТРАЖАЎ**, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Я. М. ЦУМАРАЎ**, дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута **Н. В. ГАЎРОШ** і намеснік дэкана факультэта беларускай філалогіі і культуры дацэнт гэтага ж інстытута **М. М. КРУТАЛЕВІЧ**.

Іх прадставіў і запрасіў да размовы пра сённяшняе месца роднай мовы ў сістэме навучання, падзяліцца інфармацыяй пра першыя канкрэтныя меры па ажыццяўленні ў іхніх ВНУ закона аб наданні нашай мове статуса дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь рэдактар «ЛіМа» Мікола ГІЛЬ.

Забягаючы наперад, скажам, што гаворка атрымалася зацікаўленай, палемічнай, як часцей за ўсё і бывае за «круглым сталом», хоць, праўда, асобныя ўдзельнікі яе і збіваліся на справаздачнасць, няйначай літаральна зразумеўшы просьбу даць інфармацыю аб тым, што зроблена, робіцца і будзе зроблена. Падаём запіс размовы (натуральна, у скарочаным выглядзе), лагічны «сюжэт» якой, так бы мовіць, выбудаваны трошкі інакш, чым было на самай справе.

# «КАЛІ МЫ-СУВЕРЭННАЯ ДЗЯРЖАВА...»

## Кіраўнікі вышэйшых навучальных устаноў Мінска — аб праблемах беларусізацыі вышэйшай школы

СТРАЖАЎ: Не сакрэт, што ў вышэйшай школе існуе праблема асэнсавання неабходнасці беларусізацыі і праблема матэрыяльнага забеспячэння гэтага працэсу. Але гэта, думаю, не галоўнае. Галоўнае — жаданне, унутраная перакананасць у тым, што трэба дзейнічаць. Трэба шукаць тыя меры, якія б уплывалі на сённяшнюю сітуацыю. Вось адзін прыклад. Калі ў 89-м годзе былі ўведзены ўступныя экзамены ў ВНУ па беларускай мове і літаратуры, адразу змяніліся і адносіны школьнікаў да вывучэння роднай мовы.

КРУТАЛЕВІЧ: Хацеў бы падтрымаць калегу: мы павінны быць унутрана перакананымі ў тым, што родная мова — будучыня незалежнай Рэспублікі Беларусь. Без гэтага ўсведамлення далёка не пойдзем. Але, мне здаецца, што для некаторых родная мова становіцца толькі мовай службовай. Мовай для выкладчыка, які толькі прачытае на ёй лекцыю, а студэнт здасць нейкі залік і экзамены. На жаль, гэта яшчэ не ўнутраная перакананасць, бо той жа выкладчык выходзіць за сцены вышэйшай установы і гаворыць па-руску. На гэты момант нам таксама трэба звяртаць увагу.

ЛЯГЧЫЛАЎ: Трэба не толькі размаўляць, але яшчэ і думаць, калі хочаце — жыць па-беларуску. Гэта праблема надзвычай сур'ёзная, яна ахоплівае велізарны пласт.

ДАМАНЕЎСКІ: Дазвольце запытаць: што гэта за ўнутраная перакананасць? Адкуль яна можа ўзяцца? Адкуль узялася перакананасць у неабходнасці рускай мовы, якой мы карыстаемся? З эканамічных абставін? Не толькі. Паўплывалі яшчэ і палітычныя адносіны. Калі Беларусь сёння стане сапраўды самастойнай, незалежнай дзяржавай, тады і з'явіцца тая ўнутраная перакананасць, пра якую мы гаворым.

ШАРАНГОВІЧ: Сапраўды, адкуль можа быць самасвядомасць, калі, практычна, ад нараджэння і да старасці чалавек так і застаецца ў няведанні, адкуль ён, якія ў яго карані, з чаго пачыналася гісторыя нацыі? Вось такая ў нас у рэспубліцы, у дзяржаве нашай склалася сітуацыя. Словам, трэба пачынаць з гісторыі. Неадкладна падрыхтаваць і выдаць падручнікі, не такія, вядома, якія Абэцэдарскі выдаваў. Абэцэдаршчына яшчэ жывучая. Сапраўдных гісторыкаў-беларусаў можна пералічыць на пальцах адной рукі: Ермаловіч, Чарняўскі, Грыцкевіч, Сідарэвіч.. Няма каму выкладаць гісторыю ў нашых ВНУ. Няма ў іх і вельмі неабходнага для патрыятычна настроенага выкладчыка і студэнта нацыянальнага асяроддзя...

КАПУЦКІ: Беларускамоўны асяродак — найбольш балючае пытанне...

ШАРАНГОВІЧ: Здаецца, комплекс непаўнацэннасці ў беларусаў — у крыві. І таму ўсё пачынаецца з пана, як кажуць. Памятаеце: мужык глядзіць на пана. Калі начальнік гаворыць па-руску, наўрад ці ягоныя падначаленыя будуць ствараць беларускамоўнае асяроддзе. Калі мы, кіраўнікі ВНУ, хочам нешта сур'ёзнае распачынаць, дык трэба, каб і вучоны савет, і дэканат, і сакратарыят — усё ішло па-беларуску. А дэкларатыўныя заклікі тут не дапамогуць...

ЦУМАРАЎ: Ці знаёмы вы з вопытам беларусізацыі ў тэхналагічным інстытуце? Там усё пачалося з выкладчыкаў. Устаноўлены двухгадовы тэрмін для авалодання мовай, здаюць спецыяльны экзамен, атрымліваюць адпаведны дыплом. Дарэчы, такія выкладчыкі маюць права на дзесяціпрацэнтную надбаўку да зарплаты. Адначасова тут распрацоўваюць тэрміналагічныя слоўнікі. Беларусізацыя пачалася ў тэхналагічным у літаральным сэнсе. Яна закранае ўсіх студэнтаў, усіх выкладчыкаў. А праз год-два яна закране практычна ўсіх. Мы збіраемся разаслаць усім ВНУ рэкамендацыі па выкарыстанні вопыту тэхналагічнага інстытута.

КАПУЦКІ: Універсітэт заседзеўся на старце па аб'ектыўных прычынах. У нас 16 тысяч студэнтаў, 6 тысяч супрацоўнікаў, 700 замежных студэнтаў, 200 аспірантаў, і ўсе яны—на розных факультэтах. Вядома ж, далёка не ўсе гатовы да беларускай мовы. Выйсце — мець дзве плыні. Тых самых замежных студэнтаў, аспірантаў на беларускую плынь не возьмеш, бо для іх асобна трэба чытаць лекцыі, праводзіць заняткі... Тым не менш, мы абавязаны рыхтаваць перш-наперш высокаадукаваныя нацыянальныя кадры.

ШАРАНГОВІЧ: Часта мы на праблемы толькі ківаем. А трэба не ківаць, а рабіць. Я павінен сказаць, што тры гады назад у вучэбныя планы мы ўвялі такі цыкл: першы курс — вывучэнне беларускай мовы, другі курс — вывучэнне гісторыі Беларусі і трэці — беларускай літаратуры. Гэта — для студэнтаў. Два гады назад мы цалкам перавялі праграму на беларускую мову навучання. Само сабой, яна прадугледжвала адпаведную падрыхтоўку і выкладчыкаў, і абслугоўваючага персаналу. Цяпер уся дакументацыя ў нас ідзе на беларускай мове, усе загады друкуюцца па-беларуску. Нават начальнік аддзела кадраў па-беларуску загаварыў. І ўсім гэта, паверце, падабаецца. Усе машынкі і камп'ютэры мы перавялі на беларускую мову. І паспрабуйце, назавіце гэта прымусам. Проста стварылі такія ўмовы, што гэта стала неабходнасцю.

Першае, пра што мы пытаемся, калі прымаем выкладчыка, лабаранта, машыністку на працу: ці ведае мову? Калі не ведае, то прымаем з умовай, што — хоча ведаць. Калі не хоча, то і размовы няма. Але самая найбольшая праблема для вышэйшай школы з пункту гледжання беларусізацыі — гэта выкладчыкі. Студэнт, нават калі ў быце гаворыць па-руску, у нас на вучоным савеце зробіць даклад па-беларуску. Каб направіць сітуацыю, моўнае асяроддзе трэба фарміраваць яшчэ ў школе. Бо, смешна гаварыць, даводзіцца ў акадэміі ўводзіць школьны курс беларускай мовы. Трэба больш патрабаваць ад школы, бо там яшчэ — вялікае супраціўленне. Менавіта там ставіць кропкі над «і», бо адны ВНУ гэтай праблемы не адолеюць. А сёння нам патрэбны кадры і педагагічныя, і тэхнічныя: скажам, не можам знайсці лабаранта, які гаварыў бы па-беларуску...

ЦУМАРАЎ: Дзякуй Богу, прававы калідор, што тычыцца беларускай мовы, пашыраецца. З прыняццем Закона аб адукацыі састарэлі многія пазіцыі Закона аб мовах. Прыняты Закон аб культуры, Закон аб палітычнай і эканамічнай незалежнасці. Па сутнасці, яны пашырылі рамкі гэтага прававога калідора. Уступаюць у сілу два фактары. Закон аб мовах, напісаны пад адміністрацыйную сістэму, калісьці нас задавальняў. Але адміністрацыйная сістэма развальваецца, уваходзяць у жыццё элементы рынку, дэмакратыя пашыраецца, і цяпер гэты закон канцэптуальна нас ужо не задавальняе. Як прамежкавы этап, мы яшчэ ім карыстаемся. Сёння ў нас рыхтуецца рэферэндум аб незалежнасці, і ставіць пытанне аб паляпшэнні закона нам палітычна не выгадна. І наша камісія не будзе пакуль ставіць такое пытанне. Вядома ж, прыстасаванне закона да новых умоў—пераходу да рынку і дэмакратычных структур — гэта важна. Але існуе і другі момант: эканамічна людзі ў цяжкім стане, сацыяльная напружанасць расце, то як тут будзеш патрабаваць ад чалавека, каб ён скіраваў усю сваю ўвагу на вывучэнне мовы?

ШАРАНГОВІЧ: Калі мы — суверэнная дзяржава, то павінны не толькі са сваім народам гаварыць на роднай мове, але і з немцамі, англічанамі кантактаваць праз нашу мову. Толькі тады я сябе адчую прадстаўніком дзяржавы, роўнай сярод роўных. Пакуль жа мне ў такіх выпадках даводзіцца шукаць перакладчыка, які б добра валодаў беларускай мовай. Гэтае пытанне, выбачайце, тычыцца найперш інстытута замежных моў.

МАКАРАЎ: Сёе-тое па беларусізацыі ў нас робіцца. У нас працуюць, ска-


В. СТРАЖАЎ


Ф. КАПУЦКІ


Я. ЦУМАРАЎ


А. МІХНЕВІЧ


В. ШАРАНГОВІЧ


А. РАШЧУПКІН

жам, групы, дзе беларуская мова з'яўляецца не проста прадметам, а спецыяльнасцю: напрыклад, англійская мова, беларуская мова і яшчэ адна з еўрапейскіх моў. Важнасць валодання беларускай мовай, мы разумеем, але шмат цяжкасцей. Цяжкасцей і з вучэбным матэрыялам, і з выдавецкай базай, і з выкладчыцкімі кадрамі. Увогуле ў нас спецыфічны працэс навучання: пачынаючы з другога курса, выкладчык не мае права, навучаючы, напрыклад, англійскай мове, карыстацца роднай...

**Гэтыя словы выклікалі непаразуменне. Ці ёсць дзе ў свеце нешта падобнае, акрамя Беларусі? Не першы дзесятак гадоў працуе інстытут, а ці прыехаў хоць бы адзін выкладчык у беларускую школу выкладаць англійскую, французскую, нямецкую мовы праз родную? Пара штосьці рабіць. Закон аб мовах вызначае канкрэтныя тэрміны яго ажыццяўлення. Калі ж інстытут будзе рыхтаваць спецыялістаў замежных моў, якія будуць у школах выкладаць дзецям гэтыя мовы праз родную?**

МАКАРАЎ: Пытанне настолькі складанае, што канкрэтныя тэрміны вызначыць немагчыма. Неабходна папярэдняе даследаванне працэсу, каб яго вырашыць па сутнасці. Мы можам пакуль пытанне вырашаць толькі часткова. І вырашаем. Ствараем вучэбныя дапаможнікі. Нават іх публікуем. А вось калі іменна ўсю масу студэнтаў разам з 600 выкладчыкамі зможам пераарыентаваць на гэтую надзвычай складаную задачу, сказаць рызыкоўна. На тых жа нямецка-беларускім і англійска-беларускім аддзяленнях выкладанне прадметаў ідзе на розных мовах, у тым ліку і на беларускай. Скажам, агульныя лекцыі па філасофіі чытаюцца — у залежнасці ад выкладчыка, забяспечанасці дапаможнікамі — або на рускай, або на беларускай мове. Мы заахвочваем правядзенне заняткаў на беларускай мове. Але, пагадзіцеся, калі выкладчык дзесяць-пятнаццаць гадоў працаваў на рускай мове, адразу перайсці на беларускую мову яму цяжка. Хаця некаторыя пераходзяць. Ды і значная колькасць студэнтаў успрымае гэта не заўсёды прыхільна, хоць бы з прычыны адсутнасці падручнікаў. Адным словам, цяжкасцей нямала...

ГАЎРОШ: Цяжкасці—цяжкасцямі, але, думаю, ніякай дыскрымінацыі асобы не будзе, калі пытанне паставіць так: жывеш у рэспубліцы — вучы мову.

МІХНЕВІЧ: Хачу даць кароценькую даведку: наш рэктар вельмі актыўна займаецца беларускай мовай. І робіцца ў нас значна болей, чым сказаў Уладзімір Васільевіч Макараў.

ГАЎРОШ: У якой ступені ў інстытуце беларуская мова стала рабочай?

МІХНЕВІЧ: Пакуль што ў невялікай. Дакументы ў нас друкуюцца на дзвюх мовах, аб'явы таксама. Што тычыцца выкладання... Скажам, у англійска-беларускай групе павінна быць так: з аднаго боку — англійская мова, з другога — беларуская. Не заўсёды ў нас гэта атрымліваецца. Пытанні стварэння нацыянальнай атмасферы — пытанні вельмі складаныя. Але ў нас ёсць падрабязная, вялікая праграма, якую стараемся выконваць. Дарэчы, пра падручнікі. Мы зрабілі першы беларускі падручнік па нямецкай мове. Зрабіць гэта была складана нават з чыста тэхнічнага боку, але — зрабілі. І лекцыі будзем чытаць па грамадскіх навуках на беларускай мове. Але адна справа — чытаць, другая справа — успрыняць, а трэцяя справа — калі чалавек мае перад вачамі друкаваны тэкст. Клопатаў даволі многа. Карыстаючыся выпадкам, хацеў бы падкрэсліць, што нават вось такая работа — англа-беларускі слоўнік, які мы выдалі, таксама важкая.

МАКАРАЎ: Дарэчы, варта заўважыць, што наш інстытут — установа спецыфічная. У якім сэнсе? У сваёй рабоце, мы, так бы мовіць, арыентуемся на Захад. Мы не можам навучаць англійскай ці французскай мове без ведання студэнтамі асноў заходняга мастацтва. Без разумення таго, што родная культура — частка культуры сусветнай, мы не вырашым нічога. І тут цяжка сказаць, што лепш: выпусціць культурнага, шырокаадукаванага інтэлігента ці фармальна падрыхтаванага з пункту гледжання беларусізацыі спецыяліста, чым нанесці адчувальную страту беларускай культуры? Дарэчы, мы адкрылі кафедру беларускай мовы і нацыянальнай культуры. Другі год займаемся не толькі чыста вучэбнымі праблемамі, але, найперш, нацыяналізацыяй навучальнага працэсу. Увялі спецкурсы, тры нацыянальныя стыпендыі — імя Тарашкевіча, Крачкоўскага і Карскага. Яны — для тых, хто актыўна займаецца беларускай мовай. І разам з тым, камісія, якая вывучала работу па беларусізацыі ў інстытуце, была незадаволена. У даведцы-рэкамендацыі гэтай камісіі запісана, што мы павінны аддаваць перавагу тым, хто будзе здаваць экзамены на беларускай мове. Тут пачынаюцца хітрыкі. Ці не будзем мы гэтым самым падштурхоўваць моладзь да фальшу, занадта фарсіруючы гэты працэс або прымяняючы сілавыя прыёмы?

ЦУМАРАЎ: Давайце зірнём на гэта з юрыдычнага пункту гледжання. Калі ў Законе аб мовах напісана, што вучань, студэнт мае права выбіраць мову навучання, то ў Законе аб адукацыі запісана, што беларуская мова з'яўляецца асноўнай мовай навучання і выхавання ва ўсіх дзяржаўных навучальных установах — незалежна, ці гэта акадэмія, ці аспірантура, ці дзіцячы сад. Вось гэтая норма ўжо дае вам прававую аснову рабіць тое, што наважыліся, тым больш, што ў вашай ВНУ чалавек прэтэндуе авалодаць дзвюма еўрапейскімі мовамі, так што славянскай — гэта значыць, беларускай, ён за паўгода або за год авалодае без сумнення. І калі гэта ўсё ўзважыць, дык трэба пры роўнай стартавай пазіцыі аддаваць больш плюсаў тым, хто, скажам, здае ўступныя экзамены па-беларуску.

ШАРАНГОВІЧ: Спачатку ў нас была такая практыка: хто на якой мове хацеў, на той і здаваў. Як правіла, толькі працэнтаў дзесяць хацелі здаваць экзамен на роднай мове. Мы гэтае «хаценне», скажам шчыра, акрэслілі больш пэўна: вывучаў у школе беларускую мову — калі ласка, здавай на ёй, і толькі на ёй. Хто не вывучаў — здае на рускай. Але конкурс — для ўсіх адзін. І ў нас цяпер няма ніякіх праблем. І павінен сказаць, што калі летась у нас здавалі экзамен на беларускай мове 80 працэнтаў абітурыентаў, то сёлета — усе сто.

ЦІХАНАЎ: Мы прымаем у наш інстытут 1150 чалавек і толькі адзінкі здаюць экзамены на рускай мове. І фізікі, і матэматыкі пішуць сачыненне на роднай мове. Гэта ўжо звычна, быццам заўсёды так было...

КАПУЦКІ: А што рабіць, калі людзі будуць паступаць з-за межаў Беларусі? З 1991 года на гістарычным факультэце мы адкрылі дзве плыні: рускую і беларускую, прымаем па 50 чалавек на кожную. Тое самае — на геаграфічным факультэце. Сёлета зробім гэта на ўсіх факультэтах. Матэматыка ў нас ёсць вытворчая і педагагічная, на педагагічную плынь 30 чалавек будзем браць на рускае аддзяленне і 30 на беларускае. Тое самае для ўсіх педагагічных факультэтаў, акрамя факультэтаў прыкладной матэматыкі і радыёфізікі і электронікі. Так што універсітэт рыхтуе выкладчыкаў, якія ў школе будуць рабіць пагоду. Мы павялічваем прыём на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры, сюды будзе прынята 375 чалавек: на дзённае 150, вячэрняе 125 і 100 на завочнае. Мы маглі б і больш прымаць, але не дазваляюць умовы. Вядома, існуе яшчэ і сіла інерцыі. Універсітэт лічыцца флагманам вышэйшай адукацыі, але не ўсё ў свой час было найлепшым у гэтым флагмане. Сёння ва універсітэце працуе больш за 150 дактароў навук і прафесараў, 1200 кандыдатаў і дацэнтаў. Сярод іх нямала рускіх людзей, якія ніколі не гаварылі па-беларуску і не збіраюцца. Нават на філфаку ўзнікла канфліктная сітуацыя. Гэтую справу трэба рабіць вельмі акуратна. Калі мы заўтра кінем кліч усім выкладаць па-беларуску, дык мо і адрапартуем, але справа з месца не зрушыцца. На беларускай плыні, вядома, выкладанне будзе толькі на беларускай мове, журналістыку таксама перавядзём цалкам на беларускую мову.

ЦІХАНАЎ: Сто з нечым выкладчыкаў у нас атрымліваюць надбаўку за выкладанне на беларускай мове. Так што Закон аб мовах сапраўды дзейнічае. Справа гэтая ў нас пайшла. На наш погляд, большасць студэнтаў успрымаюць яе нармальна— у тым ліку і матэматыкі, і фізікі. Беларускамоўныя плыні працуюць спакойна. У нас ёсць такі намер: праз год-два інстытут абвесціць сябе нацыянальным інстытутам ці універсітэтам. Тады навучанне будзе цалкам беларускамоўным, пакінем толькі рускамоўную плынь. Перш-наперш мы вырашылі пытанне па пачатковых класах. Ужо тры гады факультэт, які рыхтуе выкладчыкаў для пачатковай школы, працуе на беларускай мове. Факультэт дашкольнага выхавання — цалкам на беларускай мове, таксама тры гады ўжо. Астатнія факультэты — напалову. На сённяшні дзень 70 — 75 працэнтаў усіх дысцыплін выкладаецца і вывучаецца на беларускай мове. Ну а праблемы? Яны — агульныя для ўсіх.

ШАРАНГОВІЧ: У мяне вось такое пытанне. Чалавек — лабарант, выкладчык — гаворыць па-беларуску, выкладае па-беларуску. Ці маральна даплачваць, калі я гавару на матчынай мове? Ці трэба плаціць? Вось калі чалавек прыехаў да нас з іншай рэспублікі — Расіі, Літвы, авалодаў мовай, выкладае на ёй, то плаціць яму было б не смешна. А як я вазьму сабе даплату за тое, што гавару на роднай мове? Мы адмовіліся ад даплаты...

СТРАЖАЎ: Я лічу, што ў вашай акадэміі не трэба плаціць. На філалагічных факультэтах — таксама. А на прыродазнаўчых факультэтах, дзе выкладанне ішло дваццаць год на рускай мове, трэба даплачваць.

ЦІХАНАЎ: Калі вы ўважліва прачыталі загад міністэрства, дык памятаеце, што там напісана. Усе выкладчыкі, якія працуюць у рускамоўных вышэйшых навучальных установах, маюць права атрымліваць дзесяць працэнтаў. Выкладчыкі пра гэта ведаюць. Пакуль жа ўсе нашы інстытуты рускамоўныя, і выкладчыкі маюць права на гэтую надбаўку. І таму мы плацім не толькі выкладчыкам матэматыкі і фізікі, але і выкладчыкам беларускай мовы. Плацім не за тое, што яны размаўляюць на беларускай мове, і нават не за тое, што выкладаюць беларускую мову, а за тое, што забяспечваюць працэс выкладання, рыхтуючы дапаможнікі для студэнтаў, іншыя метадычкі. У загадзе так і пішам: за забеспячэнне выкладання на беларускай мове такой і такой дысцыпліны... Вядома ж, каб і лекцыі чытаў, і практычныя вёў толькі на роднай мове...

КАПУЦКІ: А як гэта выкладаць гісторыю Беларусі на рускай мове? За што тады тут плаціць? Ці кафедра, скажам, нашага Навумовіча — вывучэнне беларускай мовы на прыродазнаўчых факультэтах. Гэта ж яго хлеб! Якая тут даплата?

ГАЎРОШ: Дарэчы, летась сто нашых студэнтаў — матэматыкі, фізікі — ужо згадзіліся паехаць выкладаць свае прадметы на беларускай мове ў школах. І іх падрыхтавалі менавіта выкладчыкі-беларусы, якія вялі практычны курс на прыродазнаўчых факультэтах...

Яшчэ такая праблема. У нас узнік факультэт беларускай філалогіі і культуры. Канечне, факультэт вельмі патрэбны, кадры патрэбныя. Мы хацелі, каб у нас там было і беларускае мастацтва, і танцы беларускія, усё тое, што сапраўды з'яўляецца нацыянальнай культурай. А нам і ступіць няма дзе, выкладчыкі на калідоры, ля акна даюць кансультацыі студэнтам. Просім аддаць які будынак з тых, што належалі КПБ. Грэшна будзе, калі беларуская дзяржава не паможа факультэту беларускай філалогіі. Мы ўсё павялічваемся, разрастаемся, а дасюль у адным будынку. Гэта наш боль. Я працую ў інстытуце з 57-га года, працавала з Фёдарам Міхайлавічам Янкоўскім яшчэ тады, калі ніхто нават і не думаў, што мы дойдзем да беларусізацыі. Па кніжках нашай кафедры вучыцца школа, у нас ёсць лаўрэат Дзяржаўнай прэміі па школьных падручніках, сваімі падручнікамі мы забяспечваем практычна ўсе педагагічныя ВНУ. Вось і зараз здаём дзве кніжкі для абітурыентаў. Яны будуць дапамагаць і тым, хто самастойна вывучае беларускую мову. І гэта ў такіх умовах, калі ў кабінеце немагчыма нават лішнюю шафу паставіць...

ЛЯГЧЫЛАЎ: У нас становішча не лепшае. Смешна сказаць: усяго два квадратныя метры вучэбнай плошчы на студэнта. Актавай залы і дасюль няма. І гэта ў інстытуце, дзе, акрамя агульнаадукацыйных прадметаў, выкладаюцца творчыя дысцыпліны. Наогул, цяжкасцей шмат. Бо выдаць тую ж самую навукова-метадычную літаратуру або падручнік мы можам толькі за ўласныя грошы, якіх і так не хапае. Мяркуем правесці 14 святаў на нацыянальным матэрыяле, але зноў-такі—няма крыніц фінансавання. Загублена танцавальная лабараторыя. У людзей прападае ініцыятыва, бо працуем на грамадскіх пачатках. Па беларусізацыі інстытута зроблена пакуль мала, але памятаем пра гэты клопат і рыхтуемся. Распрацоўваем сваю сістэму вывучэння мовы выкладчыкамі. І, само сабою, студэнтамі. Працуе кафедра беларускай мовы, літаратуры і фальклору. Увогуле, мяркуем перайсці з 1995 года на нацыянальную сістэму навучання.

ЦІХАНАЎ: Многія пытанні, аб якіх тут гаварылі, у нас ужо вырашаны. У нас ёсць і факультэт, і кафедры, і лабараторыі. Цяпер нас хвалюе пытанне падрыхтоўкі выкладчыкаў фізікі і матэматыкі, настаўнікаў пачатковых класаў, якія маглі б весці свае прадметы на беларускай мове. Ужо летась мы зрабілі беларускамоўныя плыні на ўсіх факультэтах. Цяпер у нас дзве задачы: падрыхтаваць беларускамоўных выкладчыкаў дысцыплін і каб выпускнікі ўжо к чацвёртаму-пятаму курсу маглі б выкладаць на беларускай мове. Пытанне з выкладчыкамі, якія валодаюць беларускай мовай, у нас таксама стаіць востра. Бо калі прапанавалі выкладчыкам пайсці на курсы па вывучэнні беларускай мовы, дык ахвотнікаў набралася няшмат.

СТРАЖАЎ: І тым не менш, змены не тое што адбываюцца, а ўжо адбыліся. Напрыклад, педагагічныя вучылішчы сёння цалкам сталі беларускамоўнымі. Яны рыхтуюць настаўнікаў для пачатковых школ, выхавацеляў для дзіцячых садкоў. 55 працэнтаў першакласнікаў вучацца ў беларускамоўных класах. І прыкладна праз дзесяць гадоў сістэма адукацыі будзе поўнасцю беларускамоўнай. Я ў гэтым упэўнены... А ў тэхнічных ВНУ сітуацыя можа змяніцца ў тым выпадку, калі ва ўсіх вышэйшых навучальных установах будуць створаны кафедры беларускай культуры, беларусазнаўства. Думаю, што гэта спраўдзіцца ўжо ў 1992 годзе...

ДАМАНЕЎСКІ: Ведаеце, я — прарэктар па вучэбных справах. Заўсёды, калі трэба ствараць кафедру, узнікае пытанне, дзе ўзяць гадзіны, якія гадзіны ўзяць, якія дысцыпліны запісаць у адпаведнасці з вучэбным планам...

СТРАЖАЎ: Так, так, у першую чаргу гэтыя кафедры павінны працаваць з выкладчыкамі, а толькі потым са студэнтамі...

ДАМАНЕЎСКІ: Для выкладчыкаў я не магу рабіць такую кафедру, адно толькі — у рамках факультэта павышэння кваліфікацыі. Можа, іншыя навучальныя ўстановы маюць такія кафедры, а ў нас я не вельмі разумею, як гэта зрабіць. Вядома, будзем шукаць выйсце, напрыклад, у рамках кафедры культуралогіі...

(Працяг на стар. 12).



Н. ГАЎРОШ М. КРУТАЛЕВІЧ У. МАКАРАЎ



А. ЛЯГЧЫЛАЎ Л. ЦІХАНАЎ Д. ДАМАНЕЎСКІ

«СТУДЫЙНЫЯ КАЛЯДЫ»

# СВЯТОЧНАЕ... ЛІТАННЕ

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

**...Праз сваю спецыялізацыю па тэатры Усходняй Еўропы мне выпала калегаваць з Гратоўскім; у 1971 годзе ён прыпыніў сваё, так бы мовіць, імкненне да сцэнічнай ісціны, — яна раптоўна перакінулася тупіком. Пошукі выйсця з гэтага тупіка ён сумленна назваў паратэатральнымі. Анатоль Васільеў, на мой погляд, тое самае перажывае цяпер. На двухвечаровы паказ «Іосіфа і ягоных братоў» паводле Т. Мана не запрасілі ніводнага ўласна гледача: прысутнічалі толькі дзеячы тэатра. Варта і на Беларусі спыніцца, азірнуцца, каб зразумець, што ж такое тэатр сёння, таму і гутарка мусіць быць не пра «добраеблагое», «лепшае-горшае», а ў рэчышчы разумення: хто ж ён такі, гэты чалавек на сучаснай сцэне? Межы паміж прафесійнікам, аматарам, студыйцам і г. д.—знікаюць. Ведаю, што на Беларусі студыі не настолькі супрацьстаялі афіцыйна-акадэмічнай плыні, як у Расіі (хоць свае выключэнні, вядома, былі). Вашы прафесійнікі рушылі ў студыі не адразу са з'яўленнем славутай «шчыліны» ў колішняй ідэалогіі, але, распачаўшы свой няспынны рух, разам з захопленасцю, творчым духам, прагаю дасканаласці, самавыяўлення і эксперыменту неслі з сабою, як і нашы, расейскія, і звадкі, і плёткі, і штампы...**



«Мая тэма ў мастацтве — вяртанне беларускасці беларускаму тэатру...» Сцэна з трылогіі, частка другая, «Роспач» паводле У. Караткевіча.

## «Авохці нам і нашай рацыі!»

Добраю спажываю для розуму (для роздуму таксама) вабяць звычайна любыя тэатральныя агледзіны; «Студыйныя каляды», спрытна ўштукаваныя сёлета ў міжнародны кантэкст, перадусім зрабіліся ахвяраю... нашага «спажывання» — чаканняў, спадзяванняў, пераканнняў. У адзін «мех» калядавалі, напрыклад, Тэатр-студыя кінаакцёра і мазырскі «Верасень», Альтэрнатыўны тэатр і Петэр Лейбі з Чэхіі, Зандкарн-тэатр разам з Маладзёжным тэатрам, альбо прадстаўнікі Гільдыі акцёраў кіно з Санкт-Пецярбурга напару з Тэатрам гістарычнай драмы і камедыі...

Міжнароднаму гэтаму кантэксту мы так радаваліся надоечы, каб... не дапусціць іншаземцаў да так званых конкурсных прызоў — ахвярапрынашэнняў спонсараў? «Заяўку на Галоўны прыз» дарыў кожнаму з удзельнікаў перад пачаткам спектакля дуэт арганізатараў-заснавальнікаў фестывалю; «Сейчас раздадим все призы и деньги немцам, а кто подумает о национальном искусстве? Немцам и так помогут!» — раздражнёны голас у абарону «национального» належаў ганараванаму старшыні журы. «А-а-а!—аб'ядналіся галасы шараговыя—не менш ганараваныя, — тады мы — толькі за беларускамоўныя гурты!» — І прагаласавалі. Запозненае «А на якой мове маўчалі тэатры-студыі пантамімы?» — нічога не змяніла ўжо.

Прагаласавалі, а стрэмка засталася. Бог з імі, з немцамі, але што ж нам выпала ацэньваць як... уласнае? Тутэйшае? Нацыянальнае?.. Тое, што маем,—падкажа чытач, каб перапытаць: а што ж маем? Маскоўскі прафесар Ларыса СОНЦАВА, крытык, паводле маіх перакананняў, звышімпэтны і вельмі далікатны, паспрабавала на правах «чалавека з кантэксту» (чытайце — збоку) ацаніць наша майно:

**— Студыі. прадстаўленыя на фестывалі, перадусім не здаліся мне студыямі. Падобна, яны ўвайшлі ўжо ў плынь агульнатэатральную, а той студыйны статус, за які ў свой час ваявалі,—не больш як прыстаўка да шараговых тэатраў, горшых, лепшых, ды на здзіўленне аднастайных. Ёсць колькі выключэнняў (беларускі «Абзац», украінскае «Кола», нямецкія спектаклі), але і там пра студыйнасць гаворкі няма. І за страту гэтую няма каго вінаваціць. Проста, калі статус студыйнасці ўзаконіўся, яго пачалі браць калектывы, якім дужа карцела існаваць самастойна. На праміло Бог! Няхай жывуць! І яны—жывуць—нібыта ў студыйнай плыні, нібыта пад студыйнымі сцягамі. Ці ж разумеюць, што да студый яны маюць надта ўжо няпэўнае дачыненне?**

**Я — чалавек не малады. У свой час брала ўдзел у стварэнні «Современника» і Тэатра на Таганцы (яны, як памятаем, яшчэ «праслізнулі» ў тагачасную ідэалагічную «шчыліну»): самым важным для іх тады было набыць статус! А яго надаваў не хто іншы, як... Савет Міністраў. Алег Табакоў, напрыклад, ніякім штурмам не мог узяць тую «берлінскую сцяну», таму народзіны ягонага аўтарскага тэатра-студыі «адкладаліся» больш як на пятнаццаць гадоў... Цяпер жа не трэба мітусіцца, нервавацца: на сённяшнім фэсце мы пабачылі поўную дэвальвацыю паняцця «студыйнасць» (трэба хітраваць ужо з самім сабою, каб прыпісаць бачанаму якую-кольвек лабараторнасць, доследнасць, эксперыментальнасць); наспеў час не проста сумленнай — жорсткай пераацэнкі студыйнага «багацця» (каб жа толькі не ператрэсвання «рыззя»).**

**Увесь невясёлы «набытак» тэатра ўсіх часоў і народаў...**

**Авохці нам і нашай рацыі! Спынімся...**

## «Канец свету быў ужо!»

Мікалай Трухан, прафесійнік, які «рушыў у рух» студыйны адразу і не вагаючыся,—пабыў, як той казаў, і на кані, і пад канём, прадставіў на адкрыцці фестывалю апошнюю частку своеасаблівай трылогіі пра лёс і шлях беларускай нацыі. (Першая частка—«Рагнеда» В. Тарнаўскайтэ і В. Амромінай, другая — «Роспач» паводле У. Караткевіча, трэцяя —«Халопская вайна» польскага драматурга Й. Кóфты). Спектакль, на маю думку, якраз паратэатральны і па-мастацку кволы (мо незавершаны?). Уяўляецца ён гэткай калектыўнай «плынню свядомасці» з дзіўнымі рэплікамі ды дзівакаватымі паводзінамі персанажаў (пры ўсёй алагічнасці самой «плыні»), з яркімі стылістычнымі памылкамі (напрыклад, з'яўленнем чалавека з гітараю і песнямі беларускіх бардаў канца нашага стагоддзя), з прывіднай атмасферау штучнага пошуку-вышуку — нацыянальных фарбаў і адценняў, інтанацый і тонаў, шумаў і гвалтаў...

**— Мікалай, ты даўно распрацоўваеш сваю беларускую тэму і яе ўвасабленне (нават «Апошні тэрмін» паводле В. Распуціна памятаюць як адзін з найлепшых эксперыментальных спектакляў Трухана-Баркоўскага). У чымсьці — вынаходзіш альбо штучна канструіруеш, у нечым — паслядоўна «ўкараняеш» сваю «апазнавальную» сістэму знакаў, сімвалаў, метафар, — ці няма ў цябе адчування, што яны—свайго роду найнавюткія штампы? А ты — на шляху да тупіка?**

— Перадусім, здаецца мне, што і беларуская нацыя, і яе тэатр не на шляху ў тупік, а даўно ўжо днююць і начуюць у гэтым тупіку. У кожным з нас—наша мова, якая чакае свайго часу, выйсця, вызвалення... Ад нашых касматых языкоў, дарэчы—таксама.

**— Але ж, як выгукнула гераіня актрысы Т. Міронавай у «Халопскай вайне», «Канец свету быў ужо!»**

— Мая тэма ў мастацтве — вяртанне беларускасці беларускаму тэатру; мая звышзадача—вынаходніцтва тэатральнай апазнавальнай сістэмы гэтай самай беларускасці. Яна можа дзесяць разоў ператварыцца ў штамп, але дваццаць разоў прэтэндаваць на адкрыццё. Усё залежыць ад маіх калегаў-артыстаў на сцэне. І ад гледачоў, якія, на жаль, спанатраныя толькі ў адной «сістэме»: трэба, маўляў, «як у жыцці».

**— Мікола, а што ўяўляе сабою тэатр-студыя «Дзе-Я?» цяпер, пасля шматлікіх выпрабаванняў лёсам, часам, становішчам? Давай удакладнім: «Дзе-Я?» — пачыналася колісь з цябе ды рэжысёра Віталя Баркоўскага. Вы—разышліся?**

— Ён напісаў п'есу і хоча працаваць над ёй самастойна ва ўласным настворыным тэатры-студыі. Творча — супрацоўнічаем, па-чалавечы — сябруем. Ды, па шчырасці, гэта вельмі дорага, каб два рэжысёры працавалі над адным творам... Для мяне ж галоўнае цяпер—зрабіць да канца трылогію-сімвал: мінулае беларусаў, іхняя цяперашчына і будучыня... Са спектакля ў спектакль наўмысна паўтараюцца прыёмы, перагукваюцца вобразы, кальцуюцца нават мізансцэны. Хацеў бы я паставіць спектакль паэтычны і па-добраму прыгожы, ды пакуль, прабач, не ўтаўчэш тое, за што ўзяўся, сумленне не стане брацца за прыгожае з паэтычным. Памятаю, як у Гомелі, дзе я працаваў чарговым рэжысёрам, за тры з паловаю гады «зарэзалі» дваццаць адну беларускую п'есу з тагачасных вартых драматургічных і літаратурных прапаноў. Ці з нахабства, ці з адчаю я мусіў шукаць рады ва Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча, і той мне сказаў проста: трэба пільнавацца чагосьці аднаго, трэба слугаваць чамусьці аднаму,—жыццё кароткае. Да Караткевіча я чытаў пра адвечнае мастацтва і кароткае жыццё ў старажытных мудрасцях, але, паўтораныя асабіста для мяне, яны надалі маім ваганням сэнсу...

**— Мікола, ты заўсёды славіўся ўчынкамі экстравагантнымі: нібыта без дай прычыны мог кінуць тэатр, аблаяць дырэктара, пасмяяцца з чыноўніка. Як паўплывалі гэтыя ўчынкі на твой лёс?**

— Ну, калі колішні дырэктар аднаго з тэатраў быў ветэрынарам на тэатральнай пасадзе, а меўся рэдагаваць мае задумы... Я ненавіджу сістэму размеркаванняў і міласціны. Я не хаваю свайго непрыязнага стаўлення да Міністэрства культуры, якое ва ўсіх разнайтых і таленавітых тэатральных праявах шукае адно сваёй выгады. Каб толькі адбыўся фестывальны спектакль, мы мусілі пазычаць грошы ў фірмы БІТ: дырэктар фірмы Іван Паланейчык ды ягоны намеснік Уладзімір Окаў не дапытваліся «с пристрастием», куды і як мы збіраемся выдаткаваць іхнія грошы, ды і надалей... паабяцалі... А лёс у мяне з тэатрам-студыяй адзіны — праца, праца... Казаць пра яе метадалогію смешна, бо ўсё шукаю вобмацкам. Разважаць пра вынікі ці здабыткі не да месца, я не зрабіў і трэцяе часткі задуманага. Хваліцца тым, што працуем і рэпецірусм па-беларуску, — прымітыўна. Я, бадай, зразумеў, што «Дзе-Я?» са сваімі эксперыментамі «на мяжы», з пошукам штодзённым, цяжкім не надта патрэбная пакуль і беларускаму тэатру, і беларускаму гледачу.

**— «Канец свету...»**

— Мой Божа, прызнанне мы напаткалі на Украіне! Прызнасць ды поспех спазналі ў Расіі! У нас няма ні пляцоўкі, ні транспарту, ні дапамогі. Атрымалі, праўда, ад Міністэрства культуры грошы на «Рагнеду», сем разоў з'ездзілі ў зону (дзве паездкі нам нават аплацілі), ды займелі дзяржаўнае ўтрыманне на фестывалі гістарычных спектакляў у Волагдзе. Узрушаны Юрый Саломін, міністр культуры Расіі, даслаў тэлеграму нашаму міністру — дапамажыце, маўляў, вашым «дзейцам» хоць нечым. Міністэрства, кажуць, ганарылася такою ўвагаю. Не здзіўляюся... Ведаеш, колісь у маіх родных Плешчаніцах быў сад, які цяпер высякаюць. Па ім трэба было проста хадзіць і чытаць вершы. Ідзе бабка з грыбоў. «Сынку,—кажа,—ты што гэта тут балбочаш? Мо хворы?» І я ўявіў свой тэатр... Эстэцкім. Элітарным. Недасяжным. А потым на Шаркоўшчыне, пасля «Роспачы», людзі трымалі нас дзве гадзіны, каб пагаманіць «пра жыццё». Віленская «Сябрына» прасіла даць дадатковы спектакль-казку, каб яшчэ і яшчэ прывесці дзяцей, бо, кажуць, ні з чым так не дойдзе да іх роднае слова, як з мастацтвам...

## Уцякайма ад традыцый

Па сутнасці, Мікалай Трухан упарта адмаўляе тутэйшы тэатральны міф пра тутэйшую... прасцячковасць, маштабнасць кішэннага памеру, слязлівую загадкавасць, экзатычнасць тутэйшых вечназялёных таматаў ды рамантычную роднасць бульбяных абсягаў. Велікадушна таленавіты Трухан — у сваім мастакоўскім свеце; ён не шукае, ён ведае пэўна, **як** трэба яму ды **куды.** (Прытым, што, паводле яго самога, рухаецца навобмацак). Надараецца адшукаць і, так бы мовіць, калег па памкненнях: украінская тэатральная суполка «Кола» нарадзілася на мінулых «Студыйных калядах» не без дапамогі Міколы Трухана ды з ягоным чынным удзелам; кіраўнік «Кола», акцёр Аляксандр Кочнеў, па сутнасці, таксама ўнікае тамтэйшага (украінскага?) міфу пра тамтэйшае мастацтва, у тым ліку ягонай слязлівасці ды зацятай лірычнасці, зухаватага «парубкавання» ды каларытнай галушкавай утрапёнасці...

**— Тры гады таму я сцепануўся, нібы фізічна адчуўшы жудасны тэатральны крызіс, — Аляксандр Кочнеў хваляваўся і удзячным вокам кідаў на Міколу Трухана.—Колісь дзеля тэатра я кінуў Львоўскі універсітэт, —пэўна, каб цяпер перажыць насоўванне гэтага крызісу-катастрофы. Усё жыццё патрапляў у акадэмічныя тэатры, з цудоўнымі традыцыямі, майстрамі-калегамі, але чаго вартыя мы, так бы мовіць, пры традыцыях, калі самая атмасфера акадэмізму пачынае... прыгнятаць? Кажу толькі пра сябе,—пра сябе колішняга, што вырашыў уцякаць ад магнэсу традыцый і моцы акадэмізму, каб уратавацца як прафесійніку. Даў аб'яву праз «Вячэрні Кіеў», запрасіў маладых людзей ва ўзросце ад чатырнаццаці да семнаццаці гадоў, якія любяць тэатр і шануюць родную ўкраінскую мову, і дзеці прыйшлі. Можна сказаць, — з вуліцы. Займаліся мы эцюдамі, гульнямі, шмат дурэлі, даводзячы перадусім самім сабе (мне), што тэатр мусіць быць... не адно акадэмічны. Дэбютавалі на мінулых «Студыйных калядах» спектаклем паводле п'есы Я. Верашчака «Чорная зорка», — спектаклем па-свойму хуліганскім, па-юнацку задзірлівым, дзе студыйцы маглі пачувацца самімі сабою і вучыліся кантактаваць з залаю, дакладней, з гледачом, якога садзілі наўкол пляцоўкі: так назва студыі «Кола» спалучыла сімвал з функцыянальнасцю. Кола сяброў, кола схільнасцяў, прыязнасці, памкненняў, але —зала-кола, нібы рэканструяваная са старасветчыны. «Чорную зорку» неўзабаве ўпадабалі англійскія менеджэры, але ў Англію мы павезлі і «Буру» У. Шэкспіра. За адным разам, як высветлілася, трапілі ў гісторыю—ні больш ні менш—англьскага тэатра, бо ўпершыню радзіма Шэкспіра пачула яго па-ўкраінску. А цяпер задавальняем свае самыя патаемныя жаданні-памкненні, звяртаемся да той драматургіі, што доўгі час была пад забаронаю, у сховах. Такая ёсць нават у Лесі Украінкі, але мы абралі п'есу А. Олэся «Месяцавы спеў», — да такога роду драматургіі ўкраінскі тэатр і не падступаўся ніколі,—са славутым Станіслаўскім і ягонай геніяльна распрацаваным побытавым існаваннем на сцэне падобная літаратура рабілася крохкаю, адначасова—нейкай вычварнай, надуманай, сканструяванай... Працуючы над Олэсем, перажыў узрушэнне: культура дэкадансу, сімвалізм, пошукі Гратоўскага, вынаходніцтвы Брэхта, французская акцёрская школа, звароты да паганства, дотыкі (вывучаць не было па чым) да філасофіі, светапогляду, сістэмы светабудовы і светаўспрымання часоў Олэся, а гэта дзесятыя-дваццатыя гады нашага стагоддзя, — усё так шчыльна пераплялося ва ўзаемазалежнасці, перамяшалася, працяла адно аднаго і нас...**

«Месяцавы спеў» А. Олэся, папраўдзе, толькі эцюд на адну дзею. «Усяго толькі»?! Украінскі дэкаданс, дзе суіснуюць вытанчанасць, запаволенасць і хваравітая гармонія станаў персанажаў, якую не агораць адно тэкстамі ды паўзамі, музыкай ды пластыкаю. Атмасфернасць, — першая ўмова, каб спраўдзіць намаганні драматурга. Але ні суцэльная загадкавасць, ні выйгрышная шматзначнасць акцёрскіх дачыненняў гэтую атмасферу не створаць, а «псіхалагічнае» пыхканне «паводле сістэмы» канчаткова сапсуе справу (міжволі ўпэўніваешся, як састарэлі нашы прадстаўленні пра яднанне тэатра перажывання з тэатрам прадстаўлення): Русалка (А. Жулінская) закахалася ў чалавека (пан Ян—Я. Папоў); Панне (А. Філатава) наканавана сапернічаць з ёю, Прафесару (Л. Верашчак) — тлумачыць сабе і ім пачуцці, дзівіцца, згаджацца ды спадзявацца, а Фаўну (В. Вашчанка) — чыніць сваё адвечнае між светам рэальным ды ірэальным... У гэтым спектаклі важней за ўсё не «пра што», а «якім чынам», не «як трактаваць», а «якімі сродкамі»; «Месяцавы спеў» выкананы нязмушана, крыху наіўна і зусім не ў «бандурна-гапаковай» манеры, што мроіцца ўжо ў самой пазначцы «з Украіны»; я б сказала—у стылі Кочнева-Олэся, калі хочаце—на мяжы пакрыёмасці мастацтва і нашых уяўленняў пра гэтую славутую пакрыёмасць...

## «Можа хлусіць, а можа й не...»

Хлусіць меўся ніхто іншы, як Пэр Гюнт у сваіх славутых зваротах да Сольвейг,—Клайпедскі тэатр-студыя з Ліпеньскай вуліцы прывёз кампазіцыю-фантазію А. Візгірды па матывах Г. Ібсена, А. Элксне і Я. Грота; фантазію, адметную тым ужо, што і Сольвейг, і Пэр былі прадстаўлены гледачам у розных сваіх іпастасях, з розных пунктаў гледжання, розных бакоў і ў інтэрпрэтацыі розных аўтараў, — падобна, і як рэжысёра А. Візгірду даўно цікавіла й хвалявала дзейснасць узаемадачыненняў гэтае класічнае пары чакальнікаў. Даведацца ў падрабязнасцях, што ж яны чакалі і як спраўджваліся іхнія чаканні, гэтым разам не выпала: колькі вядомых літоўскіх слоў збольшага накрэслілі сэнс маналогаў Сольвейг (яе іпастасі ўвасаблялі А. Сташайцітэ, І. Кабашытэ ды Р. Урбелітэ) і Пэра (А. Брусокас і А. Матуціс); але куды больш уражліваю была сама атмасфера відовішча: празрыстая, строгая, адначасова — заспакойваючая (не закалыхваючая!), так бы мовіць, агучаная, фрагментамі з Гаэтана Даніцэці... Больш «стыльнага» спектакля за ўвесь фестываль мы не пабачылі (праўда, не паказваўся Рыд Таліпаў дый, відаць, іншую стылістыку спавядаў і Гаральд Швірц у спектаклі «Кантрабас»). Як не пабачылі спектакля і больш... незразумелага: публіка ды крытыка пакідала свае месцы, не саромеючыся. А ўсяго і трэба было, што крышачку счакаць і, як той казаў, «увайсці» ў спектакль, прызвычаіцца да яго ці што...

Акцёр з Чэхіі Пётэр Лейбі, дарэчы, спазнаў ужо ўсе непрадказальнасці моўнага бар'еру, таму сваё выкананне пачэшску раз-пораз перабіваў рускім перакладам, — але і яго разумелі... як тут дакладней сфармуляваць... раз-пораз. У адрозненне ад летувіскага спектакля, у чэшскім «Збіральніку» асноўная нагрузка прыпадала якраз на слова; тое, што прадстаўляў акцёр па-за тэкстам, мусіла, на маё ўражанне, пэўным чынам яго ілюстраваць, не болей (сцвярджаючы гэта, між іншым, вельмі лёгка памыліцца, хоць на трох тузінах вядомых мне чэшскіх слоў гэтая думка нібыта і грунтуецца,—не буду катэгарычнай). Звярну ўвагу лепей на тое, як віртуозна падрыхтаваў акцёр фінал свайго бясконцага, здавалася б, маналога «пра таталітарызм» на паўтары гадзіны. Сціплы збіральнік падаткаў за газ, асвятленне, ваду, каналізацыю ды іншыя хатнія выгоды (ён з'яўляўся да такіх самых сціплых сямейнікаў, што моўчкі трывалі за сталом і дэманстравалі гледачам сваё нейтральнае сузіранне, — рабілі, па шчырасці, адзіна магчымае з таго, што маглі рабіць выпадковыя партнёры, пражыўшы надоечы адну-адзіную рэпетыцыю) спакваля... ператвараўся? перакідваўся? пераўвасабляўся? (трох тузінаў слоў яўна не хапае!) рабіўся дыктатарам-нахабам; усталяваўшы нарэшце свой парадак, ён разгарнуў сімвалічнае палатно-сцяг з выяваю гэткае пяцікутнае свастыкі ці свастычнае зоркі... Разгарнуў, па сутнасці, прасціраднa-намёк ды здрабніў гэтай выяваю анатомію ўціску і падначалення...

Акцёрскае выкананне падарыла і тое адзінае, дзеля чаго цяпер варта адважвацца на тэатр, — нязмушанасць, імправізацыйнасць, радасць назірання, што так шчыльна мяжуе з радасцю адкрыцця. Праўда, акцёр не паказаў (не намагаўся? не агораў? не было ў задуме спектакля? ягонае рэжысёрскае аўтарства так і засталося таямніцаю для публікі-крытыкі) найвышэйшага пілатажу —змены станаў сваіх і персанажа, ды гэта, прызнаюся, не расчаравала. А што да анатоміі ўціску... «Можа, хлусіць, а, можа, й не...»,—як заўважыў А. Візгірда пра свайго Пэра Гюнта. Дзе ж нам разабраць без перакладу...

## Што не належыць слову

Натуральна, не ўсё ў тэатры належыць слову, але як быць тым, хто навучыўся сяк-так абыходзіцца толькі з ім... перадусім — з ім, так будзе больш дакладна. Як пецярбургскі акцёр Аляксандр Ліпаў у спектаклі «Што кажа Акутагава» (рэжысура М. Богіна, лаканічная сцэнаграфія Т. Мельнікавай): разыгрывае эцюды-практыкаванні на тэму характарнасці той ці іншай маскі, ці, скажам, свае ўяўленні пра маскі японскага тэатра (каторага, дарэчы) — іх няможна назваць стылізацыяй (уяўленні гэтыя, відавочна, далей за Пецярбург не сягнулі), губляецца ў прасторы сцэны, мітусіцца, усё адно як з разгубленасці... Мо сцэна ТЮГа для яго — завялікая? Мо рэжысура для яго —невялікая? А напрацаваны акцёрскі запас для паразумення з гледачом — рознавялікі ў бок змяншэння?

...Нібы маленькі чорны троль (паралеляў з эмблемаю фэсту—маленькім чарцяняткам у шкарпэтках — не праводжу) аказаўся ў каляднай... табакерцы ды загадаў нам, як таму Андэрсенаву алавянаму салдаціку, не глядзець куды не трэба: прывід хлусні ўзнаўляўся (сілкаваўся?) самым фестывальным паветрам, поўным паўсюднага грыпу, хваравітай жвавасці арганізатараў, іхняй штучнай дзейснасці, мітуслівай разнайтасці, іхніх быццам бы тэатральных збіранак ды і нашага агульнага нягеглага плёну. Спектаклі мелі хоць паразуменне, гледачы рызыкавалі займець нешта падобнае да нестраўлення. Не было сэнсу ўжо ў асабістай прыязнасці, добразычлівасці; залы, проста-такі напакаваныя аматарамі тэатральных прысмакаў (фестываль!), спусташаліся праз колькі хвілін ад пачатку відовішчаў, хоць і канчаліся нібыта не ў адзіноце, ды адзінокім заставаўся глядач... (Тэма Мальро: у час, калі чалавек родзіцца для адзіноты, толькі мастацтва спрыяе і г. д.) Вы скажаце: трэба, мабыць, сябраваць з самім чорным тролем, каб, напрыклад, няўдзячна перахрысціць дзейства вабных маладзёнаў з тэатральнай групы «Вясёлыя жабракі» мянушкаю «жабрацкае весялосці», але як інакш вы, шаноўны чытач, маглі б давесці ім, што няможна прэтэндаваць на стварэнне мюзікла, не маючы ніводнага прыстойнага (спеўнага) голасу ў групе, — спяваюць фальшыва, скачуць нястройна, выглядаюць стомлена... Усселіся на тэкст (вершы) сваёй сцэнічнай прапановы, — ім няма калі «перажываць», прадстаўляць яго як навучалі нядаўна ў інстытуце, а рабіць гэта па-свойму яшчэ не ўмеюць... Яны шчыра стаміліся ўжо ці перадусім падманваюць саміх сябе?..

...Мазырскі маладзёжны тэатр «Натхненне». Два тэатры ў Мазыры, адзначаю міжволі, ці ёсць на абодвух глядач? «Натхненню», як распавядалі перад спектаклем «Клетка», споўніўся год. Аўтар п'есы Л. Сплашная прысутнічае тутсама...

Упершыню пабачыла спектакль, чыё афармленне спрацавала адзін-адзіны раз, ды неяк няпэўна, пазначыўшы, што спіць чалавек... на могілках? Тамсама пракідваецца? А бой-баба Любаша ў каланіяльным стылі «а ля рюс» вынікае з кухні ўжо—тая пры могілках? Пад час сцэны сняданку ў стылі былога самадзейнага савецкага тэатра (г. зн. любым коштам выглядаць не горш за купалаўцаў, коласаўцаў ды тюгаўцаў разам — рэжысёр наватвора В. Мігай) адзначаеш, што шампанскае ў іх—не шыпіць, а гутарка — завучаная... Аказваецца, чалавек з могілак — апівоха. Любаша яго на перавыхаванне ўзяла. І ажыццяўляецца яно рознымі сродкамі, самым моцным з якіх пэўна наступны: апівоху пакідаюць маленькі сапучы (праз фанаграму) скрутачак у калясцы, маўляў, давай, перавыхоўвайся добрым стаўленнем да немаўляці. Тут згадваю сваё дзіця, якое бавіць час з бабуляю, пакуль я назіраю за ўмоўным здзекам з чужога,— парушаны законы жанру, занядбана верагоднасць, на якую трэба-не трэба спасылаецца кожны персанаж, адпаведна бэсціцца (міжволі, дзеля камічнага эфекту) закон чалавечы... Бэсціце, наватворцы! Але—без мяне. Караскайцеся па сваіх завучаных рэпліках, сядзіце на іх, стойце, ляжыце, спявайце фальшыва, але дзеці тут дзеля чаго? Хоць сабе й бутафорска-фанаграмныя?..

...Мазырскі «Верасень», схаўрусаваўшыся з рэжысёрам В. Баркоўскім, агораў «Мар'ю» А. Кудраўцава: парушыў, я так разумею, драматургава знакамітае «без права пастаноўкі на Беларусі». Цяжка перажыць няўтульнасці ды недалікатнасці гэтага стараатвора — грувасцяцца яны адна на адну, замінаюць нетаропкаму, натуральнаму сузіранню... Прабачце, замінаюць глядзець. Не маю падстаў не давяраць шаноўнаму крытыку Таццяне Ратабыльскай, — яе артыкул на старонках «ЛіМа» не так даўно засведчыў вартасць, своеадметнасць «Верасня»; мабыць, выбіўшыся са свайго натуральнага асяроддзя, мастацтва «Верасня» (воляю маленькага чорнага троля?) ператварылася ў бліскучы ўзор кічу, дзе, праўда, арганічнасць актрыс яшчэ супраціўляецца рэжысёрскай спанатранасці ды драматургавым штучнасцям; спектакль літаральна выпакутваецца па абодва бакі рампы, з крыкам, высільваннем, ірваннем шлунак, звязак, галаўным болем і нагрувашчаннем пакут—бядотніцы-гераіні, і вайна па іх прайшлася, і ваяўнічасць начальніцкая, і дурнота гераічная, і адданасць справе, ды смяротны страх, неадчэпная адзінота... А іх бязлітасна прымушаюць узнаўляць гэта са сцэны—у словах, словах, словах...

Умеюць памучыць сваіх герояў і на пляцоўцы Альтэрнатыўнага тэатра,—«Кароль памірае» —дзве гадзіны памірае!— а я, як бяздушная, сяджу ды перачытваю ў праграмцы, як мушу «перечеркнуть своё» «я» и пусть наш (?) эгоизм гибнет на кресте во имя обретения вечности»... Гэта як... перакрэсліць? Тым часам «религиозная символика и интерпритация» (і гэта пазначана у праграмным кіраўніцтве да дзвюх дзей памірання) цьмянее, засціцца стомленасцю, а яе заступае аднастайнасць планаў, на якіх працуюць акцёры... Нават работа І. Забары ў ролі караля Беранжэ першага патыхае добрасумленным выкананнем рэжысёрскіх настаў. Тое самае можна заўважыць пра ўсіх астатніх... Ды падзівіцца з культуры, так бы мовіць, атачэння гэтага памірання (сцэнаграфія і строі І. Гаўл)... Словам ды гукам наканавана апанаваць прастору гэтага спектакля (кампазітар— Э. Рамошка), але... п'есу выдалі ўжо... (да месца знакамітае класікава пра тое, што публіка ходзіць у тэатр глядзець цікавае выкананне цікавага спектакля, — п'есу можна пачытаць...).

...Самае прыкрае: доўжыць свае варыяцыі на класікаву тэму я магу столькі, колькі паміраў кароль, пакутавала Мар'я, весяліліся жабракі... Словамі, праўда, гэткага не перадаць. Бо, на шчасце, не ўсё ім належыць і ў тэатры, і ў жыцці. Ці ж яно, тутэйшае, наскае, вінавата, што студыйнае калядаванне вымагае агляднага літання? Ці ж не яно даводзіла колькі разоў: перш як ладзіць фестываль, варта паглядзець ягоныя спектаклі? Зрабіць хоць сцэнарый? Вызначыць узровень запатрабаванняў сцэнічных ды мастакоўскіх? Іначай не ўратуе ні міжнацыянальны кантэкст, ні традыцыйна добразычлівы тутэйшы глядач, ні палітыка добрасуседства (без алюзій)...



«Больш «стыльнага» спектакля за ўвесь фестываль мы не пабачылі.» «Хлусіш, Пэр!» Г. Ібсена, А. Элксне, Я. Грота.



«На мяжы пакрыёмасці мастацтва і нашых уяўленняў пра гэтую славутую пакрыёмасць...» «Месяцавы спеў» А. Олэся.



«Умеюць памучыць сваіх герояў і ў Альтэрнатыўным тэатры...» «Кароль памірае» Э. Іянескі.

# Dura Lex sed Lex

(Пачатак на стар. 5).

М. І. — Арганізатары тых акцый былі строга папярэджаны.

**М. З.— Дарэчы, устаноўчы з'езд Партыі камуністаў Беларусі збіраўся амаль тайна. Журналісты «Знамени юности» гутарылі з некаторымі дэлегатамі, якія прызналіся, што да апошняга дня не ведалі, дзе будзе праходзіць з'езд.**

М. І. — Я таксама даведаўся пра яго, як кажуць, постфактум. Але дазвол на правядзенне з'езда быў дадзены Савецкім райвыканкомам г. Мінска, які пры гэтым зыходзіў з Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР «Аб парадку правядзення мітынгаў, сходаў і вулічных шэсцяў», прынятага ў 1988 годзе.

**М. З. — Сумнавядомы ўказ... Помню, пад яго прыкрыццём былі забаронены розныя масавыя мерапрыемствы БНФ, іншых дэмакратычных арганізацый... Вы бачылі статут і праграму ПКБ?**

М. І. — Так.

**М. З.—Яны нечым адрозніваюцца ад аналагічных дакументаў КПСС?**

М. І. — У сім-тым адрозніваюцца. Вось і дэвіз у іх іншы: «Прыхільнікі камуністычнага шляху—аб'ядноўвайцеся!»

**М. З. — І што вы думаеце— аб'яднаюцца. Вы, мабыць, чулі пра нядаўні пяцідзесяцітысячны мітынг «прыхільнікаў камуністычнага шляху» на Манежнай плошчы ў Маскве, дзе яны маршыравалі з партрэтамі Сталіна, патрабуючы вяртання старых таталітарных парадкаў. Вы ўпэўнены, што гэта не здарыцца ў нас?**

М. І. — Калі гэта будзе ў рамках закона, не бачу тут нічога страшнага. Мы ж хочам пабудаваць дэмакратычную прававую дзяржаву, дзе кожны павінен мець права выказваць свае ідэі і погляды.

**М. З. — Але ж дэмакратыя павінна неяк абараняцца. Калі, выкарыстоўваючы дэмакратычныя інстытуты, да ўлады прарвуцца сталіністы, пра волю і правы мы будзем толькі ўспамінаць. Можа, я памылюся, але лічу, што пасля жнівеньскіх падзей мінулага года ў краіне быў упушчаны гістарычны шанц аб'явіць КПСС, як злачынную арганізацыю, па-за законам. Як гэта было зроблена на Нюрнбергскім працэсе ў адносінах да нацыянал-сацыялістычнай партыі. Закон аб забароне прапаганды нацысцкіх ідэй строга захоўваецца ў ФРГ і сёння, парушальнікі яго трапляюць за краты. А дай нам Бог быць такой дэмакратычнай краінай, як Германія.**

М. І. — Усё гэта пытанні палітыкі. А я, як Генеральны пракурор, знаходжуся па-за палітыкай. Дэпалітызацыя ёсць дэпалітызацыя. Гэтую лінію я праводжу ў пракуратуры строга.

**М. З.—Прабачце, Мікалай Іванавіч, калі я паставіў вас у няёмкае становішча. Але я маю на ўвазе, што вы яшчэ і палітычны, грамадскі дзеяч, народны дэпутат былога СССР, ігралі не апошнюю скрыпку ў Вярхоўным Савеце краіны. Тым больш, што сваю думку аб далейшым лёсе КПСС-КПБ вы выказвалі на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі.**

М. І. — Закон аб забароне КПСС, камуністычнай ідэалогіі можа прыняць — толькі вышэйшы орган заканадаўчай улады.

**М. З. — Такім чынам, Вярхоўны Савет Беларусі мог такі закон прыняць?**

М. І. — Вярхоўны Савет можа прыняць любы закон, калі ён не пярэчыць Канстытуцыі.

**М. З. — Брудныя фантаны сталінізму б'юць сёння са старонак нацыянал-камуністычных выданняў. Адам Міхнік, паплечнік Леха Валенсы, неяк трапна заўважыў, што нацыянал-камунізм—апошняя стадыя камунізму.**

М. І. — Нацыянал-камунізм мала чым адрозніваецца ад нацыянал-сацыялізму —ідэі партыі Адольфа Гітлера.

**М. З. — Калі на пачатку свайго станаўлення камуністычная ідэалогія дэкларавала роўнасць усіх нацый і народаў, дык сёння яна ўзяла на ўзбраенне шалёны шавінізм і антысемітызм. Як нядаўна паведаміла следчая камісія Вярхоўнага Савета Расійскай федэрацыі па выяўленні асоб, звязаных з арганізацыяй жнівеньскага путчу, знойдзены дакументы, якія сведчаць аб тым, што «господина» Жырыноўскага і яго партыю фінансавала ЦК Расійскай кампартыі.**

**Памылкова думаць, што ўсё гэта адбываецца толькі там, у Маскве. Метастазы хваробы прараслі і на Беларусі. Каб упэўніцца ў гэтым, варта пагартаць той жа «Политический собеседник» — часопіс былога ЦК КПБ, які, мяркуючы па змесце, накіроўваецца тымі ж людзьмі.**

М. І. — З гэтай жа абоймы і газетка «Мы и время», якая на сваіх старонках прапагандавала «вышукі» нейкай «грамадскай камісіі», якая імкнулася рэабілітаваць сталінскіх катаў—удзельнікаў забойстваў ні ў чым не вінаватых людзей у Курапатах.

**М. З. —«ЛіМ» пра дзейнасць той падазронай «камісіі» неаднойчы пісаў.**

М. І. — Ёсць яшчэ адно адыёзнае выданне — «Славянские ведомости», якое рэдагуе Бумажкова.

**М. З.—Досыць вядомая асоба. Многія помняць яе публікацыі ў «Политическом собеседнике», у якіх яна палівала брудам дэмакратычны рух у рэспубліцы, ўзяўшы на ўзбраенне самыя брыдкія інсінуацыі, паклёпніцкія выдумкі, танную правакацыю.**

М. І. — Нядаўна да мяне, як да Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь, звярнуўся народны дэпутат, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах прафесар Слямнёў з пісьмом, у якім прасіў мяне звярнуць увагу на непрыхавана антысеміцкія публікацыі ў «Славянских ведомостях». Я азнаёміўся з імі, і прыйшоў да высновы, што яны падпадаюць пад дзеянне артыкула 71 Крымінальнага кодэкса рэспублікі, які прадугледжвае крымінальную адказнасць за наўмысныя дзеянні, накіраваныя на падбухторванне нацыянальнай і расавай варожасці, знявагу нацыянальнай і чалавечай годнасці. Я даў заданне Мінскай гарадской пракуратуры па гэтых фактах узбудзіць крымінальную справу і правесці расследаванне. Разумееце, у нашай рэспубліцы хапае праблем, але, дзякуй Богу, няма нацыянальных. Асобы, накшталт Бумажковай, і тыя, хто стаіць за ёй, імкнуцца падштурхнуць развіццё падзей у патрэбным для сябе кірунку, каб, як кажуць, палавіць рыбку ў нячыстай вадзе.

**М. З. — А як жа са свабодай прэсы, плюралізмам думак?**

М. І. — Плюралізм думак тут ні пры чым. Прапаганда нацызму, шавінізму, антысемітызму забаронена шматлікімі міжнароднымі пагадненнямі, не кажучы ўжо пра Нюрнбергскі прысуд.

**М. З.—І ўсё-такі я з пэўнай доляй скепсісу адношуся да магчымасці прыцягнення Бумажковай і падобных да яе да адказнасці. За імі стаяць вельмі ўплывовыя сілы, якія не дадуць іх у крыўду.**

М. І. — Усё вырашыць следства і суд, калі крымінальная справа дойдзе да яго. Нарэшце, закон вышэй за ўсё!

**М. З. — У мае далёкія студэнцкія гады, помню, адной з першых фраз, якія нам прапанаваў завучыць на памяць наш лацініст, была фраза:** Dura lex sed lex. **«Суровы закон, але закон». Дзякуй, Мікалай Іванавіч, за гутарку!**

# «КАЛІ МЫ-СУВЕРЭННАЯ ДЗЯРЖАВА...»

(Пачатак на стар. 8—9).

КАПУЦКІ: Мы што зрабілі ва універсітэце: адкрылі кафедру беларускай мовы і літаратуры спецыяльна для выкладання мовы студэнтам усіх факультэтаў, акрамя аддзялення беларускай мовы і літаратуры. І зараз мы гэтую кафедру пашыраем, каб яе выкладчыкі маглі выкладаць не толькі студэнтам, а і іншым выкладчыкам, якія будуць працаваць на беларускамоўнай плыні і якія ўвогуле жадаюць вывучыць беларускую мову. Запісалася каля двухсот чалавек. У складзе навукова-метадычнага савета мы стварылі секцыю па метадычным забеспячэнні пераходу да выкладання на беларускай мове. Загады друкуем толькі на беларускай мове, хоць цяжка знайсці беларускамоўных машыністак. Што яшчэ? Стварылі летнюю школу па праблемах беларускай мовы для выкладчыкаў-беларусазнаўцаў, якія жывуць за межамі рэспублікі. Летась ва універсітэце створаны саюз беларускамоўных студэнтаў «Хаўрус».

ДАМАНЕЎСКІ: Політэхнічная акадэмія, якая рыхтуе кадры па 47-мі спецыяльнасцях, фактычна прадстаўляе сёння ўсю прамысловасць Беларусі. У любым міністэрстве, на любым заводзе, на будоўлі ёсць нашы выпускнікі. Ясна, што праблема беларусізацыі нас хвалюе. Але нельга сказаць, каб мы ахвотна карысталіся беларускай мовай. Яшчэ горш, што мы не ўсведамляем сябе беларусамі. Каб усвядомілі, дык гэта было б вянцом адраджэння Беларусі, нашага нацыянальнага духу... Сёння ў нас навучаецца і працуе 32 тысячы чалавек. Мы вырашылі, што беларусізацыю будзем праводзіць паступова, праз сістэму факультатываў і гуманітарныя кафедры. У план павышэння кваліфікацыі будзем уключаць абавязкова пытанне, звязанае з падрыхтоўкай лекцый, падручнікаў і іншага метадычнага матэрыялу. Ужо цяпер у нас дзесяць чалавек выкладаюць розныя дысцыпліны на беларускай мове. Выкладаюць энтузіясты, і я думаю, што іменна яны будуць тым ядром, якое зрушыць справу. Неўзабаве пачнём выкладанне фізікі і матэматыкі на беларускай мове. Зрабілі два слоўнікі — беларуска-рускі і руска-беларускі — па фізіцы і па матэматыцы. Трэба іх выдаваць. А як? Няма паперы... Далей. Будзем нешта рабіць з кафедрамі гуманітарнага профілю. Ясна адно, што будуць там і беларуская мова, і гісторыя Беларусі, і беларуская культура. На другім этапе мяркуем і спецыяльныя дысцыпліны выкладаць на беларускай мове. Я цяпер не магу назваць дакладна тэрміны, яны залежаць ад таго, як пойдуць справы, тут галоўнае, каб выкладчыкі ўспомнілі беларускае слова, каб яны ўзяліся за беларускія кнігі.

ЛЯГЧЫЛАЎ: Я ведаю, што каардынацыйны цэнтр Міністэрства адукацыі запланаваў выданне новых падручнікаў па гісторыі Беларусі, але самае цікавае ў тым, што не знайшлося калектыву аўтараў, якія змаглі б напісаць гэтыя падручнікі. Мы звярнуліся да сваіх унутраных рэзерваў у інстытуце, сваімі паліграфічнымі сродкамі, саматужна зыпускаем лекцыі Грыцкевіча. А чаму б не ладзіць для выкладчыкаў, для студэнтаў, для ўсіх агулам публічны курс лекцый па гісторыі Беларусі?

КАПУЦКІ: Праблема з падручнікамі, іншымі дапаможнікамі замінае выкананню праграмы па беларусізацыі. У нашай бібліятэцы толькі пяць працэнтаў кніг на беларускай мове. І таму на некаторых факультэтах, напрыклад, электронікі і прыкладной матэматыкі, мы не можам фарсіраваць працэс беларусізацыі.

ШАРАНГОВІЧ: Вялікая праблема — слоўнікі. Хоць у нас і не філалагічны інстытут, але мы пачалі працу над тэрміналагічнымі слоўнікамі, над слоўнікамі па мастацтвазнаўстве.

ЦУМАРАЎ: Ленінская бібліятэка падаравала Таварыству беларускай мовы кнігі 20-30-х гадоў, выдадзеныя на беларускай мове па ўсіх галінах ведаў. Толькі па вайсковай тэматыцы іх больш за пятнаццаць, па агранаміі — горы. Некалькі тысяч кніг! Нават па электратэхніцы кніжкі, ды і наогул па ўсіх галінах ведаў. Падумайце, у 30-ыя гады маглі выдаць столькі кніг!... Трэба, проста неабходна звярнуцца да гэтага вопыту. Трэба ўсім ВНУ даць пэўную колькасць грошай на распрацоўку і выданне падручнікаў.

МІХНЕВІЧ: Уношу канкрэтную прапанову. Французы робяць так: кожнае прадпрыемства, фірма і г. д. абавязкова адзін працэнт прыбыткаў адлічаюць на нацыянальную культуру. Добра было б такі закон прыняць і ў нас. Гэта была б падтрымка сапраўдная! А яшчэ нам патрэбна, як паветра, спецыялізаванае выдавецтва, дзе можна было б выдаваць разнастайныя слоўнікі, іншую неабходную сёння літаратуру, без якой немагчымы нармальны працэс беларусізацыі не толькі вышэйшай ці сярэдняй школы, але і ўсяго нашага жыцця.

**Апошнім узяў слова прарэктар музычнай акадэміі А. РАШЧУПКІН. Яно было кароткае. Адзначыўшы, што мова — рэч тонкая і далікатная і што, значыцца, рабіць тыя ці іншыя крокі ў гэтай справе трэба таксама вельмі асцярожна і далікатна, паскардзіўшыся на неймаверную цеснату ў сценах акадэміі, на неверагодны недахоп вучэбных плошчаў і музычных пляцовак, Аляксандр Фёдаравіч, на жаль, амаль нічога не распавёў аб тым, як кіраўніцтва і супрацоўнікі нашай музычнай ВНУ ажыццяўляюць Закон аб мовах.**

**Такая вось гаворка адбылася за лімаўскім «круглым сталом». Можа быць, залішне спантанная, так бы мовіць, «урокскід», з засяроджаннем увагі не заўсёды на галоўным, са зразумелымі спробамі сказаць пра ўсё. Тым не менш, яна адбылася, удзельнікі яе, нам думаецца, акрэслілі кола праблем, што ўзнікаюць сёння, на першым этапе беларусізацыі, нават паспрабавалі трошкі сказаць і пра тое, якім чынам гэтыя праблемы вырашаць. І ўжо ў гэтым — надзённасць і карысць такой сустрэчы.**

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ.**

ДУМКА ЧЫТАЧА

# ШЧЫТ— ЧЫРВОНАГА КОЛЕРУ...

**Уважліва чытаў нататку Пётры Васілеўскага «Пагоня» — дзяржаўны герб» і не мог пазбавіцца пачуцця трывогі і заклапочанасці. Крыху супакоіла заўвага аўтара наконт таго, што хоць Вярхоўны Савет Беларусі і зацвердзіў эталон герба, але ёсць спадзяванне, што ён будзе дапрацоўвацца. І ўсё ж узнікае сумненне: ці не паспяшаўся наш Вярхоўны Савет (насуперак свайму «звычаю») гэтым разам, без шырокага абмеркавання зацвердзіўшы эталон дзяржаўнага герба?**

**Не маю падстаў сумнявацца ў кампетэнтнасці шаноўных экспертаў, якія працавалі над выпрацоўкай эталону дзяржаўнага герба, гэтаксама, як не маю прэтэнзій да графічнай выявы зацверджанага герба. Але ёсць нязгода з колеравым рашэннем «Пагоні». У апісанні герба гаворыцца: на чырвоным полі сярэбраны вершнік на белым кані. Шчыт вершніка ўпрыгожаны залатым шасціканцовым крыжам. З гэтага апісання і прыкладзеных выяў вынікае, што шчыт вершніка таксама сярэбраны, гэта значыць, поле шчыта таксама белае, на якім залаты падвоены крыж.**

**Шчыт у геральдыцы мае вялікае значэнне, тым больш, калі гэтая дэталь сама ў якасці геральдычнае выявы ўваходзіць у дзяржаўны герб. Зараз, здаецца, ужо ніхто не аспрэчвае таго, што паходжанне «Пагоні» глыбока славянскае, і найперш беларускае. У гэтай сувязі хачу звярнуць увагу на шчыт вершніка. Шэрагам гісторыкаў адзначалася такая асаблівасць, як ЧЫРВОНЫ колер шчытоў воінаў усходніх славян. Гэта таксама традыцыя, якая ідзе з глыбокай старажытнасці. Згодна з ёю шчыт вершніка мусіць быць чырвонага колеру з белым падвоеным крыжам. Менавіта гэтая акалічнасць у свой час паўплывала на афармленне колеравае гамы беларускага нацыянальнага сцяга, што наогул было характэрна для агульнаеўрапейскай геральдычнай традыцыі сярэднявечча. Колеры нашага сцяга — гэта «расшыфроўка» колеравае гамы герба: сярэбраны вершнік — чырвоны шчыт — белы конь. Гэтая логіка была зразумелая нашым продкам, але забылася зараз, на што і ўказваў шаноўны Віталь Кошалеў у сваім артыкуле «Колеры «Пагоні» («ЛіМ» № 32, 1989).**

**А тут раптам — белы (сярэбраны) шчыт з залатым крыжам! Мне могуць запярэчыць: а як жа поле герба? Можа, яно якраз і сталася чырвоным пасам на нашым сцягу? Дапусцім. А дзе тады падзеўся залаты (жоўты) колер крыжа? Чаму ён аніяк не адбіўся на нацыянальным, а цяпер ужо і дзяржаўным сцягу беларусаў? Адказ відавочны — крыж быў або белы, або чырвоны. Дарэчы сказаць, выява чырвонага крыжа на белым шчыце ўяўляецца ўсё ж таксама няправільнай, хаця тут яшчэ далёка не ўсё ясна...**

**Ясна іншае: першаснае права на «Пагоню» належыць беларусам. І ў гэтым важным пытанні не трэба залішне азірацца на герб Рэспублікі Летува. Але вернемся да поля «Пагоні». Поле герба, безумоўна, элемент важны, і яго колер часта адбіваўся і на дзяржаўных сцягах. У тым, зразумела, выпадку, калі гісторыя ўзнікнення герба мае глыбокія гістарычныя карані і звязана з законамі геральдыкі. Тут дарэчы ўзяць хоць бы тыя ж прыведзеныя ў якасці прыкладаў В. Кошалевым польскі і нямецкі дзяржаўныя сцягі.**

**Але і тут прысутнічае глыбокая геральдычная традыцыя: колеры сцяга чытаюцца зверху ўніз, або злева направа. Колер поля герба ставіцца ў апошнюю чаргу, і ў нашых выпадках знаходзіцца знізу астатніх колераў герба; у польскага і нямецкага сцягоў гэта адпаведна чырвоны і жоўты колеры. Зыходзячы з гэтага правіла, чырвоны пас на беларускім сцягу павінен быць знізу, пад двума белымі пасамі, якія ў гэтым выпадку спалучаліся б у адзін шырокі. Таму на нашым сцягу «прачытаўся» менавіта шчыт вершніка, а не поле, на якім ён знаходзіцца. Хаця часам дапасоўвалася і поле, і ў гісторыі зафіксаваны варыянты сцяга з двума чырвонымі пасамі часоў Рэчы Паспалітае з рознымі варыянтамі спалучэння з белым колерам (чырвона-бела-чырвоны, бела-чырвона-бела-чырвоны і г. д.).**

**Відавочна, што поле на нашым гербе ўсё ж адыгрывала не галоўную ролю: першаснай была выява вершніка. Дарэчы, поле «Пагоні» магло нават і змяняцца: вядомы шэраг выяў «Пагоні» часоў паўстання 1863—64 гг., дзе вершнік замест чырвонага поля мае блакітнае (сіняе). Такім чынам, уношу прапанову: шчыт у вершніка на гербе зрабіць не белым, а чырвоным, з выявай белага шасціканцовага крыжа.**

**Ю. КОПЦІК,**
гісторык-краязнаўца.

**АД РЭДАКЦЫІ.**

**Пільная ўвага чытачоў да нашых дзяржаўных сімвалаў высвятляе, што ў іх мастацкім «рашэнні» няйнакш і праўда ёсць пэўныя недасканаласці. Будзем спадзявацца, што меркаванні аўтараў допісаў будуць з часам улічаны адпаведнымі ўстановамі і асобамі.**

ТЭАТР

## Коласаўскія прэм'еры

Апошняя прэм'ера года 1991 адбылася ў Акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа напрыканцы снежня. «Загадку дома Вернье» Р. Тама паводле А. Крысці згадвалі гледачам рэжысёр Ю. Лізенгевіч (Ніжні Ноўгарад), мастак-пастаноўшчык А. Салаўёў, мастак па касцюмах А. Пронін (Санкт-Пецярбург), кампазітар І. Шэўц разам з коласаўскімі артыстамі С. Акружной, Т. Конштысам, Я. Шыпілам, А. Мельдзюковай, Л. Трушко... Дэтэктыў — складанейшы тэатральны жанр, нават для спанатраных акадэмічных сіл, але іх пакуль падтрымлівае шчырае глядацкае суперажыванне.

●

«Шчаслівае здарэнне» С. Мрожака рыхтуецца да прэм'еры рэжысёрам Б. Эрыным (рэжысёр-асістэнт — А. Грабёнкін, студэнт пятага курса Акадэміі мастацтваў Беларусі) і мастаком А. Апарыным (Масква); артысты Г. Дубаў, У. Куляшоў, А. Фралоў, Р. Шацько, Т. Анікіна, па іхніх уласных сведчаннях, упершыню сустрэліся з падобным драматургічным матэрыялам.

●

Прынята да пастаноўкі «Касатка» А. Талстога, — яе прапанаваў і прачытаў коласаўцам Яўген Веснік (Масква). Перакладчык — С. Сокалаў-Воюш. Напрыканцы студзеня распачынаюцца рэпетыцыі, кіраваць якімі будзе сам Я. Веснік. Сёння ж трупа перажывае напружаны час размеркавання роляў...

Святлана ДАШКЕВІЧ.

МУЗЫКА

## Віват, кароль!

Звярнуць увагу на гэты спектакль былі, па меншай меры, дзве прычыны. Першая: опера «Дон Карлас», з-за нейкіх непаладак у дэкарацыях, ужо больш як год не з'яўлялася на афішы ДАВТа, а гэта ж адна з любімых публікай старонак вердзіеўскай творчасці. Другая: доўгачаканы паказ спектакля прысвячаўся салісту беларускай опернай сцэны народнаму артысту рэспублікі Яраславу Пятрову. Наш вядучы бас выконвае ў оперы «Дон Карлас» найскладаную драматычную ролю караля Філіпа — вельмі выйгрышную для бенефіса партыю і... цудоўную нагоду для таго, каб разам з тэатрам і з публікай адзначыць свой юбілей. Яраславу Пятрову неўзабаве — 50...

КІНО

## Сустрэліся... Багдановіч, Барадулін, Каралёў

Сапраўды, сустрэліся. І нічога ў гэтым незвычайнага, тым больш містычнага — няма. Аб'яднала іх дакументальная стужка «Максім Багдановіч». М. Багдановіч — так бы мовіць, герой стужкі, Р. Барадулін — аўтар сцэнарыя, а В. Каралёў — рэжысёр. Тыя, хто пазнаёміўся з прэм'ерай беларускай кінадакументалістыкі ў Доме літаратара, прыйшлі да высновы, што сустрэча гэтая — з прыемных. Ёсць у фільме М. Багдановіч, адчуваецца прысутнасць Р. Барадуліна і В. Каралёва. Праз іхняе стаўленне да класіка нацыянальнай літаратуры. Праз сучаснае прачытанне яго творчасці.

ВЫСТАВЫ

## Такія розныя, не падобныя

Адначасова чатыры творцы трымаюць у гэтыя дні сваю справаздачу ў рэспубліканскай мастацкай галерэі. Такія розныя і не падобныя між сабой, яны як бы аб'ядноўваюцца тым, што чуйна прыслухоўваюцца да нашага складанага і супярэчлівага часу, спасцігаючы сэнс таго, што адбываецца і на самой зямлі, і ў душах людзей. Позірк гэты неабыякавы, ён выражае сутнасць мастакоўскай і грамадзянскай пазіцыі аўтараў.

В. Барабанцаў — адзін з тых, хто пабываў у чарнобыльскай зоне, пра што і расказвае ў сваіх творах. Ю. Багушэвіч таксама не абмінае складанасцяў быцця, але, як сведчыць яго работа «Наша Галгофа», мастак адказ на праблемы сучаснасці шукае ў гісторыі. Уласна мастакоўскім стаўленнем да жыцця вылучаюцца творы У. Ткачова, асабліва яго серыя «Людзі і птушкі». У Ю. Гаўрына таксама гучыць трывога — і за сённяшні стан планеты, і за яе заўтрашні дзень. Праблемы экалогіі для яго — гэта вырашэнне традыцыйнага пытання: быць ці не быць?

## Першацвет «Папараці-кветкі»

Мастацкая галерэя-салон з маляўнічай назвай «Папараць-кветка» адкрылася ў памяшканні Беларускага літаратурнага музея ў Мінску. Першымі «кветкамі» ў ёй сталі жывапісныя і графічныя лісты Георгія Панамарова, Зоі Кантаровіч, Жаны і Яўгена Жылiных, а таксама кераміка Сяргея Ліфанава. Гэтымі работамі можна не толькі палюбавацца, а пры жаданні асобныя з іх і купіць.

## Перадусім — талент

У Дзяржаўным мастацкім музеі трымае творчую справаздачу ўдзельнік многіх замежных выставак і адпаведна ўладальнік міжнародных прызоў, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Мурахвер. Галоўны інжынер знакамітага шклозавода «Нёман», ён работу сваю звязаў з вытворчасцю. Але вытворчасць вытворчасцю, а талент на першым плане. Тое, што з'яўляецца на свет дзякуючы У. Мурахверу (а гэта розныя сервізы і непаўторныя кампазіцыі са шкла), пазначана індывідуальнасцю творцы. Да ўсяго Уладзімір Сямёнавіч вынес на суд наведвальнікаў і лепшыя свае жывапісныя і графічныя работы, таксама напісаныя таленавіта, з густам.

## Да юбілею мастака

25 студзеня ў Палацы мастацтваў адкрылася выстава твораў беларускага жывапісца Г. Ф. Бржазоўскага, прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння.

Выставу адкрыў дырэктар Палаца Ф. Ястраб. З юбілеем мастака цёпла віншавалі У. Уродніч (ад Міністэрства культуры), малады мастак В. Хмялеўскі, мастацтвазнаўца Г. Фатыхава, баявыя сябры партызаны М. Страх і А. Дубінін, ксёндз Уладзіслаў і інш.

У экспазіцыі выставы каля 400 твораў юбіляра.

П. ГАРДЗІЕНКА.

## Гонар наведаць... «Маю гонар»

Кохтла-Ярвескае згуртаванне беларускай культуры «БЭЗ» і мясцовы музей сланца запрасіла ў госці мастакоў-беларусаў Балтыі з аб'яднання «Маю гонар». На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі члены мэрыі горада, прадстаўнікі згуртавання, таварыства яўрэйскай культуры, Эстонскага радыё і тэлебачання. Мясцовыя беларусы сустрэлі мастакоў хлебам - соллю, беларускімі песнямі і кветкамі. Найбольш цёплых слоў гучала ў адрас мастачкі з Кохтла-Ярве М. Астравумавай. Акрамя яе работ, экспануюцца творы мастакоў - беларусаў з Вільні, Рыгі і Санкт-Пецярбурга. Наступны маршрут выстаўкі — Талін.

У. ДЗЕХЦЯРУК.

КУЛЬТУРА

## У «замежным» — не замежная...

Прызнацца, правядзенне «круглага стала», прысвечанага праблемам выкладання нацыянальнай культуры ў вышэйшых навучальных установах суверэннай дзяржавы Рэспубліка Беларусь, у Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце замежных моў выклікае і даўнія асацыяцыі, калі беларуская мова і сапраўды для многіх была свайго роду замежнай. І добра, што пакрысе, хоць і не так хутка, як хацелася б, становішча выпраўляецца. Пацвярджэннем таго, што ў «замежным» інстытуце беларуская мова ўспрымаецца зусім не замежнай, — і гэты «круглы стол». Прарэктар па навуковай рабоце інстытута А. Міхневіч, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны А. Мальдзіс, загадчык кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Беларускай акадэміі мастацтваў М. Раманюк, дырэктар тэатра імя Янкі Купалы І. Вашкевіч і іншыя ў сваіх выступленнях заклапочана гаварылі аб тым, як дамагчыся таго, каб нацыянальная культура ў праграмах ВНУ прапісалася стала, а працэсы Адраджэння набылі незваротны характар.

ДРУК

## Купоны і «Мастацтва»

На Беларусі — усё беларускае. Прынамсі, павінна быць. Гэтай думкі прытрымліваюцца ў часопісе «Мастацтва Беларусі». Менавіта таму з сёлетняга года ён пачынае выходзіць пад назвай «Мастацтва». А ў астатнім застаюцца ранейшыя арыенціры: шырокае і шматграннае адлюстраванне складаных працэсаў, што адбываюцца ў нацыянальным мастацтве, хіба што з большай акцэнтоўкай на адраджэнскія моманты. У гэтым чытачы пераканаюцца, калі атрымаюць першы нумар «Мастацтва». Шкада, праўда, што са спазненнем. Ды гэта ўжо лёс не аднаго «Мастацтва», а і іншых рэспубліканскіх часопісаў. Кажуць, паліграфічныя магутнасці загружаны — купоны друкуюць.

## Іншадумцы? Празорцы!

Выпадак рэдкі, але ён красамоўна сведчыць аб імклівасці сацыяльна-палітычных працэсаў, што адбываюцца ў жыцці грамадства. Назва кнігі Аляксандра Уліцёнка «Іншадумцы — Мыслящие иначе», падрыхтаваная выдавецтвам «Беларусь», яшчэ да прыходу да чытача... састарэла. У якім сэнсе? А вось у якім. Героі яе Уладзімір Арлоў, Вінцук Вячорка, Зянон Пазняк, Анатоль Сідарэвіч, Міхась Ткачоў, Юрый Хадыка і іншыя, каму яшчэ нядаўна навешвалі біркі «нацыяналістаў», аказаліся празорцамі. Іншадумцамі ўспрымаюцца сёння тыя, супраць каго яны выступалі (скажам, Я. Сакалоў, А. Малафееў).

## Між кантынентамі — «Ветразь»

На жаль, чарговы выпуск штогодніка «Ветразь», які выпускае выдавецтва «Юнацтва», запазніўся на год. На першых старонках — знакаміты партрэт Ф. Скарыны і падборка афарызмаў, выказванняў, запаветаў з яго вялікай спадчыны. Да 45-годдзя Перамогі «Ветразь» прапанаваў пераклады вершаў С. Маршака, чувашскага паэта А. Цімбая, калмыцкага — М. Ханінава (перакладчыкі В. Вітка, Ю. Свірка). Друкуецца ўрывак з аповесці хабараўскага празаіка У. Сысоева «Залатая Рыгма» ў перакладзе З. Бяспалага.

А вось і забытае імя: Вінцук Адважны. У яго перакладзе змешчаны ўрывак з казкі П. Яршова «Канёк-Гарбунёк». Упершыню пераклад быў надрукаваны ў Вільні ў 1932 годзе.

У «Ветразі» чытач сустрэнецца таксама з творамі карэльскіх, украінскіх, грузінскіх, азербайджанскіх, літоўскіх, латышскіх аўтараў. Ёсць і невялікі раздзел «З крыніцы цыганскай мовы». Наступны раздзел павядзе ў В'етнам і Польшчу, Чэха-Славакію і Югаславію, а творы з раздзела «З усіх шырот» пазнаёмяць з Англіяй і ЗША, Ісландыяй і Францыяй.

С. ПАПАР.

ЛІТКУР'ЕР

## Прэміі «Нёмана»

Рэдакцыйная калегія часопіса «Нёман» адзначыла літаратурнымі прэміямі лепшыя творы, апублікаваныя на яго старонках у 1991 годзе. Прэміі прысуджаны: А. Карпюку за аповесць «Рэквіем» (№ 1), А. Крываносу за апавяданні «Па тэрміне службы» (№ 6), Р. Баравіковай, В. Грышкаўцу за вершы (№ 7, № 3), Р. Гарэцкаму, А. Кудзельскаму за артыкул «Зязюля, зязюля, колькі жыць нам на Белай Русі?» (№ 3), С. Дубаўцу за эсэ «Беларусы адыходзяць...» (№ 10), С. Запрудскаму за артыкул «Чалавек з мінулага, ці Чаму цяжка сціраць «белыя плямы» ў гісторыі беларускага мовазнаўства».

## Урокі вядзе пісьменнік

Частым госцем мінскай сярэдняй школы № 191, якая знаходзіцца ва Уруччы, стаў Артур Вольскі. Пачалося ўсё пасля яго выступлення перад настаўнікамі і вучнямі. Адчуўшы, што дзеці надзвычай зацікаўлены яго развагамі аб беларускай літаратуры, Артур Вітальевіч пагадзіўся весці тут урокі. Так пісьменнік стаў выкладчыкам беларускай літаратуры ў пятых класах.

АНОНС

## Угодкі адзначаць і сёння

21 студзеня, у дзень нараджэння выдатнага беларускага фалькларыста, харавога дырыжора, грамадскага дзеяча Р. Шырмы, у Саюзе кампазітараў Беларусі адбыўся вечар ягонай памяці. Выступілі фалькларысты Т. Варфаламеева ды З. Мажэйка, кампазітары Г. Вагнер ды К. Цесакоў. Да 100-годдзя Р. Шырмы была падрыхтавана невялічкая фотавыстаўка; гучалі ўжо класічныя запісы шырмаўскай капэлы з фондаў радыё; улюбёныя творы Рыгора Раманавіча выканалі спявачка В. Цішына, скрыпач Л. Гарэлік ды канцэртмайстар Л. Максімава. А сёння, 31-га, сябры, паплечнікі, паслядоўнікі Р. Шырмы зноў збіраюцца разам, каб адзначыць сотыя ўгодкі патрыярха беларускай музыкі. Вечар адбудзецца ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі: будуць цёплыя словы, удзячныя ўспаміны і, канечне, урачысты канцэрт Акадэмічнай харавой капэлы, якая носіць Шырмава імя.

Н. К.

ВЕЧАРЫНА

## Аматарам падыспані

Хто з нас умее танцаваць польку, падыспань, кракавяк? А хто ведае хоць колькі беларускіх песняў (акрамя «Касіў Ясь канюшыну», «Цячэ вада ў ярок»)? Вы зможаце навучыцца танцаваць гэтыя ды іншыя беларускія, латышскія, літоўскія танцы, а таксама паслухаць песні ў выкананні беларускіх фальклорных гуртоў («Ліцвіны», «Дзянніца», «Голас», «Кэмэлот») і гасцей з Латвіі («Аўры» і «Лыепавуотс») на «Фальклорнай вечарыне з танцамі», якая адбудзецца 2 лютага, у нядзелю, а 18 гадзіне ў Доме літаратара — па вул. Фрунзе, 5 (ст. метро «Пляц Перамогі»).

Вечарыну ладзіць маладзёжная арганізацыя «Выбранецкія шыхты», аднначасова адзначаючы такім чынам першую гадавіну сваёй дзейнасці.

НАШ КАР.

РЭПЛІКА

## Пра «дыканне» й «тыканне»

Ведаю паэта Баратынскага. Ведаю паэта Вярцінскага. Ведаю музычнага дзеяча Сал... Даруйце, але з ласкі роднага радыёэфіру я ўжо сумняваюся: ці варта ведаць тое, што ведаю, мо лепш было б вучыцца з нуля, слухаючы эталонны моўны стыль Беларускага радыё?

Раней я ніколі не сумняваўся, што прозвішча вядомага музычнага дзеяча — Салярцінскі (у рускім арыгінале — Соллертинский). Так вымаўлялі, адпаведна і пісалі. Ды раптам чую ў перадачы: «Салертынскі». І яшчэ раз, і яшчэ, і яшчэ... Шкада вушэй: гэта не лепш, чым пачуць у тралейбусе: «Сьледующчая астаноўка Вери Харюжай!» Шкада вядучага перадачы: гэтак жа і язык скруціць можна...

Потым я спахапіўся: на радыё ж стыль такі, сурова-цвёрды! Завядзёнка «тыкаць» і «дыкаць»: балет «ТЫЛЬ Уленшпігель», напрыклад (чаму б не «Уленшпыгель»?). Ці кампазітар МДЫВАНІ (чаму б не «кампазытар»?). Дзіва што філармонія, «заразіўшыся», аднойчы ў праграмцы перахрысціла музыказнаўцу Дадзіёмаву ў «Дадывомаву».

Няўжо, думаю, стылісты ўвялі нейкае свежанькае правіла насуперак руціннаму «як вымаўляецца, так і пішацца»? Глянуў я ў «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі», а там — о, жах! — Мды... Глянуў у другі том, а там — ага! — САЛЯРЦІНСКІ!!!

Ды радасць мая была нядоўгай: калі радыёстылісты не адчуваюць прыроду беларускай арфаэпіі, калі не гартаюць хоць бы дзеля прафесійнага абавязку нашы даведачныя выданні, дык у «ЛіМ» яны тым больш зазіраць не будуць. І рэпліку гэтую не прачытаюць. І могуць «перайсці на ты» яшчэ з кім-небудзь... Ну, за Баратынскага я спакойны. А калі дойдзе чарга да іншых прозвішчаў?!

Зрэшты, чаму б слухачам не пракаўтнуць і «тыканне», як яны каўтаюць то «белую рамонку», то «заручальныя кольцы», то песню «Ты няпраў» і ўсё тое, што «скача ліха» і за што «дзякуюць усіх», «над кім» здзекуюцца...

ЛІМАВЕЦ.

УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»

**Жана НЕКРАШЭВІЧ**



Жана Некрашэвіч вучыцца на рускім аддзяленні філфака БДУ, што не замінае ёй, як бачым, любіць родную мову. Свае першыя вершы яна напісала яшчэ ў школе, а дасылае нам — новыя, якія мы і прапаноўваем увазе чытачоў.

## Чарнобыльская калыханка

*ТРЫПЦІХ*

I

Спіце спакойна, людзі,
Спіце, дзеткі, не плачце.
Заўтра вайны не будзе.
Заўтра ўсё будзе іначай.
Неба вайна не замуціць —
Будзе ўсё тая ж сінь...
Заўтра прыйдуць да вас, людзі,
Семдзесят Хірасім.

II

Грымнуў гром без пэўных прычын,
Наваліўся суцэльны змрок.
І упала зорка Палын,
Пра якую пісаў прарок.
Пад дажджом мне смяялася, пелася,
А ні бэр, ні кюры не лічылася.
Парасона раскрыць не хацелася —
Проста я на яго забылася.
Радыянамі жарству напітваў
Цёплы дождж красавіцкі наўпрост.
Пад Чарнобылем выперла жыта
Вышынёй ў чалавечы рост.
Пад цяжарам калоссе крэкча,
Ды няма каму болей жаць.
І жанчына цяжарная шэпча:
«Як я буду цяпер раджаць!»

III

А чаму ж ты не спіш, сынок!
Супакойся, засні, галубок,
Ты не плач, мой сынок, засынай,
Люлі-люленькі, баю-бай.

Люлі-люленькі, баінькі-баі,
Я спяю табе песню, сынок,
Аб цудоўным далёкім краі,
Дзе не мы жывём, галубок;

Аб людзёх, душою прыгожых,
Што не з намі жывуць, сынок;
Аб царох, ліхіх і нягожых,
Што над намі стаяць, галубок;

Аб тых дзецях, што ўмеюць смяяцца—
Іх бацькі захварэць не баяцца,
Там АЭС непатрэбна людзям,
Там мутантаў ніколі не будзе.
Там у дзетак — дзве ручкі, дзве ножкі,
Замест іх — не хвасты і не рожкі,
А на пысцы — не рыльца свіное...
Што ж ты плачаш, дзіцятка дурное!
Супакойся ж нарэшце, сынок,
Тваёй маме таксама не спіцца,
Бо памёр ты ў яе, галубок,
Не паспеўшы яшчэ нарадзіцца.

●

Кажуць, што некалі жыў бог
на Беларусі...
У. КАРАТКЕВІЧ.

Калі шпакі прынеслі навіну,
Што пачарнеўшы снег растаяць мусіць,
Сустрэла Беларусь сваю вясну
І пасяліўся Бог на Беларусі.

Сярод тутэйшых жывучы людзей,
Ён бачыў толькі гора і пакуты.
І думаў ён, што нейкі ліхадзей
Сюды занёс жалобны плач і смутак.

І ў роспачы пачаў шукаць таго,
Хто цэлы край ператварыў у плаху.
І ён пайшоў адсюль кудысь
на Захад,
І ў Беларусі больш няма яго.

Жагнаючы, наканаваў маўчаць.
Ды колькі ж можна!
Божа, адгукніся!
Калі не можаш д'ябла адшукаць,
Няхай жыве — ды толькі ты вярніся!

За што нам дараваны гэты лёс:
Цяжар сусветны ўласнымі плячыма
Трымаць адвеку і глядзець вачыма,
Напоўненымі морам горкіх слёз!

А можа, ты навек нас пакідаў!
Дык я табе, Адзінаму, малюся
Каб хоць адчасу, зрэдку ўспамінаў,
Што некалі ты жыў на Беларусі.

**Пятрусь МАКАЛЬ**



## Каму ты ківаеш, маэстра

Распалася сполка аркестра,
Але апантаны маэстра
Нястомна кіёчкам хітрым
Узмахвае перад пюпітрам.
Трубнай красы напевы
Выводзілі непаўторна,—
Дзе ж вы цяпер, дзе вы,
Скрыпка,
Габой
І валторна!
Паставіўшы гучную кропку
На гурце сваім,
Паасобку
Славяць, як непазбежнасць,
Кожны сваю незалежнасць!
Надрыўнымі зыкамі рэжа,
У цэнтры, дзе ўсё гэтак зыбка,
Сцэны дзяржаўнай бязмежжа
Аплаквае першая скрыпка.
А поруч, зусім паблізу
Бумкае
Думна
Бандура
З трыумфам свайго капрызу,—
Паслухайце,
Што за натура!
Домбра ў кавыльнай старонцы —
Джыгіта душа жывая —
Матыў, нібы стэп бясконцы,
З гонарам завывае...
Адно на адлегласці кроку,
Хаваючы выгляд дбалы,
З цярплівай журбой у зроку
Яшчэ не зайгралі цымбалы.
...Маэстра ў вярхоўным тамленні
З тонкасцю віртуоза
Вяшчае свае маўленні,
Дзе енк, і мальба, і пагроза.
Вядзьмарачы, дырыжыруе
Зданямі інструментаў
Так, ажно рэха вібрыруе
У далечы кантынентаў!
Узмахвае нехлямяжа
Былы валадар аркестра,
Якога няма ўжо, няма ўжо...
Каму ты ківаеш, маэстра!

## Старэйшаму брату

Шаноўны старэйшы брат,
З абдымкаў якога выходжу,
Табе я падзякаваць рад,
Хоць вартых і слоў не знаходжу.
Здабыча тваіх заваёў,
Гатоў я табе пакланіцца:
Ты вёў мяне і давёў,—
Дык, можа б, і ўгаманіцца!
Ставячы смела нагу,
Пакінуў я хісткасць дзесьці,
Упэўнена сам іду,
А ты ўсё працягваеш весці!
Гартуючы мой дух,
Урок ты мне даў высокі:
Дасюль ад тваіх аплявух
Гараць у мяне шчокі.
Рупліва ўзараўшы зямлю.
Гадзіну жніва адсвяткую.
І тое, што вольна зраблю,
Па-сталаму размяркую...
Палохаеш, што ў імгле
Баба Яга завадная
Ляціць на ракетнай мятле —
Далеч дрыжыць зямная!
Маўляў, закілзаць не змагу
Агонь, што ў вугельчыку тлее,
Адужаць і Бабу Ягу,
І атамнага Бармалея...
Ці вешаць з таго галаву,
Што болей не веру ў казкі!
Як-небудзь ды пражыву
Без ласкі тваёй і указкі.
І толькі свой думны лоб
Пакрыўджана моршчыць не трэба:
Падзелім мы, што ні было б,
Апошні акраец хлеба!

●

Нас прыгнятае туга,
Гаруем, шукаючы лекі,
Калі кульгае нага
У бедалагі калекі.

Але чаму, чаму
Ніхто з нас не памагае
Знайсці паратунак таму,
Чыё сумленне кульгае!

Розумам паварушы,
Каб зразумець карцела,
Што перакос душы
Горш, як калецтва цела!

●

Адчуць сябе падданым Бога,
Руплўцам праўды і надзей
І помніць,
Што твая дарога
Губляецца сярод людзей,
Дзе гэтак лёгка растварыцца,
Калі захліствае прыбой,
Гудзе стыхія,
Як царыца,
Што валадарыць над табой.
Гадуй у сэрцы незалежнасць,
Калі ж слухмяна, як і ўсе,
Не можаш сам сабе належаць,
Плыві туды, куды нясе!
Аддай сваю душу абшару,
Як Бога, бліжняга любі
І толькі твару,
Свайго твару
Ты не згубі,
Не загубі!
Ратуй сябе ад гэтай згубы,
І нават перад алтаром,
Калі малітву шэпчуць губы,
Свой воблік не ўтапі суздром...
Збярог свой твар —
І ты вялікі,
Хоць і маленечкі такі.
Глядзяць з ікон святыя лікі—
Твайго аблічча двайнікі.

*Мікола Касцюкевіч*

# ДВА АБРАЗКІ



## БАБІНА ЛЕТА

На вуліцы гуляла фарбамі бабіна лета.

Сяржук стаяў на задняй пляцоўцы ў напаўпустым «Ікарусе», што павольна цягнуўся ад прыпынку да прыпынку. У расчыненыя насустрач апошняму восеньскаму цяплу вокны аўтобуса зрэдчас залятала зжаўцелае лісце. Сяржук злавіў адзін такі лісток, паднёс да твару і адчуў забыты, прапахлы пылам і жніўеньскай гарачынёй, водар.

І ў гэты момант з'явілася яна. Прывабная, стройная незнаёмка ўвайшла ў аўтобус і стала недалёка ад увахода. Смуглатварая, з вялікімі вачыма, яна выглядала б сапраўднай усходняй прыгажуняй, каб не тыпова еўрапейскія, надзіва правільныя рысы твару. І цёмныя, амаль чорныя валасы, што хвалямі спадалі на плечы, эфектоўна вылучаліся сярод сучасных, рацыянальна-кароткіх стрыжак. З нейкай, самому нават незразумелай, цікаўнасцю і захапленнем Сяржук сачыў за прыгажуняй.

«Гэта яна, тая адзіная»,—узнёслы настрой нібы падштурхоўваў да знаёмства з ёю. А чаму б і не? Зараз яны выйдуць з аўтобуса, возьмуцца за рукі і будуць моўчкі брысці па апалым лісці, без слоў разумеючы адно аднаго. Прыгажосць ратуе свет і аб'ядноўвае сэрцы...

Толькі з чаго пачаць? Самому падысці? Дык смеласці не хопіць. Вось каб, скажам, да яе хто пачаў чапляцца... Але дробныя нахабнікі не з'яўляліся, а тыя бамбізы каля кабіны кіроўцы... не, няхай сабе спакойна стаяць. Ці каб яна папрасіла ў яго лішні квіток...—таксама недарэчна атрымаецца, у самога няма. Што ж рабіць? Можа, усё-такі падысці і звярнуцца? Напрыклад, так...

Раптам незнаёмка павярнулася і ўважліва паглядзела на Сяргея. Так, на яго, побач нікога не было—ён нават азірнуўся ад нечаканасці. Тым часам незнаёмка—не можа быць—рушыла проста да яго.

Усярэдзіне салодка замерла. Вось ён, яго вялікасць Шанц. У гэты момант Сяржук высмеяў бы любога, хто ўсумніцца ў каханні з першага погляду. Ён міжволі падаўся насустрач... Але ўсмешка, што расквеціла яго твар, раптам ператварылася ў гуму— прыгожая жаночая рука трымала кантралёрскі жэтон:

— Ваш праязны дакумент...

На вуліцы гуляла фарбамі бабіна лета.

## МЫ НЕ ХАЦЕЛІ...

З Алесем мы пазнаёміліся яшчэ на першым курсе. З усяго аддзялення мы толькі ўдвух сур'ёзна захапляліся спортам. Я займаўся каратэ і зрэдчас падкачваўся штангай. Ён браў прызы па культурызме і любіў калі-нікалі апрануць кімано. Потым высветлілася, што й, апроч спорту, у нас шмат агульнага. Ён, як і я, не першы год быў заўзятым філатэлістам. Я, як і ён, пісаў вершы і марыў надрукавацца. Нават дзяўчаты нам падабаліся аднаго тыпу: танклявыя, з доўгімі валасамі. Знешне мы адрозніваліся моцна. Высокі, падобны з твару на Карачанцава, Алесь быў складзены, як цыркавы асілак. Я быў крыху святлейшы, важыў кілаграм на пятнаццаць меней і здаваўся побач з ім ледзь не слабаком. Мы маглі размаўляць гадзінамі і амаль увесь вольны час праводзілі разам. Толькі на спатканні хадзілі паасобку. Але спатканні бывалі нячаста—нам не вельмі шанцавала на знаёмствы з прыгожай паловай. Не хапала рашучасці.

У той дзень, дзевятага траўня, мы бадзяліся па парку і стралялі цыгарэты. Ні я, ні Алесь не палілі, але гэта быў добры спосаб для выпрацоўкі камунікабельнасці. Узятыя цыгарэты хаваліся ў цэлафанавы мяшэчак—падарунак якому-небудзь курцу.

Звечарэла. Дзённая гарачыня спала, і людзей у святочным парку было шмат. Асабліва моладзі, па большасці на добрым падпітку. Мы з Алесем падыходзілі да чарговай шумнай кампаніі і бесцырымонна прасілі закурыць. Мы рызыкавалі нарвацца на непрыемнасць, але свядома шукалі вострай завязкі. Нам ніколі не даводзілася ўдзельнічаць у сур'ёзных бойках і таму карцела выпрабаваць свае здольнасці на справе. Пры гэтым хацелася застацца станоўчымі героямі — скажам, сутыкнуцца з адкрытым хамствам. Ды й не маглі мы з нашымі мяккімі характарамі самі чапляцца да людзей. Але, паўтараю, мы прагнулі вострай сітуацыі.

Напэўна, выглядалі мы ўнушальна, бо частавалі нас даволі ахвотна. Прыгожанькая паненка аднаго падлетка нават узрадавалася.

— Хлопцы, забярыце, калі ласка, у яго ўвесь пачак.—Вочы яе глядзелі ўмольна, але мы не сталі нахабнічаць.

Ужо пачало змяркацца, калі мы выйшлі на цёмную бакавую алею, дзе пад дрэвамі хаваліся тры пашарпаныя лаўкі. Дзве з іх былі занятыя. На адной двое хлопцаў, год на пяць старэйшых за нас, пілі піва. На другой аб нечым ціха размаўлялі пажылыя мужчына і жанчына. Відаць, муж з жонкай. Мы накіраваліся да аматараў піва. Не паспелі наблізіцца, як адзін з іх, высокі, хударлявы, у джынсавых штанах і куртцы, сарваў з языка маё пытанне.

— Гэй, ты, цыгарэты ёсць? — шэрыя бясколерныя вочы, не міргаючы, свідравалі мой твар.

●

Яшчэ так мала набралі зорак
У невады
Мае гады,
Пакуль не вечар, а надвячорак,
Яшчэ гарцуе мой дзень гняды.
З душы здыму я,
Як партупею,
Нясцерпны пояс яе тугі.
Яшчэ паспею,
Яшчэ паспею
Зямлі і людзям
Аддаць даўгі.
Павінен любай я столькі ласкі
(Каб адчужэння лядок не рос),
Галодным — хлеба,
Маленькім — казкі,
Засмяглым травам — каралі рос.
Даўжнік я Прыпяці і Байкала,
Цягнуся думкаю дзень пры дні
Я да Байкала,
Як да бакала
Гаючай свежасці і чысціні.
Не, не ўцяку я адсюль, як заяц,
За той няўмольна глухі рубеж...
Я памалюся:
Яшчэ акраец,
Мой Бог, ад вечнасці мне адрэж!
Маладзіковы блішчыць сцізорык,
Працяўшы цемру ў маім акне.
Пакуль не вечар, а надвячорак,
У дзверы стукайце да мяне!

## Даўгі

Да волі шлях даўгі.
Нас на жыццёвай хвалі
Даўгі,
Даўгі,
Даўгі,
Як ланцугі,
Скавалі...
Хацеў падацца ў лес
Пагаманіць з сасёнкай,
Ды—стоп!
Наперарэз —
Абдымкі з роднай жонкай.
Звальнення не дае,—
Ты ёй заўжды павінны,
Перад табой
яе
Спадніцы хвост павіны...
Унучак мой, сядай:
Я не па абавязку
Табе аддам, бадай,
Як доўг дзядулін — казку.
Усё, што браў, вярні
Без болю і маркоты —
Пазыку дабрыні,
Лагоды і пяшчоты.
Плаці, нібы калым,
Жыццём нядрэмна рупным
І доўг перад былым,
І доўг перад наступным,
Світаюць берагі
Любві — тваёй радзімы...
Даўгі,
Даўгі,
Даўгі,—
Калі іх аддадзім мы!

●

Просіць душа лагоды.
Ахрыплі гарластыя ямбы,
Спяваючы трубныя оды
І згубныя дыфірамбы.
Уласна, а славілі што мы!
Прывідныя вяршыні.
Штодзённа, не знаючы стомы,
Злачынства маны вяршылі.
Долі сваёй старонкі
Перагартаць не ў сіле,
Ганім наперагонкі
Тое, што ўчора хвалілі.
Пабойцеся Бога, людзі,
Адчайна расхрыстваць грудзі,
Каб болькі старыя паказваць...
Вузел самім развязваць!
Ці ж спадзявацца гожа
На тое, што дзядзька паможа!
Са свету, маўляў, па нітцы —
І ты ўжо, глядзіш, у світцы!
Жывём, а не кватаруем:
Самі ў агораным міры
Трэшчыны зацыруем,
Залатаем чорныя дзіры!
Мы зведалі цуд прасвятлення,
Трапіўшы ў рай на аркане:
Змяніла акорд захаплення
Надрыўнае нараканне...
Ці ж мы не самі — дамба,
Якая ўтаймуе нягоды!
Не енку, не дыфірамба, —
Просіць душа лагоды.

Я вытрымаў позірк і дастаў дзве цыгарэты.

— Калі ласка.

— Запалкі.—У голасе другога, таўставатага белабрысага здаравякі, таксама не адчувалася ветлівасці.

Ад іх добра патыхала перагарам.

— Прабачце, не прадугледзелі, — я пасміхнуўся і ўзяў Алеся за рукаў.—Хадзем.

Звязвацца з п'янымі мне не хацелася. Мы рушылі далей.

— Вон на хер адсюль!

Я нават уздрыгнуў ад нечаканасці. Ззаду гучна сплюнулі і брудна вылаяліся. Пажылая пара на суседняй лаўцы хуценька паднялася і знікла ў цемры. Пад лыжачкай моцна засмактала: «Вось яно, пачынаецца». Раптам кінулася ў вочы, як прыгожа блішчыць на бэзавым небе срэбны месяц.

— Спакойна, Віця...—ціхі Алесеў голас суняў пульсацыю ў скронях і надаў упэўненасці.

— Хлопцы, мы вас частуем цыгарэтамі, а вы хаміце,—я стараўся не выдаваць непрыемнага ўзбуджэння.

Белабрысы зноў вылаяўся і пагражальна падняўся з бутэлькай у руцэ. Але не паспеў ён замахнуцца, як Алесеў кулак патрапіў яму ў сківіцу. Клацнулі зубы, і нахабнік паляцеў, зачапіўшыся нагамі за лаўку.

Яго напарнік падскочыў да мяне і схапіў за грудзі. У параўнанні з ім я выглядаў дзіцёнкам. Паспрабаваў адштурхнуцца, але моцныя рукі трымалі, быццам абцугі. Тады я пацягнуў яго за локці на сябе і ўпаў на спіну, упёршыся нагой яму ў жывот. Ён войкнуў, і доўгае цела бразнулася аб зямлю далёка за маёй галавой. Покуль ён ачомаўся й падняўся, я ўжо стаяў напагатове ў баявой стойцы. Заставалася толькі блакіраваць й вяртаць назад удары. Хутка мой праціўнік зразумеў, што супраць мяне доўга не намахаешся і, цяжка дыхаючы, працягнуў руку.

— Досыць, здаюся. Чаго ты ўз'еўся?

— Дык вы ж самі паслалі нас на тры літары,—я таксама быў рады памірыцца і з задавальненнем парукаўся з ім.

— Гэты кораш мой гарачы,—ён з цяжкасцю пераводзіў дыханне.—Я служыў у дэсанце, а ты так лёгка... Займаўся чым?—у яго голасе гучала павага.

— Так, ёсць крыху.—Я дастаў з кішэні насоўку і працягнуў яму.—Вытры шчаку, у цябе кроў.

Мірна перагаворваючыся, мы атрэслі адзенне і пайшлі шукаць таварышаў.

Мы выйшлі на іх за кустамі каля рэчкі. Тое, што адкрылася нашым вачам, было жудасна. Алесь і белабрысы, абодва высокія і дужыя, тапталіся і мясілі адзін аднаго магутнымі ўдарамі. Раз'юшаныя, з разбітымі ў кроў тварамі, яны нагадвалі дзікіх жывёлін, што сышліся ў смяротнай бойцы. Я не пазнаваў у адным з вар'ятаў свайго сябра.

— Хлопцы, вы чаго?!—мы з маім нядаўнім праціўнікам кінуліся да іх.

— Назад! — у хрыпатым рыку было столькі нечалавечай злосці і адчаю, што мы разгублена адступіліся.

Збянтэжаныя, мы моўчкі сядзелі на лаўцы. У цемры нічога не праглядалася, толькі чуліся глухія ўдары ды зрывістае сіпатае хаканне. Ад гэтых гукаў мароз ішоў па скуры. Руды нервова запаліў цыгарэту і дрыжачым голасам сказаў: «Гэта не бойка. Яны пазабіваюць адзін аднаго...»

На чорнай вадзе непадалёк блякла адбіваліся агеньчыкі ліхтароў з другога берага. Нечакана ўсё сціхла і мы ўбачылі, як на фоне начнога неба, хістаючыся, прайшоў да рэчкі цёмны сілуэт. Я кінуўся на бераг.

Алесь ляжаў, схіліўшыся тварам да вады. Разбітыя пальцы ўціскаліся ў мокры пясок. Я намачыў далонь і правёў яму па валасах. Рука адразу стала ліпкай. Аглушаны, я глядзеў на далонь і думаў, што гэта кроў майго сябра. Чалавека, які не здольны пакрыўдзіць нават муху. Такі рахманы і дабрадушны—і раптам жывёльная ярасць? Адкуль? Навошта? Нядаўняя карціна ніяк не ўкладвалася ў галаве. Бедны Алесь, я ўяўляў, што ён зараз перажывае. Пэўна ж, сорамна, таму і не глядзіць на мяне—я добра ведаў характар свайго сябра. Такога ён сабе не даруе.

На душы было прыкра і пуста. З-за хмары вынырнуў месяц і яго святло ўпала на распрасцёртую ля маіх ног нерухомую постаць. Давыпрабоўваліся.

— Давай, Алесь, абмыемся і пойдзем дахаты.

Я дапамог яму больш-менш прывесці сябе ў парадак, і мы пасунуліся на прыпынак.

Размаўляць нам не хацелася.

# І ТОЛЬКІ СТАТУС...

Славутая спрэчка пра першаснасць слова ці справы не згадвае пра думку, —ёсць ад чаго засмуціцца! Цана ёй, думцы, апошнім часам — капейчына, танней за яе, бадай, толькі думка... беларуская; слова беларускае цаны не мае ўжо... Адпаведна, і праца настаўніка, журналіста, артыста, крытыка, перакладчыка, рэдактара і яшчэ шмат каго, чыё слова — хлеб ягоны?..

Два гады ўжо, як беларуская мова набыла статус дзяржаўнай. Прэс-канферэнцыя ў Доме ўрада з гэтай шчаслівай нагоды (яна адбылася 24 студзеня) больш нагадвала брыфінг ці справаздачу. Прынамсі, ніводнага пытання журналісты не задалі: пытанні задавалі прамоўцы і... адказвалі адзін аднаму. Па выніках двух гадоў, паведамілі нам, ёсць што сказаць: працуюць курсы па вывучэнні мовы, пераабсталяваны на беларускую мову некаторыя машынкі ў некаторых арганізацыях, шыльды, пячаткі ды бланкі (тамсама), сям-там пачалі працаваць стылісты-перакладчыкі (каб зручней было ліставацца з Вярхоўным Саветам), абвесткі ў цягніках ды электрычках падаюцца па-дзяржаўнаму, уведзены абавязковыя іспыты па беларускай мове ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах... І яшчэ, і яшчэ... Ад сябе дадам, што маргарын ды вермішэль доўгая цяпер таксама набылі нацыянальнае адценне. «Недаравальна,— заўважыў адзін з прамоўцаў,— што беларуская мова амаль не гучыць сярод гандлёвых работнікаў», —а па мне дык дзякуй Богу, што ў чэргах не чуваць яшчэ і беларускіх праклёнаў...

Міністр культуры сцісла выклаў свае тэзісы, асноўнымі былі наступныя: зрабіць жыццё па-беларуску больш цяжка, як мы (яны ў міністэрстве) думалі, ды працэс адраджэння спыніць немагчыма ўжо. Шаноўныя дэпутаты ад апазіцыі слушна давялі, што закон пра дзяржаўнасць мовы састарэў па некаторых асноўных сваіх палажэннях і на працягу паўгода трэба іх памяняць (дарэчы, і ў сённяшнім выглядзе закон не выконваецца, не ў стане выконвацца, пракурорскага нагляду за ім няма, і на ўсю Рэспубліканскую пракуратуру адна беларуская машынка). Апазіцыю па-свойму падтрымаў міністр інфармацыі і друку: няма заканадаўчых актаў пра выдавецкую дзейнасць, няма закона аб друку, няма паперы і няма як наладзіць яе вытворчасць. («Што гэта ў вас, — мовіў калісь знакаміты літаратурны герой,— за што ні схопішся, нічога няма»). Напрыканцы міністр інфармацыі і друку прапанаваў стварыць фонд абароны беларускага кнігавыдання і сродкаў масавай інфармацыі, нацыянальную канцэпцыю інфармацыйнай прасторы, сапраўдны рынак інфармацыі. А шаноўны пісьменнік працытаваў загад па выдавецтве «Мастацкая літаратура», дзе прапаноўвалася (загадвалася?) тэрмінова спыніць «распачатую з такой помпай «Бібліятэку сусветнай класікі», абедзве рэдакцыі перакладу ліквідаваць, адклікаць з вытворчасці перакладзенае ўжо і замяніць на рускамоўныя пераклады...

Жарты ўбок: кніжны рынак Беларусі нічым не абаронены! Хіба толькі пастановаю Вярхоўнага Савета ад 24 студзеня, якая патрабуе спыніць плынь парнаграфіі, прапаганду культу гвалту і г. д. Быў праект пастановы пра беларускую мову ў сродках масавай інфармацыі, якую Вярхоўны Савет тройчы не прыняў (спадар Шушкевіч прапанаваў перадаць яе на Прэзідыум); тым часам бракуе не толькі (і не столькі) газет, часопісаў, кніг, колькі падручнікаў, — міністр адукацыі слушна вырашыў засяродзіцца на нацыянальных кадрах для школ усіх ступеняў ды на падручніках. З 645 найменняў падручнікаў, паведаміў міністр, толькі 42 не перакладзены на беларускую мову, ды перакладны падручнік — не арыгінальны... Як і адукацыя па-беларуску —не беларуская адукацыя...

Славутая спрэчка пра першаснасць слова і справы не згадвае пра думку,— мо таму, што мае на ўвазе яе, як само сабою зразумелае? Цана думцы па сённяшнім часе — капейчына, ці ж не таму відавочна зрабіліся таннейшымі і словы, і справы? Два гады ўжо, як не працуе закон пра дзяржаўнасць беларускай мовы, два гады, як усе размовы, прамовы ды высновы пра стварэнне беларускамоўнага асяроддзя не сунуцца далей за «следуюшчую астаноўку», назаляючы грамадзянам незалежнай рэспублікі Беларусь сваёю шараговай абавязковасцю. Напраўду, каму патрэбна тое, што не мае ні цаны, ні кошту, ні прэстыжу, ні зразумелай перспектывы, ні інтэлектуальнай вагі, ні мястэчковай выгады?

Адно дзяржаўны статус...

Жана ЛАШКЕВІЧ.

КОНКУРСЫ

# АЛЁ, ТАЛЕНТЫ!

У наш час пераацэньваюцца многія вартасці, але ёсць тое, што, нягледзячы на змены ў жыцці грамадства, не толькі не страчвае сваю вагу, а і набывае больш важкі змест. Гэта духоўнасць, культура, высокаадукаванасць, без чаго, хочацца верыць, немагчыма сапраўднае, цывілізаванае ўваходжанне ў рынак. Гэтымі ж якасцямі і валодаюць тыя, хто заканчвае Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага ў Маскве. Да ўсяго ж яны — людзі адораныя, з задаткамі таленту.

На пачатку сёлетняга года, як і раней, адзін у сваім родзе творчы інстытут у свеце заяўляе: «Алё, мы шукаем таленты!» Заяўляе і звяртаецца да ўсіх таленавітых грамадзян усіх цяперашніх суверэнных дзяржаў, колішніх рэспублік былога Савецкага Саюза. А таксама да маладых пісьменнікаў з краін Амерыкі, Усходняй і Заходняй Еўропы, Азіі і Афрыкі, якія валодаюць рускай мовай. Яны, як і грамадзяне суверэнных дзяржаў, могуць стаць сёлета студэнтамі інстытута. Розніца толькі ў тым, што замежныя грамадзяне прымаюцца ў інстытут па-за конкурсам і навучаюцца за плату. Для астатніх конкурс і яшчэ раз конкурс.

На яго прадстаўляюцца апублікаваныя і неапублікаваныя (надрукаваныя на машынцы) творы ў аб'ёме: паэзія — не менш чым 350 радкоў, проза — не менш чым 35 старонак, драматургія—35 старонак, літаратурная крытыка — не менш чым 35 старонак (прапануюцца на конкурс два артыкулы).

Творчы конкурс праводзіцца па жанрах: проза, паэзія, драматургія, літаратурная крытыка на дзённае і завочнае навучанне, а таксама на дзённае навучанне мастацкага перакладу ў групы крымска-татарскай, хіндзі і англійскай моў. Паступаючыя на аддзяленне мастацкага перакладу прадстаўляюць мастацкі пераклад і арыгінал ва ўказаным вышэй для адпаведнага жанру аб'ёме: крымска-татарская група — з крымска-татарскай, турэцкай ці арабскай мовы (па выбару), хіндзі і англійская групы— з англійскай мовы. Дадаткова могуць быць прадстаўлены ўласныя творы.

Аўтар паведамляе: прозвішча, імя і імя па-бацьку, год нараджэння, нацыянальнасць, адукацыю, працоўны стаж, дзе і кім працуе на сучасны момант, хатні адрас і на якое аддзяленне (дзённае ці завочнае) паступае. Да творчай работы неабходна прыкласці аўтабіяграфію і канверт са зваротным адрасам.

Сёлета абітурыенты, якія паспяхова прайшлі творчы конкурс, здаюць пісьмовы эцюд на зададзеную тэму, пісьмовы экзамен па рускай мове (ізлажэнне), вусны экзамен па рускай мове і літаратуры. Праводзіцца гутарка па выніках творчага конкурсу і ўступных экзаменаў.

Экзамены праводзяцца: на дзённае аддзяленне з 25 ліпеня па 7 жніўня; на завочнае аддзяленне — з 17 па 29 жніўня. Тэрмін навучання адпаведна пяць і шэсць гадоў. Перавод з іншых ВНУ не праводзіцца. Конкурсныя работы не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Па даведкі звяртацца па адрасу: 103104, г. Масква, Цвярскі бульвар, 25. Прыёмная камісія. Тэлефон: 202-06-02.

Алё, таленты, адгукніцеся на покліч Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага!

АБ'ЯВА

# Помнік Каліноўскаму: конкурс працягваецца

Арганізатары раней абвешчанага адкрытага рэспубліканскага конкурсу на стварэнне помніка Кастусю Каліноўскаму ў г. Гродна інфармуюць, што тэрмін падачы праектных матэрыялаў журы працягнуты да 1 ліпеня 1992 года.

Саюз мастакоў Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне мастаку Аляксею МАРАЧКІНУ з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерцю маці Хадоры Хролаўны.

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь з жалем паведамляе аб смерці прафесара Белдзяржкансерваторыі імя А. В. Луначарскага заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Ірыны ЦВЯТАЕВАЙ і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.

HOMO HUMANUS

# ПРЫЧАСЦЕ ПАЧАЛОСЯ

Мусіць, упершыню за пасляваенны час многія мінчане (і жыхары іншых гарадоў і вёсак) сустракалі сёлетні Новы год без... хлеба. І, мусіць, упершыню за апошнія пяць год многія з нас «негодовали» моўчкі: усе, хто дагэтуль перашкаджаў ладзіцца дэмакратыі, — спаверtargнуты, найбольш актыўныя «перашкаджальшчыкі» пасаджаны ў астрог «Матросская тишина», а самыя нудныя — адпраўлены ў адпачынак. А хлеба — няма.

Яно было б не так прыкра, калі б хапала хлеба духоўнага. Аднак... Здавалася б, дэмакратам, якія прыйшлі да кіраўніцтва тэлебачаннем у Маскве (а ЦТ і РТ больш займаюць нашу ўвагу, чым БТ), ніхто не перашкаджае «несці» ў грамадства новую, прагрэсіўную свядомасць, «агульначалавечыя ідэалы»... Але мы бачым, што эстэтычны імідж «якаўлеўскага» тэлебачання прайграе ў параўнанні з эпохай Л. Краўчанкі. Тэлеэкран запоўнены кампаніямі падвыпіўшых артыстаў, якія спрабуюць надаць мастацкае гучанне сваім успамінам пра дзяцінства; эмігрантамі, якія са спакойным сумленнем называюць нас «совками» і глыбакадумна павучаюць, як жыць; блазнуючымі шоумэнамі, якіх выхоўвалі не тэатральныя падмосткі, а тлумныя «кабакі» і «тусовачныя» падвалы... ТАКІЯ «лекары» спрабуюць лячыць хворае грамадства. Ці не ім параена: «Врачу, исцелися сам»?

Хутка мы зразумеем, што «дэмакратычная» зададзенасць ва ўспрыманні падзей зрабіла дрэнную паслугу. Усё, што надыходзіла пад лозунгам «дэмакратызацыі», аўтаматычна, без сумненняў залічвалася на рахунак «новай свядомасці», «агульначалавечых каштоўнасцяў» і да т. п. Як высвятляецца зараз, спадзяванні не спраўдзіліся, нічога новага і выратавальнага мы не атрымалі, хутчэй за ўсё наадварот: паболела «лаўцоў чалавекаў», хто яшчэ ўчора марыць не мог пра такую перспектыву. Мяняюцца ідэалагізмы (за апошнія гады мы начуліся іх багата), але змены карэннай — сапраўднага АДУХАЎЛЕННЯ жыцця — дагэтуль не адбылося.

Сёння, на мой погляд, застаецца толькі адзін шанец такой змены, і заключаецца ён у тым, што застаецца **пакуль што** неспаганенай і неспавергнутай Царква. «Дэмакратычная паводка» здолела разбурыць практычна ўсе колішнія структуры: партыю, дзяржаўнасць, армію, — а Царква па-ранейшаму застаецца «краевугольным» каменем у жыцці мільёнаў беларусаў і жыхароў рэспублікі. У вёсцы, правінцыйных гарадках (ды і ў сталіцы) цэрквы, касцёлы і малельныя дамы з'яўляюцца практычна адзінымі ачагамі духоўнасці. І менавіта на гэты — ці не апошні? — ачаг духоўнасці распачынаецца, так бы сказаць, мэтанакіраваная атака «дэмакратычных сіл». Асабліва дастаецца Праваслаўнай Царкве, якая для вольнай прэсы быццам костка ў горле: маўляў, бастыён кансерватызму і г. д.

Сапраўды, Царква застаецца **апошняй** структурай на шляху «дэмакратычных пераўтварэнняў». Але задамося пытаннем: ці такая ўжо шкодная для грамадства рэч структура? Бадай, сама па сабе структура — пазітыўная з'ява для любога грамадства, прыкмета яго ўстойлівасці. Царква і застаецца такой структурай, якая зрабілася апошнім прыстанішчам для тысяч «униженных и оскорбленных» — тых звар'яцелых людзей, каго сусветная прапаганда называе «хомо советикус». На нашых вачах збываецца біблейскае: «Прыйдзіце да мяне ўсе змучаныя і я супакою вас».

Надыходзіць час пераасэнсаваць ролю рэлігіі ў грамадстве. Рэлігійныя святы, якія мы нядаўна ўпершыню святкавалі як святы дзяржаўныя (каталіцкае і праваслаўнае Нараджэнне Хрыстова), на многіх паўплывалі. Упершыню слухаючы па радыё праваслаўную літургію 7 студзеня, шмат хто задумаўся, наколькі прымітыўным быў падзел людзей на «веруючых» і «няверуючых», наколькі недарэчна гучалі сцвярджэнні «Бог ёсць» і «Бога няма»... Шмат хто ўпершыню ў жыцці зайшоў у царкву і паставіў свечку альбо набраў на Хрышчэнне асвячонай вады, шмат хто, мо й на схіле гадоў, упершыню ў жыцці, нясмела, перажагнаўся... Можа, у гэтым унутраным трымценні і нараджаецца «новы чалавек»?

Грамадства наша даўно знаходзіцца перад рэлігійным прычасцем, патрэба гэтая адчувалася і раней, ды толькі ідэалагічная мадэрнізацыя адцягвала яе на будучае. Сёння гэты момант надышоў. Дасюль духоўны стан грамадства толькі фармальна насіў рэлігійную афарбоўку. Цяпер наша «утылізаваная» ментальнасць нарэшце можа скінуць мёртвыя аковы спажывецкасці і стаць ДУХОЎНАЙ па сутнасці. Балазе, спажывецкі разлад як ніколі падштурхоўвае да рэлігійнасці.

Так, менавіта **рэлігійнасці.** Нам, са звычкай да спрошчанага разумення быцця, цяжка з гэтым прымірыцца. Раней, калі газета ці тэлеперадача «некрытычна» асвятляла рэлігійнае жыццё, гучалі папрокі — маўляў, «зашмат рэлігіі» (ці — «раней пра рэлігію не пісалі, а зараз у гэтым плане перабор»). Так ці інакш Царкву і сёння «адлучаюць» ад сродкаў масавай інфармацыі, спрабуюць заціснуць на перыферыю грамадскага жыцця.

Тым часам усе спробы стварэння новай гуманістычнай ідэалогіі, якія абыходзілі Царкву, аказаліся няўдалымі. Але пытанне «рэлігізацыі», напрыклад, друку складанае. Як аргумент «супраць» прыводзіцца прыклад заходніх краін, дзе рэлігія з'яўляецца прыватнай справай. Толькі замоўчваецца тая акалічнасць, што да гэтага Захад перажыў перыяд прапаганды рэлігіі, зрабіўшы хрысціянства дамінуючым у духоўным жыцці. У нас складваецца такая ж сітуацыя, і роля сродкаў масавай інфармацыі, журналістыкі ў ёй надзвычайная. У свой час прэса выхоўвала камуністычную «сознательность», выконвала сацыяльны заказ дзяржавы. Ці апраўдана сёння пазіцыя быць «па-за» справамі Царквы? Калі б сапраўды грамадства мела трывалае маральнае апірышча, дык такая «бесстароннасць» выглядала натуральнай. Калі б...

Варта заўважыць, што выпады супраць «хрысціянізацыі» газет і эфіру зыходзяць з боку тых, хто не спавядае хрысціянства, каму яно варожае менавіта з-за асабістага рэлігійнага выхавання.

Могуць закінуць: чаму перавага аддаецца хрысціянству, ізноў іерархія... Відаць, ніхто не возьмецца аспрэчваць той факт, што хрысціянскія канфесіі на Беларусі з'яўляюцца дамінуючымі. Што ж да іншых канфесій і рэлігій — іудзейства, мусульманства, індуізм, — дык ёсць краіны, у якіх яны з'яўляюцца дзяржаўнымі і адпаведна прапагандуюцца. У нас жа традыцыя хрысціянская. Праваслаўная Царква займае ў ёй ці не вядучае



Фота Аляксея МАЦЮША.

месца. Раней дзяржава, дэклараваўшы сваё аддзяленне ад царквы, тым не менш чэпка трымалася за Рускую Праваслаўную Царкву. Фактычна гэта была дзяржаўная царква. І зараз, можа, па інерцыі, большае асвятленне ў СМІ атрымалі праваслаўныя святы. Думаецца, інфармацыйная палітыка ў гэтай сферы з цягам часу зробіцца больш пластычнай...

Блюзнерская імітацыя рэлігійнасці ўсім нам надакучыла. Ёсць рэчы, у якія нельга «гуляць». Асабліва калі пад час гульні льецца кроў і галадаюць дзеці. Можа, наша жыццё палепшыцца, калі нашы дзеці пойдуць у першы клас, цвёрда ведаючы запаветы Маісея і малітву «Ойча наш»; калі мы станем паважаць мёртвых іісна шанаваць жывых; калі перад кожнай адказнай і не вельмі адказнай справай мы запытальна паглядзім на Неба, чакаючы дазволу на дзеянне, калі... Многа, безліч такіх «калі» набярэцца, а зводзяцца яны да аднаго: адчуць Бога ў бліжнім і ў сабе. Верагодна, тады і зменіцца матывацыя нашых паводзін, бо многія рэчы зробяцца драбязой у параўнанні з Вечнасцю. І тады мы пачнём шукаць багацце не на Зямлі, а над ёй, можа, дабяромся і да Неба.

Юрась ЗАЛОСКА.

Марцін КОЎЗКІ

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Што рабіць? Розныя лідэры ў розны час адказвалі нам на гэта пытанне па-рознаму: Ленін — разбудоўваць партыю, Сталін — нішчыць і нішчыць, як партыю, так і народ, Хрушчоў — садзіць кукурузу там, дзе яна не расце, Брэжнеў — упрыгожваць фасад развітога сацыялізму ордэнамі, Андропаў — шманаць, Чарненка — шукаць кадры ў канцылярыях, Гарбачоў — працэс пайшоў, хоць і некіруемы, Ельцын — не ведаю, скажу пасля сустрэчы ў Мінску. Дык як жа нам жыць, спадары? Можа, сваім розумам?

●

Веру, мы калі-небудзь спытаем у Слюнькова, Саўчанкі, Камая за падман у Страшны Першамай. Дзеці тупалі, да вас цягнулі рукі, пунсавела мора кумача, не было між імі вашых ўнукаў, чым жа горшымі былі за вашых іншыя «ўнукі Ільіча»?

●

На помнік, што пільнуе дом з калонамі, штодня злятае нейкая варона. Свае там адкладае макароны і топчацца, адважная персона. Скідаем істуканаў мы з праклёнам, а хай сталі б — з каронаю-варонай.

●

У адным парку культуры і адпачынку паставілі скульптуру «Шчаслівае дзяцінства», а каб дзеці не караскаліся на яе, запрасілі на працу педагога - выхаваўцеля. Рэвізоры ўгледзелі ў гэтым парушэнне штатнай дысцыпліны, і тады скульптуру ababілі дошкамі. На балансе яна засталася, а выдаткаў ужо не патрабавала. «Вось каб увесь ваш парк так», — задуменна сказалі рэвізоры.

●

Едзем рана на трамваі, ўнучка ледзь не засынае. Дома пасля калыханкі доўга круціцца бялянка. Што ж там за начальства рашала ў Крамлі, калі нам прачынацца і класціся калі?

●

Размова ў поездзе. Знарок нас нехта бы разводзіць і рве жывое напалам. Вось, скажам, плацяць нам на ўсходзе зусім не так, як плацяць там. Дык жа за брамай пагранічнай я без круцельства і маны за пляшку нашае пшанічнай бяру прыстойныя штаны. Задача, значыцца, тады, каб сноўдацца туды-сюды. Нашто ж узводзіць перашкоды і рушыць дружбу двух народаў? Прыязнасці няма цаны, калі гарэлка — за штаны.

●

АнтыСНІД (антырэклама). Страшыцеся эротыкі — застойнага балота. Ратуйцеся аэробікай, дыетаю, дрымотай. Прымайце самі захады, каб пошасць неяк згінула, а дойме вас эротыка, дык толькі з палавінаю...

●

Амерыка Расіі падарыла параход. Амерыцы Расія — зусім сакрэтны код. Нашто нам параход, нашто сакрэтны код, даруюць нам свабоды, а што пакласці ў рот?

●

Нішчылі сабак — каб не шалелі, кошак — каб малыя не хварэлі, васількі — каб звесці пустазелле, гэтак нашы душы здзервянелі. Дык жа недзе ў чужых краях сам «вялікі» біў па вераб'ях.




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.





Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12